


**МІНСК. 30 студзеня 1986 года. Прэзідыум XXX з'езда Камуністычнай партыі Беларусі. Са справаздачным дакладам выступае першы сакратар ЦК КПБ таварыш М. М. Слюнькоў.**

У памяшканні Мінскага акруговага Дома афіцэраў, дзе праходзіў XXX з'езд Камуністычнай партыі Беларусі, атмасфера была і святочная, урачыстая, і дзелавая.

806 членаў ленінскай партыі былі выбраны дэлегатамі вышэйшага форуму камуністаў рэспублікі — лепшыя з лепшых рабочыя і механізатары, жывёлаводы, загадчыкі ферм; работнікі партыйных і савецкіх органаў, кіраўнікі і спецыялісты прадпрыемстваў, будоўляў, калгасаў і саўгасаў, работнікі навукі, асветы, аховы здароўя, культуры, мастацтва, літаратуры і друку; воіны Савецкай Арміі. Сярод іх Яўген Іванавіч Клімчанка — брыгадзір слесараў-інструментальшчыкаў аб'яднання «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна», член ЦК КПСС, Герой Сацыялістычнай Працы; Уладзімір Васільевіч Серавокі — машыніст горнага камбайна аб'яднання «Беларуськалій», дэпутат Вярхоўнага Савета БССР; Ніна Іванаўна Дзенісенка — ткачыха Магілёўскай стужкаткацкай фабрыкі; Леанід Апанасавіч Тозік — брыгадзір комплекснай брыгады аб'яднання «Мінскпрамбуд», Герой Сацыялістычнай Працы; Васіль Ільіч Гарнак — брыгадзір вадзіцеляў Гомельскага аўтакамбіната № 1, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР; Святлана Міхайлаўна Дзмітрэнка — рабочая віцебскай абутковай фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік», Лідзія Дзмітрыеўна Брызга — апаратар машыннага даення кароў калгаса-камбіната «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна, член Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС, Герой Сацыялістычнай Працы; Іван Рыгоравіч Сініцкі — звеннявы саўгаса «Загальскі» Любанскага раёна, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, поўны кавалер ордэна Працоўнай Славы; Ганна Сямёнаўна Шчэцька — апаратар па гадоўлі буйной рагатай жывёлы калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Стаўбцоўскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы; Іван Іванавіч Куроўскі — трактарыст эксперыментальнай базы «Пагародна» Воранаўскага раёна, поўны кавалер ордэна Працоўнай Славы; Лідзія Міхайлаўна Дзімянкова — старшы прадавец магазіна № 4 Магілёўскага гархарчгандлю; Любоў Уладзіміраўна Хатылёва — дырэктар Інстытута генетыкі і цыталогіі, заслужаны дзеяч навукі рэспублікі, акадэмік АН БССР; Ала Пятроўна Агаркава — настаўніца Высокаўскай сярэдняй школы Камянецкага раёна, заслужаны настаўнік БССР і многія іншыя.

У справаздачным дакладзе ЦК КПБ XXX з'езду першы сакратар ЦК КПБ М. М. Слюнькоў падкрэсліў, што намаганні камуністаў Беларусі засяроджваліся на рэалізацыі распрацаванай XXVI з'ездам КПСС праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Вядома, што адзінаццатая пяцігодка, як у краіне, так і рэспубліцы, складвалася няпроста. Прычыны былі розныя, але галоўная з іх — адсутнасць настойлівай і паслядоўнай барацьбы за выкананне заданняў, недахопы ў рабоце па мабілізацыі людзей на рэалізацыю намечанага.

ЦК КПСС, яго Палітбюро на аснове глыбокага аналізу прынцыпова і смела раскрылі аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны, якія тармозяць наш рух наперад, прынялі рашучыя меры для выпраўлення становішча. Партыя ўзяла курс на развіццё ініцыятывы і творчага падыходу да справы, павышэнне адказнасці, умацаванне дысцыпліны і парадку.

Камуністы, працоўныя рэспублікі справай падтрымалі гэты курс. ЦК Камуністычнай партыі Беларусі распрацаваў і ажыццявіў шэраг мер па ўдасканаленню стылю і метадаў дзейнасці партыйных камітэтаў, савецкіх і гаспадарчых органаў, грамадскіх арганізацый. Усё гэта дапамагло павысіць актыўнасць людзей, паскорыць тэмпы развіцця эканомікі, палепшыць маральна-псіхалагічны клімат, узняць калектывы на больш напружаную працу і выканаць пяцігодку па асноўных паказчыках. Валавы грамадскі прадукт павялічыўся на 26,5 працэнта, нацыянальны даход — на 32,5 працэнта пры заданні 23,3. Сярэднегадавы тэмп прыросту нацыянальнага даходу склаў 5,8 працэнта супраць 5,1 у папярэдняй пяцігодцы. Прадукцыйнасць грамадскай працы павысілася на 30 працэнтаў. Датэрмінова справіліся з заданнямі пяцігодкі работнікі прамысловасці. Аб'ём вытворчасці павялічыўся на 29,6 працэнта, прадукцыйнасць працы — на 21,4. Прыкметны паварот да лепшага намеціўся ў капітальным будаўніцтве.

Пазітыўныя перамены адбываюцца ў аграрным сектары эканомікі. Пераломнымі сталі апошнія тры гады, калі вытворчасць малака павялічвалася штогод у ся-

# З ІМЕМ ЛЕНІНА Ў СЭРЦЫ

**30—31 СТУДЗЕНЯ 1986 ГОДА Ў МІНСКУ ПРАХОДЗІЎ XXX З'ЕЗД КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.**

**СА СПРАВАЗДАЧНЫМ ДАКЛАДАМ ЦК КПБ XXX З'ЕЗДУ ВЫСТУПІЎ ПЕРШЫ САКРАТАР ЦК КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ ТАВАРЫШ СЛЮНЬКОЎ М. М.**

**СА СПРАВАЗДАЧНЫМ ДАКЛАДАМ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ ВЫСТУПІЎ СТАРШЫНЯ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ КПБ ТАВАРЫШ ЦЯБУТ Д. В.**

**З ДАКЛАДАМ «АБ ПРАЕКЦЕ ЦК КПСС «АСНОЎНЫЯ НАПРАМКІ ЭКАНАМІЧНАГА І САЦЫЯЛЬНАГА РАЗВІЦЦЯ СССР НА 1986—1990 ГАДЫ І НА ПЕРЫЯД ДА 2000 ГОДА» ВЫСТУПІЎ СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ БССР ТАВАРЫШ КАВАЛЁЎ М. В.**

**АДБЫЛІСЯ ВЫБАРЫ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ І РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ КПБ.**

рэднім на 232 тысячы тон, мяса — на 83 тысячы і былі выкананы планы продажу дзяржаве ўсіх асноўных відаў сельскагаспадарчай прадукцыі.

У цэнтры ўвагі Кампартыі Беларусі пастаянна знаходзіліся пытанні павышэння жыццёвага ўзроўню людзей. Рэальныя даходы ў разліку на душу насельніцтва выраслі на 12 працэнтаў. Заработная плата рабочых і служачых павысілася на 15 працэнтаў, аплата працы калгаснікаў больш чым у паўтара раза. Уведзена ў эксплуатацыю больш як 23 мільёны квадратных метраў жылля. Кожны пяты жыхар Беларусі палепшыў свае жыллёвыя ўмовы. Далейшае развіццё атрымалі асвета, ахова здароўя, культура. Было асабліва падкрэслена, што пытанні, якія звязаны з паскарэннем навукова-тэхнічнага прагрэсу, павінны быць ключавымі ў рабоце партыйных камітэтаў і арганізацый.

Дэлегаты XXX з'езда КПБ, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні справаздачнага даклада, гаварылі аб вялікіх пераменах, што адбываюцца цяпер у жыцці ўсяго савецкага грамадства. Гаварылі аб тых велічных задачах, якія партыя ставіць перад працоўнымі краіны, аб павышэнні адказнасці на кожным рабочым месцы, аб паляпшэнні гаспадарскіх адносін да вытворчасці, працоўнай дысцыпліны; з патрабавальнай зацікаўленасцю падыходзілі да ацэнкі сваёй работы. Гэта надало атмасферы, у якой праходзіў з'езд, дзелавы, прынцыповы, творчы характар.

З дакладам «Аб праекце ЦК КПСС «Асноўныя напрамкі эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гады і на перыяд да 2000 года» выступіў Старшыня Савета Міністраў БССР М. В. Кавалёў. Дэлегаты, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні даклада, адобрылі яго палажэнні, выказалі шэраг прапаноў.

У прынятай рэзалюцыі з'езд ад імя 668-тысячнай арганізацыі камуністаў Беларусі адзначыў, што Кампартыя Беларусі за справаздачны перыяд ідэйна яшчэ больш загартавалася, арганізацыйна ўмацавала свае рады, узбагацілася новым вопытам арганізатарскай і палітычнай работы, узмацніла сувязь з масамі. Пад яе кіраўніцтвам забяспечан далейшы рост эканамічнага патэнцыялу рэспублікі, рэалізавана шырокая сацыяльная праграма. Узрасла грамадска-палітычная і вытворчая актыўнасць людзей, узмацніліся іх імкненне ўсямерна ўмацоўваць брацтва, дружбу з усімі народамі Краіны Саветаў, самаадданай працай прымнажаць і далей эканамічную і абаронную магутнасць сацыялістычнай Радзімы. З'езд Кампартыі Беларусі абавязаў камуністаў накіраваць усю арганізацыйна-палітычную і гаспадарча-эканамічную дзейнасць на паспяховае выкананне рашэнняў маючага адбыцца XXVII з'езда КПСС, планаў дванаццатай пяцігодкі, паслядоўнае ажыццяўленне стратэгічнага курсу партыі на павышэнне тэмпаў і эфектыўнасці развіцця эканомікі на базе паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу, тэхнічнага пераўзбраення і рэканструкцыі вытворчасці, інтэнсіўнага выкарыстання створанага вытворчага патэнцыялу, удасканалення сістэмы кіравання, гаспадарчага механізма і дасягнення на гэтай аснове далейшага ўздыму дабрабыту людзей.

Пры закрыцці з'езда з прамовай выступіў першы сакратар ЦК КПБ М. М. Слюнькоў.

**Адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, выбранага XXX з'ездам КПБ.**

**Першым сакратаром і членам Бюро ЦК КПБ выбран таварыш СЛЮНЬКОЎ М. М.**

**Другім сакратаром і членам Бюро ЦК КПБ выбран таварыш БАРТАШЭВІЧ Г. Г., сакратарамі і членамі Бюро ЦК КПБ — таварышы КУЗЬМІН А. Т., ЛЯПЁШКІН У. А., ДЗЕМЯНЦЕЙ М. І., КОЛАКАЛАЎ Ю. Б.**

**Пленум выбраў членамі Бюро ЦК КПБ таварышаў ТАРАЗЕВІЧА Г. С., КАВАЛЁВА М. В., БАЛУЕВА В. Г., БОРЫСА В. І., ЕЎТУХА У. Г., ЛАГІРА М. І., МАЛАФЕЕВА А. А., ПОЛАЗАВА М. Н., ХУСАІНАВА Ю. М., ШУРАЛЁВА У. М.**

**Кандыдатам у члены Бюро ЦК КПБ выбран таварыш ГУРЫН В. В.**

**Пленум зацвердзіў загадчыкаў аддзелаў ЦК КПБ, старшыню партакамісіі пры ЦК КПБ, рэдактараў газет «Звязда», «Советская Белоруссия», «Сельская газета», часопіса «Коммунист Белоруссии».**

**Старшынёй Рэвізійнай камісіі КП Беларусі выбран на яе пасяджэнні таварыш ЯКУШАЎ І. Ф.**



**Пісьменнікі — дэлегаты з'езда (злева направа) А. К. Сульянаў, Н. С. Гілевіч, М. Танк (Я. І. Скурко), Г. М. Бураўкін, І. Я. Навуменка, І. П. Шамякін.**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.**

#### ПАРТРЭТ ДЭЛЕГАТА

Марыя Баляславаўна БАЖКО — брыгадзір паляводаў у саўгасе «Маліноўшчынскі» Маладзечанскага раёна. Гаспадарка гэта перадавая, моцная, славіцца важкімі ўраджаямі. Калі вам надарыцца пабываць у гэтых мясцінах у канцы лета — абавязкова знайдзіце магчымасць палюбавацца палеткамі, на якіх працуе яе калектыў.

Чаму мы так упэўнена гаворым аб будучых дарах нівы? Ды таму, што дэлегат XXVII з'езда КПСС М. Б. Бажко, яе таварышы па працы настроены аптымістычна. І гэты аптымізм мае надзейны фундамент: любоў да справы, выдатнае веданне ўсіх яе тонкасцей, высокае прафесійнае майстэрства кожнага.



#### ПАДАРУНАК

## ВЯСЕННІ СЮРПРЫЗ

Больш як паўгода рыхтаваў сюрпрыз жонцы мінчанін У. Б. Дашкевіч. І вось сонечным вясеннім днём разам з букецікам традыцыйных мімоз паднёс ёй... вуснае запрашэнне да невялікага сямейнага аўтапрабегу. На нябесна-блакітных «Жыгулях» — можна сказаць, рэліквіі. Не таму, што канструкцыя машыны нейкая асаблівая,— яна якраз звычайная — а таму, што ўладальнікам яе Уладзімір Барысавіч стаў пад час самага першага розыгрышу спартыўнай латарэі, якая праводзілася на стадыёне «Дынама» ў перапынку футбольнага матча.

Скажам прама: не паслухаў тады сваю жонку кіраўнік групы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння Мінскага завода аўтаматычных ліній У. Б. Дашкевіч, купіў білет, пайшоў на футбол і нечакана для самога сябе выйграў галоўны прыз латарэі. Усю зіму праўдзіўся шчаслівы ўладальнік «Жыгулёў» на курсах вадзіцеляў і з простага пешахода ператварыўся ў аўтааматара. А супраць такой метамарфозы жонкі, асабліва напярэдадні 8 Сакавіка, слова лішняга не скажуць.




#### З БЛАКНОТА РЭПАРЦЁРА

## ПА ТОНКІМ ЛЁДЗЕ

Сакавіцкі туман і вецер не надта спрыяюць падлёдная лоўлі. Але ніякія капрызы надвор'я не могуць спыніць сапраўдных аматараў гэтага зімовага спорту, што разам са мной спяшаюцца ў электрычцы да загарадных вадаёмаў. Нас лёгка пазнаць па экіпіроўцы. І — па размовах.

«Рыбацкія байкі» — нашы частыя спадарожнікі. Вось і цяпер чую:

— Кажаш, карасёў днямі вудзіў? Ну і насмяшыў! Не клююць яны зімой і вясной ранняй. Запомні.

Байкі байкамі, а карасёў між тым і зімой можна лавіць паспяхова. Рэдка, праўда, спакусіцца каторы з іх на такую прынаду, як матыль. І ўсё ж — здараецца. Гэта вам спецыялісты з навукова-даследчага інстытута «Рыбапраект» могуць пацвердзіць. Супрацоўнікі інстытута таксама ёсць у нашай кампаніі. Добра мець справу са спецыялістамі, якія заўсёды могуць расставіць кропкі над «і».

Вось адзін з прызнаных, як відаць, «баечнікаў» рашуча заяўляе:

— Няма такой рыбы — рыбец. Дваццаць гадоў лаўлю, не траплялася. Можа, дзе й водзіцца, ды толькі не ў нашых мясцінах. Яе тут ніколі не было.

Як катэгарычна! І не зусім правільна. Менавіта рэкі Беларусі славіліся некалі далікатэсным рыбцом. Як, дарэчы, і марэнай. Той самай, што прымушала вудзільшчыкаў з берагоў Бярэзіны шырока разводзіць рукамі, расказваючы пра ўлоў: з метр даўжынёй і да 12 кілаграмаў вагой траплялiся ім аліўкава-зялёныя трафеі.

Траплялiся...

І ўсё ж тут не да месца занадта сумная нота. Таму што ў апошнія 2—3 гады, здаецца, намецілася добрая тэндэнцыя: больш беражліва стаў адносіцца чалавек да прыроды — багацейшымі становяцца вадаёмы. Вядзецца іх пашпартызацыя. На навуковай аснове рэгулюецца водны баланс больш як ста дваццаці малых рэчак. У многіх гарадах пабудаваны ўжо і функцыяніруюць цэнтралізаваныя сістэмы поўнай біялагічнай ачысткі сцёкавых вод. Аб гэтым паведамілі нашы спадарожнікі — спецыялісты інстытута. Расказалі яны і пра тое, што для паляпшэння воднага рэжыму малых рэк уведзена ў дзеянне каля шасцісот вадасховішчаў і сажалак агульнай ёмістасцю звыш шасцісот мільёнаў кубічных метраў. На пяцістах сарака тысячах гектараў меліяраваных зямель створаны польдэрныя сістэмы. Энергічна праводзіцца работа па залужэнню рачных берагоў.

Чысціня «блакітнай нівы», добрыя ўмовы для нерасту рыбы абавязкова зробяць больш багатымі ўловы рыбакоў-аматараў.

#### ГЭТА ЦІКАВА

## РЭКОРДЫ ДАЎГАЛЕЦЦЯ

Яблыня-цуд расце побач з гадавальнікам Дзяржынскага лясніцтва. Яна, як сцвярджаюць старажылы, не перастае плоданасіць вось ужо на працягу 120 гадоў. Садаводы ўпэўнены, што і сёлетняй вясной яблыня зацвіце.

Дзіўны факт? Вядома. Яблыня ў свеце раслін доўгажыхарствам не вызначаецца. Іншая справа — ліпа, для якой і 200 гадоў не старасць. 5—6 стагоддзяў запар можа радаваць яна пчол сваім нектарам. Аднак сапраўдны вартавы вечнасці — макразамія. Вучоныя-батанікі мяркуюць, што яна здольна пражыць 15000 гадоў. Радзіма гэтага экзатычнага дрэва — Аўстралія.

#### САМАЕ-САМАЕ

## «УНДЭРВУД»-ПАДАРОЖНІК

Толькі тады можна па-сапраўднаму палюбіць прафесію, калі ведаеш яе гісторыю. Гэта паспяхова даказваюць на практыцы навучэнцы, якія займаюцца ў кабінеце машынапісу і сучаснага справаводства Партызанскага вучэбна-вытворчага камбіната горада Мінска. Тут створаны адзіны ў сваім родзе музей, сапраўдным аматарам якога з'яўляецца выкладчыца камбіната Ганна Мікалаеўна Хініч. Экспанатаў у ім — дзесяткі. А самы, бадай, цікавы — нязграбны «Мерседэс» — машынка, на якой друкавалі яшчэ нашы бабулі.

Нядаўна мінчанка С. А. Пелех перадала ў дар музею прывезены некалі з Аргенціны «Ундэрвуд». Гэту самую першую рычажна-сегментную машынку цяпер можна ўбачыць толькі ў музеі.



здзівіла: нашы калегі, з усяго відаць, зрэдку занатоўвалі ў сваіх блакнотах жаночыя імёны. Хіба толькі пад рубрыкай «Хроніка» называлі свецкіх дам, якія прысутнічалі на пышных балях. А ў рэпартажах, інтэрв'ю, карэспандэнцыях — адны мужчыны. Банкіры і гутнікі, рамеснікі і купцы, банкруты і нуварышы, уладальнікі портэрных і модных рэстарацый...

— Прынамсі, некалі мужчыны лічылі сябе незаменнымі кухарамі. Але бачыла я, як кволыя з выгляду дзяўчаты спрытна і хутка завіхаліся каля вялікіх катлоў, як яшчэ паспявалі дапамагчы прадстаўнікам «моцнай палавіны чалавецтва»,— расказвае повар камбіната грамадскага харчавання мінскага ВА «Гарызонт» Тамара Арлова.— Вы звярнулі ўвагу: юнакі куды як ахвотней становяцца барменамі, афіцыянтамі, чым поварамі. Зазірніце на кухню сталовай ці рэстарана — наўрад ці сустрэнеце іх там.

Мы былі вымушаны згадзіцца. І з задавальненнем прынялі запрашэнне папалуднаваць разам са стваральнікамі тэлевізараў.

Скажам шчыра: усё аказалася вельмі смачна!

Нам у гэты дзень увогуле шанцавала. Вось і салістка ансамбля «Верасы» Ядвіга Паплаўская аказалася дома. Разам з дачкой Насцечкай. А такое бывае даволі рэдка: нічога не зробіш — прафесія...



САКАВІЦКІ ФОТАРЭПАРТАЖ

# РУКІ ЗАЛАТЫЯ

Яны навучылі беларускі фарфор быць лёгкім, грацыёзным, прыгожым. Такім, што самыя дасведчаныя знаўцы яго таямніц былі вымушаны прызнаць: так, прадукцыя Мінскага фарфоравага завода адказвае вышэйшым сусветным стандартам.

Сто гадоў споўнілася гэтаму прадпрыемству, на якім мы і пазнаёміліся з кантралёрам Таццянай Мікалаеўнай Хадасевіч (уверсе справа).

Што ведае яна аб далёкім мінулым завода?

— Калі рыхтаваліся да юбілею — прагледзелі падшыўкі старых газет. Аказваецца, «Минский листок» пачатку стагоддзя прадказваў: змрочная будучыня чакае пасудных спраў майстроў з берагоў Нямігі. Таму што ніколі іх вырабы не змогуць канкурыраваць з таварамі, якія прывозяць заморскія купцы. Як бачыце — памыліліся рэпарцёры,— усміхнулася Таццяна Мікалаеўна.

Пасля гэтай сустрэчы на фарфоравым мы таксама перагарталі пажоўклыя падшыўкі «Минского листка». І вось што

Мы гутарылі пра музыку і творчасць, новыя работы і маючыя адбыцца гастролі. А потым запыталі Насцю:

— Ты ведаеш такую песеньку: «Я ў бабулі жыву...»?

— Ведаю! Яе мама з татам спяваюць. Я па тэлевізары бачыла...

— А тэлевізар з кім глядзела?

— З бабуляй...

□□□

Стварыць цудоўны чайны сервіз і арыгінальны праект мікрараёна, сабраць малюсенькі наручны гадзіннік і зварыць смачны абед, упраўляцца адразу з дзесяткамі ткацкіх станкоў і праспяваць задушэўную песню — усё могуць жанчыны. І цяжка сёння назваць прафесію, авалодаць якой ім было б не пад сілу: у жанчын нашых — рукі залатыя.



ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## КАРАЛІ ЗА ПАРТАМІ

Кароль белы і кароль чорны. Іх коні, сланы і пешкі не рыхтаваліся ў гэты вечар да рашучых паядынкаў. Яны ўсміхаліся і ветліва віталі прысутных.

А зала была перапоўнена. Сюды, у мінскую сярэднюю школу № 61, на свята-маскарад «Шахматнае прадстаўленне» прыйшлі спартсмены шахматных секцый горада, а таксама шахматысты з Індыі, якія знаходзіліся ў гэтыя дні ў сталіцы нашай рэспублікі.

Свята ёсць свята. Наўрад ці варта падрабязна пераказваць, як яно праходзіла. А вось з якой мэтай было арганізавана і чым запомнілася, гэтым мы пацікавіліся.

— «Шахматнае прадстаўленне» мы праводзім упершыню,— сказала дырэктар СШ № 61 Ганна Іванаўна Дабрынеўская.— Вучні нашай школы займаюцца многімі відамі спорту, але шахматы ў асаблівай пашане. Магчыма, таму, што па суседству са школай знаходзіцца клуб «Прахадная пешка», у якім многія нашы хлопчыкі і дзяўчынкі спасцігаюць сакрэты шахматнай гульні, імкнуцца да вяршынь майстэрства. Сёння можна назваць з дзесятак юных шахматыстаў, якія ўжо дабіліся нядрэнных вынікаў. Вось, напрыклад, Жэня Караткевіч. Ён вучыцца ў шостым класе і нядаўна стаў першаразраднікам. Такі ж разрад мелі выпускнікі мінулага года Саша Батура і Таня Шлапак. Сёння яны прысутнічаюць на гэтым свяце, арганізаваным для папулярызацыі старажытнай гульні.

У школе № 61 шмат хто марыць паступіць у тэхнічныя ВНУ. І мары многіх здзяйсняюцца.

— Нічога дзіўнага,— сказала Г. І. Дабрынеўская.— Шахматы развіваюць у дзяцей аналітычнае мысленне, вучаць уменню канцэнтраваць у патрэбны момант усе свае веды і волю.

# СЕЯЦЬ, ДУМАЮЧЫ ПРА ЖНІВО

Віктар КАРАМАЗАЎ

Новае ў жыцці?..

Так. Безумоўна. Час, жыццё паставілі перад нашым грамадствам задачы развіцця, якіх мы раней не ведалі. Высокія, маштабныя, навукова абгрунтаваныя.

Што ў гэтай сітуацыі павінна сказаць літаратура?

Проста новае — мала. Літаратура заўсёды, ва ўсе часы, гаварыла новае. Паўторы — гэта не літаратура. Сёння задача больш адказная: **кожны** мастацкі твор павінен узвышаць чалавека, даваць яму надзею на лепшае, сілы і веру ў самога сябе, у нашу агульную справу. Пісьменнік страчвае права на халасты стрэл, пустое слова.

Нядаўна з'ездзіў я на сваю Магілёўшчыну. Зайшоў да землякоў на невялічкі лесазаводзік, які завуць яшчэ «мехустаноўкаю». Стаяў і глядзеў, як працуе тэхналагічная лінія па вырабу паркетнай дошчачкі. Спачатку піларама распускае дубовыя калоды на брус, потым брус крыжуецца, малыя брусы бягуць па транспарцёры, малая піларама распускае іх на дошчачкі, зноў — транспарцёр, станкі. І вось канвеер выкідае паркеціны на склад. Ды які там склад? У яму. Пад нож бульдозеру. Бо кожная паркеціна крывая, як лыжына. На пілараме стаяць зношаныя шасцерні, і ўсе, хто працуе, ведаюць, што дубы, якіх так мала ўжо ў нашых лясах па Сажы, ідуць у глум, але ніхто не спыняе канвеер. Як спыніш? Завод павінен працаваць. Вал трэба даваць. Людзі павінны мець зарплату. Замяніць шасцерні? Але іх няма пад рукамі. І завод працуе. Маленькі, мясцовага значэння. Але дубы пераводзіць вялізныя. Апошнія.

Вярнуўшыся, сеў за свежыя нумары часопісаў. І колькі разоў, дачытаўшы да апошняй старонкі раман, аповесць, нарыс, адчуваў, што працуюць гэтакія ж заводзікі ў літаратуры — на яму працуюць. Так-так, заводзікі. Бо нават па нарыс трэба аўтару некуды ехаць, і не заўсёды за свае грошы, за дзяржаўныя, адрываць ад працы шмат людзей, якіх аўтар упадабаў для твора, адрываць, можа, неаднойчы, ставіць да свайго «творчага канвеера» рэдактараў, машыністак, карэктараў, друкароў, чытачоў. І ўсё гэта — дзеля чаго? Ці заўсёды на карысць?

Было гэтакае і ў мяне. Хіба не працаваў і мой заводзік пад нож часу-бульдозеру? А не павінна быць. Інфляцыі мастацкае слова не павінна ведаць.

Трэба падняць крытэрыі ў ацэнках мастацкага твора. І каб былі яны аднолькавыя для ўсіх.

Мне ўспамінаецца школьны настаўнік па фізкультуры. Калі мы скакалі ў вышыню, ён адзін канец вяровачкі прывязваў да стойкі, другі трымаў у руцэ. Перад адным вучнем мог свой канец вяровачкі падняць вышэй, перад другім — апусціць ніжэй. І мы, вучні, ведалі, што апускае ён вяровачку перад дачкою старшыні райвыканкома і сынам дырэктара школы.

Мы выходзім на свой чарговы пісьменніцкі з'езд. Пра што будзем гаварыць? Вядома, пра адставанне публіцыстыкі. Будзем заклікаць адзін аднаго пісаць публіцыстыку. А ці не сорамна ўжо заклікаць? Цудоўны рускі пісьменнік Валянцін Распуцін, які добра адчувае момант ісціны, нядаўна ў артыкуле «Верую, верую в Родину!» сказаў вельмі дакладна: «Публицистика сегодня — это не цеховое занятие, а долг каждого неравнодушного к судьбе своей родины писателя. Самое время требует публицистики».

Бясспрэчна. Таму і сорамна заклікаць да абавязку, які павінен быць у крыві ў пісьменніка.

Будзем гаварыць пра літаратурную крытыку, глыбакадумна шукаць прычыны яе адставання. Быццам з гісторыі літаратуры не ведаем, што крытыка павінна быць мужнай, самаахвярнай, што ў яе павінны быць чыстыя рукі і яшчэ больш чыстае сумленне, што яна павінна быць «неистовой», як Вісарыён.

Будзем гаварыць пра мастацкую прозу. Тут ужо не паскупімся на ацэнкі. Бо дзе яшчэ, як не тут? І будзем бачыць, як «настаўнік», прапускаючы цераз вяровачку празаікаў, пазірае то ў залу, то ў прэзідыум і перад адным гэтую вяровачку амаль непрыкметна падымае, а перад другім — апускае. Амаль непрыкметна. Але ў той жа час даволі прыкметна.

Сёння, можа, як ніколі раней, усе нашы творчыя поспехі, аўтарытэт літаратуры прыйшоў у залежнасць ад яе маральных крытэрыяў, маральнага здароўя. Гэта можна сказаць пра ўсё грамадства. Таму партыя і звязвае гэтак рашуча, у адзін вузел, задачы паскоранага развіцця краіны з патрабаваннямі высокага духу і чыстай маралі да кожнага савецкага чалавека.

Літаратура ў гэтых пытаннях павінна быць бескампраміснай. Інача можа стацца тое, ад чаго перасцерагаў Кузьма Чорны, калі пісаў, што «вымаганні ад пісьменніка ў нас нагадваюць справу з тым гаспадаром, які пабудаваў вельмі добрае гумно, а збожжа на полі забыўся пасеяць. Дык увосень гумно, вядома, было пустым, бо колькі ён мог сабраць у гумно таго, што вырасла каля дарог з выпадкова занесеных ветрам зярнят?»

Мы павінны сёння з большай адказнасцю дбаць, як засеяць сваё поле, якім зернем і што заўтра збяром. На гэта, думаецца, скіруе сваю галоўную ўвагу наш пісьменніцкі з'езд.

## ЗМЕНЫ Ў ЖЫЦЦІ — ЗМЕНЫ Ў ЛІТАРАТУРЫ

Раіса БАРАВІКОВА

# ЯК ПАДКАЗВАЕ ТАЛЕНТ І СУМЛЕННЕ

Накрапваў дожджык. Месца было люднае — многім хацелася паглядзець фільм, які шырока рэкламаваўся, і, як часта бывае, у некага ў руках аказаўся транзістар... Песня абарвалася, і нечакана загучалі вершы, знаёмыя, любімыя з дзяцінства. Відаць, у эфіры была адна з перадач, падрыхтаваная да юбілею Сяргея Ясеніна. Ці то ад усхваляванасці, ці то ад нечаканасці, але звярнулася да незнаёмай жанчыны: «Вось... Ясенін...».

«Ён...» — адказала яна і зусім ужо нечакана пачала чытаць асобныя радкі, строфы з самых розных вершаў паэта. І потым ужо на мае пытанні: «Любіце?.. Чытаеце?» — жанчына засмяялася: «Ды не, чытала я даўно... Некалі ў маладосці...», а гэта значыла гадоў трыццаць, сорак таму назад. Якая памяць?! — і знойдуцца сотні, тысячы людзей, каб аспрэчыць гэтае здзіўленне сваім — якія вершы! Якая паэзія!

Даўнавата ўжо была адна сустрэча,— звычайная сустрэча чытачоў з пісьменнікамі. Яна, напэўна, забылася б, каб не запіска... Выступаў добры пісьменнік, сімпатычны чалавек, які чамусьці пачаў гаворку са слоў, прыблізна такіх: «У мяне пакуль заслуг асаблівых няма, я — не лаўрэат, ды і ўвогуле, чалавек беспасадны, але тое-сёе сказаць магу...» І, сапраўды, коратка пачаў расказваць пра нечыя добрыя словы ў свой адрас, пра ўхвальную рэцэнзію, вось тут якраз і перадалі запіску: «Ён на самай справе харошы пісьменнік ці гэта проста гульня ў значнасць?».

Ёсць над чым падумаць... Каго зараз цікавіць, якая была пасада ў Сяргея Ясеніна, якія былі заслугі? Засталася яго паэзія, дык чаму ж трэба было добраму пісьменніку нібыта апраўдвацца перад аўдыторыяй, што ў яго пакуль ні заслуг асаблівых няма, ні пасады?.. З якіх часоў стала бязважкім быць проста пісьменнікам? Некалі Ганна Ахматава пісала: «Как и жить мне с этой обузой, а еще называют Музой... Жестче, чем лихорадка, оттреплет, и опять весь год ни гу-гу». І як жа так сталася, што мой равеснік вымушаны пісаць: «Не так і наеты паэты, не так і напіты, але ж пасады, аклады, партрэты... Хоцьмузу зарэж»... Няўжо над літаратурай пачала кружыць моль мяшчанства ці, можа, і сапраўды ў нас ёсць і пасаднае вызначэнне важкасці пісьменніка, і пасадныя тыражы, і пасадныя выданні?.. Пры тым адным, што чытачу гэта ўсё нецікава, для яго існуе толькі твор пісьменніка, ці, можа, ужо і чытач прывучаны да думкі, раз пісьменнік займае высокую пасаду, значыцца, у яго і творы добрыя?..

Ніхто — ні крытык, ні сябра так не ацэніць твор, яго значнасць і мастацкую вартасць, як сам чытач, як народ, для каго і пішуцца творы. Мы чакаем рэцэнзіі ад крытыка, а трэба чакаць ліста ад чытача, мы прыходзім у выдавецтва са словамі «выдайце ці перавыдайце — крытыка адзначала, у абойме назвалі», а трэба прыходзіць са словамі — «чытач заўважыў, кнігу раскупілі, яна не пыліцца на паліцах...», з лістамі ад чытачоў трэба ісці ў выдавецтва, а не з аўтарытэтнымі рэкамендацыямі. А калі няма лістоў, трэба задумацца, чаму іх няма, вось тады і ўзнікне жывая гаворка пра літаратуру, жывая яе крытыка. Яшчэ гадоў дзесяць таму назад, калі выдавецтва выдавала кнігу, на шмат якіх можна было прачытаць на вокладцы: «Вашы водгукі аб кнізе прысылайце па адрасу...». Няма зараз просьбаў дасылаць водгукі... У шмат якіх перыядычных выданнях ёсць рубрыка «Наша пошта» ці «З нашай пошты», але ці многа там зноў жа водгукаў чытача на кнігу, якая толькі што з'явілася ў кнігарнях, ці на апавяданне, на аповесць, на падборку вершаў, якія з'явіліся ў перыёдыцы, і зноў жа водгук не крытыка-прафесіянала, а чытача — студэнта, рабочага, інжынера, настаўніка... Хай яны пагавораць пра нашы кнігі, чаму адна разыходзіцца, а другая стаіць на паліцы?.. І зноў жа пагавораць без аглядкі на пасады, на аўтарытэты. І хай гэта будзе не «падвал», а пяць — шэсць абзацаў, пра самае істотнае.

У нас багатая, цудоўная літаратура, я магла б назваць не адну кніжку з тых, якія даўно сталі любімымі кніжкамі нашых чытачоў, якія напісана ярка і таленавіта, высока і чэсна, і ў заключэнне, калі кожны новы дзень нешта мяняе ў жыцці, мне хацелася б сказаць адно: народу нашаму, вялікаму і прыгожаму, заўсёды — тварыць жыццё, а пісьменніку заўсёды — чуць дыханне гэтага жыцця і выводзіць героя сваіх кніжак на вяршыні часу цяперашняга і будучага, так як падказвае талент, сумленне, праўда нашых дзён.

НАШЫХ ПЛАНАЎ ЗДЗЯЙСНЕННЕ





# ПАСАДЗІЛІ РУЖЫ СТАЛЯВАРЫ

Усё жыццё няўмольна прыцягвае мяне родны кут. На Жлобіншчыне, дзе рос, вучыўся, ваяваў з фашыстамі і працаваў у юнацкія гады, дзе мне ўручылі партыйны білет, я бываю даволі часта. Неаднойчы наведваўся і на металургічны завод. І заўсёды з прыемнасцю, з землякоў гонарам пераконваўся: няўхільна дужэе, набірае ён сілу.

Металургічны завод на гасціннай песеннай зямлі Жлобіншчыны ў адпаведнасці з падпісаным кантрактам будаваў аўстрыйскі дзяржаўны прамысловы канцэрн «Фёст-Альпіне». Нашы гаспадарчыя і будаўнічыя арганізацыі згодна з кантрактам забяспечвалі падвод да будаўнічай пляцоўкі ліній электраперадачы і сувязі, водаправодаў тэхнічнай і пітной вады, цеплатрасы, газапровода, будавалі пад'язныя чыгуначныя пуці і аўтастрады. У напісаным на дзвюх мовах — рускай і нямецкай — звароце будаўнікоў Беларускага металургічнага да нашчадкаў, закладзеным у спецыяльным кантэйнеры ў фундамент завода, ёсць такія словы: «Наша сумесная будоўля — сведчанне таго, што працоўныя заўсёды і ва ўсім могуць знайсці агульную мову, жыць у міры і дружбе».

Будаўніцтва завода вялося пры цесным супрацоўніцтве, выключна зладжана і шпаркімі тэмпамі. Згодна з кантрактам нашы арганізацыі павінны былі забяспечваць будоўлю ўсімі неабходнымі матэрыяламі па сутачнаму графіку. Парушыў графік — плаці няўстойку. Ды гэта ж золатам! Аднак няўстойкі мы не заплацілі ніводнага рубля — парушэнняў не было.

Вялікую дапамогу ў будаўніцтве аказвалі калектыву Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі і Савет Міністраў рэспублікі, таксама Жлобінскі гарком партыі і выканком гарадскога Савета народных дэпутатаў.

Стотонныя электрапечы, агрэгаты безупыннай разліўкі металу, магутны, разлічаны на выпуск мнагапланавых металавырабаў стан, лінія паскоранага ахаладжвання... Усё гэта абсталяванне працуе з поўнай нагрузкай — завод выйшаў на праектную магутнасць. Перапрацоўвае металалом у высакаякасную сталь. Выпускае ў год пяцьсот тысяч тон пракату, у сартыменце якога — швелер, катанка, мнагаграннік, вугалок, другія дэфіцытныя вырабы, што раней завозіліся на прадпрыемствы рэспублікі з іншых рэгіёнаў краіны. Вырабляецца таксама дзвесце тысяч тон таварных літых загатовак, якія адпраўляюцца на іншыя камбінаты галіны — на Урал, у Заходнюю Сібір, у Казахстан, на Украіну.

На першым этапе, у працэсе станаўлення, маладому прадпрыемству давялося вырашаць многія нялёгкія задачы. Натуральна таму ўсебаковую ўвагу ўдзяляе заводу Жлобінскі гарадскі камітэт партыі. Стан спраў на прадпрыемстве неаднойчы абмяркоўваўся на бюро гаркома. На адным з гэтых пасяджэнняў я прысутнічаў. Члены бюро глыбока выяўлялі пралікі, упушчэнні. А галоўнае — уносілі канкрэтныя прапановы, што трэба зрабіць, якія ўжыць захады, каб хутчэй недахопы і выкараніць прычыны, што спараджалі іх.

Ёсць у маладога прадпрыемства і сур'ёзныя праблемы, вырашэнне якіх залежыць ад рэспубліканскіх ведамстваў. Тут у першую чаргу неабходна сказаць аб пастаўках заводу металалому. Значная частка яго пастаўляецца з грубым парушэннем правіл, паступае з наяўнасцю каляровых металаў, неметалічных прымешак. Як вядома, каляровыя металы зніжаюць якасць сталі. Пастаўка непадрыхтаванага металалому патрабуе ад завода дадатковых працоўных затрат і часу на сартаванне і падрыхтоўку сыравіны да пераплаўкі.

Калектыў прадпрыемства малады, але працаздольны, поўны творчага імкнення наперад.

Летась дзевятага ліпеня «Маланка» паведаміла, што ў сталеліцейным цэху брыгада, якую ўзначальваў начальнік змены А. М. Бажынскі, майстры М. П. Гуляеў і Т. Б. Уксуклаеў, упершыню за восем гадзін зварыла і разліла пяць плавак замест чатырох па норме. Дваццаць першага ліпеня, у Дзень металурга, цэхам было зварана і разліта дваццаць дзве плаўкі. Працоўную вахту нёс тады і сталявар Юрый Іванавіч Карчонаў.

Першы раз сустрэўся я з Карчонавым пятнаццатага кастрычніка 1984 года. Той дзень увайшоў у летапіс прыдняпроўскага горада важкім радком: на заводзе ўпершыню з электрапечы палілася ў коўш асляпляльна вогненная сталь.

Цяпер я зноў пабачыў Карчонава каля электрапечы. Скупыя дакладныя рухі яго былі нібы запраграміраваныя — толькі яны здаваліся там адзіна неабходныя і правільныя. Выразны погляд, адно слова — і падручны Фёдар Баброўнік лоўка выконвае патрэбную аперацыю. Баброўнік — карэнны жыхар Жлобіна. Быў меліяратарам. Аднак яго захапіла «вогненная» прафесія. Ён многаму ўжо навучыўся ў гэтай складанай і нялёгкай справе ад свайго настаўніка, які прыехаў сюды з Ліпецка.

Пакуль загружаўся ў печ металалом, у сталявара і яго падручнага была хвілінка адпачынку. Я падышоў да іх. Разгаварыліся.

— Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў вельмі правільна сказаў пра наш рабочы абавязак,— пачаў Юрый Іванавіч.— Кожны з нас павінен спытаць у сябе: што зрабіў ён для таго, каб ядзерная зброя ніколі не была больш пушчана ў ход. Ніколі і нідзе — ні на Зямлі, ні ў космасе, каб яна ўвогуле была знішчана поўнасцю і назаўсёды. Дык от пытаў і я ў сябе: а што ж зрабіў я сам? І сам сабе даў адказ: папрацаваў у імя міру я, папрацавалі і мае таварышы.— Ён паказаў вачамі на Баброўніка.— Наша мірная сталь умацоўвае Радзіму.

Як бы працягнуў думку Карчонава вальцоўшчык сортапракатнага цэха Барыс Аляксеевіч Недабежкаў:

— Душа горача прагне працы, калі ведаеш: тваіго металу чакаюць неспакойныя руплівыя людзі на будоўлях, буравых установках, у геалагічных партыях, у калгасах і саўгасах — словам, усюды, дзе ён, як бы вам сказаць, мацуе жыццё.

Якія словы: метал мацуе жыццё! Міжвольна прыйшло параўнанне: велізарная, як у самім хлебе, чалавечая праўда ў іх! Бо яны — ад непахіснай веры, неўтаймоўнага клопату і нястрымнага імкнення. Яны прасякнуты інтэлектуальнай і эмацыянальнай мудрасцю працаўніка-стваральніка.

Барыс Аляксеевіч Недабежкаў — вопытны металург, кавалер ордэна Дружбы народаў. Яму, таксама як і Карчонаву, у свой час выпаў гонар атрымаць на заводзе першую беларускую сталь.

Цвёрдая паходка, з расійскім оканнем гаворка, шырокая ўсмешка... І працуе ён, як ходзіць — нетаропка, але без адзінага лішняга руху і без мінуты прамаруджвання. Ён не толькі добра працуе сам, а старанна вучыць гэтаму моладзь. Настройвае маладых людзей на справу не словамі, а сваім бездакорным прыкладам.

Сустракаючыся з рабочымі, служачымі, інжынерна-тэхнічнымі работнікамі завода, я адчуў, што для абсалютнай большасці іх маладое прадпрыемства стала ўжо родным домам.

Успамінаюцца мне словы Фёдара Баброўніка, былога меліяратара:

— Мы зробім яго, наш Беларускі металургічны, заводам-садам. Праўда ж, Юрый Іванавіч? — Ён звяртаўся да Карчонава, а гаварыў іх, здавалася, мне.— Хутка, у самыя блізкія гады.

І сад ужо расце. Па ўсёй тэрыторыі завода пасаджаны ліпы, каштаны, клёны, ніцыя вербы... На клумбах, прыкрытыя ад маразоў — ружы.

Пасадзілі кветкі сталявары і на праспекце Металургаў — новай вуліцы памаладзелага старажытнага горада. Многа кветак...

**Аляксандр КАПУСЦІН.**

**Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА.**



□ Наш экіпаж — адна сям'я...

**Мне неба мары разам з хлебам,**
**З ім крыллі думак узраслі,**
**І хоць люблю я вельмі неба,**
**Ды што мне неба без зямлі.**

**Пятрусь БРОЎКА.**

Валя Мурашка — адна з тых добрых фей у пілотках, што забяспечваюць зручнасць і бяспеку пасажыраў у час паветранага падарожжа, ствараюць на борце самалёта атмасферу гасціннасці і камфорту. Больш як сем гадоў працуе яна ў Мінскім аб'яднаным авіяцыйным атрадзе, і за гэты час у яе асабістай справе — толькі падзякі: камандавання і пасажыраў. Заслужыць падзяку пасажыраў іншы раз і не так цяжка — для гэтага, бывае, дастаткова звычайнай чалавечай чуласці і ўвагі. А вось заслужыць павагу калектыву, у якім працуеш, значна цяжэй. Асабліва калектыву невялікага, у якім кожны, як на далоні.

Нават мне, чалавеку новаму, адразу відаць, што жывуць бортправадніцы дружна. Пануе тут своеасаблівая атмасфера ўзаемавыручкі, добразычлівасці і далікатнай, нават пяшчотнай спагады адна адной. Гэта і зразумела: іх звязвае нялёгкая, не зусім звычайная для жанчын праца. Амаль кожны дзень — новы палёт. Сёння — у блізкі, столькі разоў бачаны Пінск, заўтра — у далёкую Цюмень. А Сібір кожны раз сустракае па-новаму: то зачаруе бясконцай роўнядзю заснежаных прастораў, то закрые неба завірухай, на дзень, два, а то і на тыдзень затрымае гасцей з Беларусі. У гэтай дружнай сям'і адны, звязаныя з небам, радасці і трывогі, хоць у кожнай з гэтых дзяўчат у аднолькавай лётнай форме сваё, не падобнае на іншыя, зямное жыццё...

Сцюардэсай Валя вырашыла стаць яшчэ ў школе. Вабіла рамантыка далёкіх палётаў, магчымасць пабачыць новыя гарады, тайгу і мора. Не апошнюю ролю адыграла і прыгожая форма сцюардэсы. Як часта Валя бачыла ў марах: вось яна, стройная, падцягнутая, у сінім форменным касцюмчыку і какетлівай пілотцы спускаецца па трапу авіялайнера, які прыляцеў з далёкай замежнай краіны, пераадолеўшы на сваім шляху акіяны, навальніцы, нечаканыя непаразуменні ў далёкіх портах, знайсці выйсце з якіх дапамагла і яе, Валіна, вынаходлівасць і мужнасць...

Але шлях да трапа самалёта аказаўся няпростым. Давялося два гады папрацаваць дзяжурнай даведачнага бюро аэрапорта. І толькі тады, прайшоўшы строгі экзамен на прафесійную прыгоднасць на савеце бортправаднікоў і медыцынскую камісію, атрымала яна пуцёўку на курсы ў вучэбна-трэніровачны атрад. Тры месяцы напружанай вучобы шмат у чым змянілі ранейшыя ўяўленні аб выбранай прафесіі. Аказваецца, бортправадніца праводзіць за рэйс больш як 100 аперацый, адказвае за бяспеку і стан пасажыраў, за экіпіроўку самалёта і груз. Добразычлівая, гасцінная гаспадыня салона, яна павінна імгненна арыентавацца ў любой абстаноўцы, быць гатовай выканаць любы загад камандзіра, захоўваючы пры гэтым вытрымку.

— Спецыфічныя ўмовы працы не адпужалі мяне,— гаворыць Валя,— не расчаравала і нялёгкая рамантыка. А былі ж і такія, што адмаўляліся ад сваёй мэты, прайшоўшы стажыроўку і налятаўшы па 30 гадзін з бортінструктарам. І больш за ўсё, бадай, у правільнасці абранага шляху мяне пераканалі захопленасць, нават улюбёнасць у сваю справу старэйшых таварышаў. Памятаю, якое цудоўнае «слова настаўніка» сказаў нам у дзень пасвячэння ў бортправаднікі Юнак Ціханавіч Баранчыкаў, які аддаў авіяцыі больш як сорак гадоў: «Цяжка знайсці больш рамантычную работу, чым наша. Але рамантыка тут заўсёды побач з самай празаічнай і цяжкай працай, нярэдка патрабуе волі, вытрымкі, а часам і мужнасці. Відаць, ніводная з прафесій не патрабуе і такога спалучэння чалавечых якасцей, як прафесія бортправадніцы,— смеласці і стойкасці салдата і жаночай абаяльнасці». У слушнасці гэтых слоў я пераконвалася потым не адзін раз.

**— Скажыце, Валя,—** звяртаюся я да яе,— **ці былі ў вас на борце за час работы надзвычайныя здарэнні?**

— Ведаеце, я цяпер з усмешкай успамінаю свае дзявочыя мары аб прыгодах у часе палёту, дый гляджу на гэта іншымі вачамі. Кожнае надзвычайнае здарэнне нясе рызыку, небяспеку для жыцця пасажыраў і экіпажа. Таму я вельмі рада, што надзвычайных здарэнняў у мяне ніколі не было, рэйсы заўсёды заканчваліся шчасліва. Магу толькі і надалей пажадаць сабе і сваім таварышам: чыстага неба і ніякіх здарэнняў на борце!

**— Я чула, што ваш муж — пілот, камандзір экіпажа. Ці даводзілася вам лятаць разам?**

— Разам з мужам мы лёталі не адзін раз. Нічога незвычайнага ў гэтых палётах няма — як заўсёды, мы выконваем свае абавязкі. Міша такі ж строгі і патрабавальны да мяне, як і да астатніх членаў экіпажа, а я стараюся дакладна і хутка выконваць яго загады. Вось толькі на душы, напэўна, крыху спакайней, чым заўсёды: мы ж разам. Бывае, зайду ў кабіну пілотаў, убачу, як моцна і ўпэўнена трымаюць яго рукі штурвал, і адразу пацяплее на сэрцы.

**— А не адбіваецца на сямейным жыцці прывычка мужа камандаваць, браць за ўсё на сябе адказнасць?**

— У нашай сям'і проста не існуе славутай праблемы лідэрства. Мы лічым, што муж і жонка павінны быць роўныя. У нечым бярэ на сябе ініцыятыву ён, у нечым — я. Наогул жа, у нас сапраўды сяброўскія адносіны, мы заўсёды разумеем адно аднаго. Магчыма, дапамагае гэтаму тое, што мы працуем разам. Я нават уявіць сабе не магу, што адзін з нас лятаў бы, а другі ўвесь час чакаў на зямлі. Цяпер мы мяняемся ролямі: сёння чакаю яго з палёту я, заўтра — ён мяне. А бывае, што адлятаемся разам, разам і дадому прыходзім. Тады ў нашай сям'і свята, асабліва для маленькай Святланкі.

**— У вас, здаецца, пакуль няма ўласнай кватэры?**

— Так, мы жывём з бацькамі мужа ў двухпакаёвай кватэры. І я вельмі ўдзячна Марыі Францаўне і Вікенцію Антонавічу за іх дапамогу — яны і Святланку з дзіцячага сада забяруць, калі мы ў палёце, і прадукты купяць, і вячэру прыгатуюць. Дый вяртацца ў абжыты дом, дзе цябе чакаюць, заўсёды прыемна. Калі б не дапамога бацькоў, наўрад ці змагла б я лятаць.

**— А чым вы больш за ўсё любіце займацца на зямлі?**

— Зямля зверху такая прыгожая, такая прыбраная — усё тут да месца, усё ёй да твару. Гляджу на яе і хочацца як мага хутчэй вярнуцца дадому. Пасля кожнага палёту ў мяне такое адчуванне, што я нешта важнае ўпусціла ў жыцці, што трэба абавязкова нагнаць. Таму я за прагнасцю хапаюся за любую справу: люблю гуляць з дачкой у парку і глядзець тэлевізар, хадзіць у госці і прымаць гасцей, чытаць кнігі і завіхацца на кухні. А яшчэ вельмі люблю, калі мы ўтраіх — Міша, Святланка і я — садзімся ў машыну і едзем за горад: у лес, на рэчку, у поле пакатацца на лыжах. Гэтым летам мы падарожнічалі па Прыбалтыцы, наведалі Рыгу і Вільнюс, купаліся ў моры. На ўсіх нас паездка зрабіла незабыўнае ўражанне.

**— Вязаць таксама, напэўна, любіце, бо нават у пакоі для адпачынку бортправадніц я заўважыла клубкі нітак...**

— Усе нашы дзяўчаты ўмеюць і любяць вязаць, асабліва, калі мы знаходзімся ў рэзерве і чакаем, ці не пашлюць у рэйс. Я ж больш за ўсё люблю вязаць для дачкі — гэтыя рэчы маленькія, вяжуцца хутка і адразу відаць вынік тваёй працы.

**— Кожная маці задумваецца над тым, кім стане яе дзіця, калі вырасце. Што б вы параілі дачцэ, калі б праз колькі гадоў яна сказала вам, што яе вабіць рамантыка далёкіх дарог і элегантная форма бортправадніцы?**

# ПРЫЦЯГНЕННЕ З



□ Апошні штрых.



□ Мая мама — самая лепшая!

— Што ж, я павінна буду шчыра адказаць, што работа ў бортправадніцы хоць і нялёгкая, але вельмі цікавая. Мала якая іншая прафесія дае такую шырокую магчымасць убачыць столькі гарадоў, пазнаёміцца з гістарычнымі і культурнымі помнікамі, даведацца столькі новага. Іншы раз улетку мы можам па 2—3 разы на тыдзень злятаць, скажам, у Новарасійск, пакупацца ў моры, пагрэцца на паўднёвым сонейку і вярнуцца дадому.

Што датычыць формы, то я на сённяшні дзень не вельмі ёй задаволена — адстае яна ад сучаснай моды, асабліва зімовае паліто і шапка. А нам жа, як і ўсім жанчынам, у любую пару года хочацца выглядаць прывабнымі,— гаворыць Валя, і вочы яе колеру неба гарэзліва ўсміхаюцца.

Зямная, цудоўная і абаяльная жанчына сядзіць побач са мной, і мне зразумелы яе пачуцці і думкі, добра знаёмы яе звычайныя зямныя клопаты. І ўсё ж, мне здаецца, яна крышачку незвычайная, крышачку незямная. Кожную сваю справу на зямлі яна разглядае і ацэньвае з вышыні палёту. Што б ні рабіла, куды б ні пайшла, непрыкметна і чуйна прыслухоўваецца да неба, якое ў любы момант можа яе паклікаць. Таму, відаць, людзі гэтай прафесіі так горача любяць жыццё і людзей, што неаднойчы зведалі горыч разлукі...

З борта самалёта зямныя агні ўяўляюцца далёкімі зоркамі. Цёплымі, ласкавымі зоркамі, якія неадольна прыцягваюць да сябе тых, хто адарваўся ад зямлі. А тут, на вуліцах горада, мала хто звяртае на іх увагу — гэта ж звычайныя ліхтары, што запаліліся ў вечаровым небе. Не звяртае на іх увагі і стройная, невысокага росту жанчына, якая сярод натоўпу прахожых спяшаецца ў дзіцячы сад. Там, напэўна, ужо чакае яе, нецярпліва пазіраючы на дзверы, маленькая дачка.

А заўтра раніцай гэта жанчына ўвойдзе ў салон самалёта, ветліва ўсміхнецца і скажа: «Добры дзень, таварышы пасажыры! Камандзір карабля і экіпаж вітаюць вас на борце самалёта...»

І будзе кідаць непрыкметныя позіркі ў ілюмінатар, туды, дзе далёка ўнізе засталася такая жаданая зямля, наш адзіны родны дом.

**Людміла СУХАНАВА,**
**Віктар ГАНЧАРЭНКА** (фота).

# ЯМЛІ

Пісьменнік і жыццё



# Не хлебам адзіным...

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



Не хлебам адзіным жыве чалавек. Гэта выслоўе канцэнтруе ў сабе мудрасць тысячагоддзяў. У самых старажытных паселішчах знаходзяць наскальныя малюнкі: Homo sapiens не толькі здабываў сабе ежу і абараняўся ад ворагаў,— ён прагнуў спасцігнуць шматмернасць свету, ён увасабляў свае адкрыцці ў малюнках, рытуальных танцах, спевах — ва ўсім, што назавуць пазней фальклорам. Прайшоўшы шлях ад дзікунства да цывілізацыі, чалавек карэнным чынам змяніў воблік планеты.

Выходзячы на новыя рубяжы ў галінах эканомікі, сацыяльнага і палітычнага жыцця, партыя вялікую ўвагу надае духоўнаму жыццю грамадства, далучэнню шырокіх мас насельніцтва да навукі і культурных каштоўнасцей. «Эстэтычная аснова яшчэ больш адухатворыць працу, узвысіць чалавека і ўпрыгожыць яго быт». На некаторых праблемах ідэалогіі і культуры, эстэтычнага выхавання я і засяроджуся ў сваіх нататках.

Старэйшыя людзі памятаюць, што некалі ў кожным сельмагу Беларусі абавязкова была паліца з кнігамі. Гэту паліцу на маёй памяці заставілі ўжо так званым «чарнілам». Яго на сённяшні дзень памянела, заўтра і зусім не стане, але пра кнігу — ці ўспомняць?

Я не выпадкова пачала з кнігі. Хіба не выклікае нашу павагу чалавек, які нават у транспарце не расстаецца з кнігай, часопісам, газетай? Так, духоўнае аблічча сучасніка ў многім вызначаецца яго адносінамі да чытання, да прыгожага пісьменства. Часам назіраеш, з якой асалодай выбіраецца кніга ў бібліятэцы, у кнігарні. Вядома гэта асалода і мне. На жаль, я не памятаю выпадку, каб прадаўшчыца кніжнага магазіна парэкамендавала нейкае выданне, звярнула маю ўвагу на імя аўтара, на змест ці стыль — адным словам, каб яна праявіла веданне свайго тавару і зацікаўленасць яго прадаць. Абыякавыя твары, адсутныя позіркі. Прывычная і такая трывожная з'ява! Бо менавіта ад гэтых сімпатычных дзяўчатак у пэўнай меры залежаць тыражы кніг будучых, ужо запланаваных выдавецтвамі. Колькі закажуць кніжныя магазіны, столькі і будзе выпушчана. Адзін, дапусцім, заказвае 7 экземпляраў, другі — 14, трэці — 28. Кожны пры гэтым кіруецца наяўным запасам непрададзенай літаратуры. Імя аўтара (пры поўным няведанні большасцю прадаўцоў беларускай літаратуры) асаблівага значэння не мае. Вось характэрны прыклад. На аднатомнік Міколы Сурначова набралася заказаў на тысячу экземпляраў. Паважаныя гандляры, канечне, не ведалі ні паэзіі Сурначова (яе перакладаў А. Твардоўскі), ні лёсу яго (паэт загінуў пад Берлінам). Даведаўшыся, зрабілі ласку: «накінулі» яшчэ пару сотань. Міжволі ўспамінаецца іранічнае прадказанне Генрыха Гейнэ, што ў будучым можа настаць час, калі сыр і паэзію будуць узважваць на адных вагах...

Кнігі могуць расхоплівацца, могуць стаяць сумнымі шарэнгамі, як зараз, пасля адшумеўшага «буму». Тыражы могуць падаць і расці. Галоўнае, каб прынцып «выгадна — нявыгадна» не зрабіўся тормазам для развіцця сацыялістычнай культуры, не дамінаваў над паняццем «мэтазгодна».

А ці заўсёды правільна мы разумеем гэта «выгадна»? Тое, што прыносіць прыбытак сёння, можа з цягам часу абярнуцца вялікімі стратамі — і не толькі матэрыяльнымі. Не выпадкова партыя, змагаючыся супроць п'янства і алкагалізму, пайшла на рашучыя меры — абмежаванне продажу спіртнога. І вось ужо прадпрыемствы нашага гандлю (не ўсюды, на жаль) з гонарам паведамляюць, што ў стане выконваць планы і без «п'яных» грошай. Дастаткова памяняць вугал зроку — і ўсё становіцца на месца!

За 60 гадоў Савецкая ўлада падняла такую цаліну на ўсіх накірунках чалавечага быцця, што можна толькі дзівіцца. Не менш работы і наперадзе. Багацце чалавечай асобы, па словах Маркса і Энгельса, будзе самамэтай пры камунізме, і дбаць пра гэта багацце, памнажаць яго патрэбна ўжо цяпер.

Пры агульнадзяржаўным клопаце аб росце культуры народа маюць месца выпадкі, калі асобныя кіраўнікі без дастатковай увагі ставяцца да гэтай сферы. Я ведаю абласны тэатр лялек, які за 20 гадоў існавання не забяспечылі нават часовым, нават выпадковым памяшканнем. Усе 20 гадоў ён дае прадстаўленні па школах і дзіцячых садах. Многія бацькі зусім не ведаюць пра яго існаванне — яны не маюць магчымасці павесці ў тэатр дзіця за руку. Скажыце: якімі цяжкасцямі, якім недахопам сродкаў у наш час можна вытлумачыць гэткае занядбанне асабістых патрэб маленькіх гараджан?

Так, будынак па індывідуальнаму праекту абышоўся б у немалую суму. Але хто ведае: калі б тэатр лялек усе гэтыя гады працаваў у нармальных умовах, можа б сёння былі паўнейшымі зала — і каса! — мясцовага (гаворка ідзе пра горад Гомель) драматычнага тэатра.

«Галоўная наша задача,— гаварыў М. С. Гарбачоў,— зрабіць эканоміку больш эфектыўнай і дынамічнай, жыццё людзей — духоўна багацей, паўнакроўней, змястоўней...» Асновы духоўнасці, маралі, культуры закладваюцца, як вядома, у дзяцінстве. Я перакананая, што ў будучым мы значна болей увагі нададзім эстэтычнаму выхаванню дзяцей. Гэта адна з цаглінак у падмурку ідэйна перакананай і усебакова развітай асобы сацыялістычнага ладу. А пакуль эстэтычнае выхаванне займае ў школьных праграмах досыць сціплае месца. Дзеці з першага класа беспамылкова вызначаюць, што спевы, маляванне і фізкультура (літаратура — побач) — прадметы другарадныя. У гэтым перакананні яны ў большасці сваёй і вырастаюць. Ці не таму не хапае выхаванага гледача тэатрам, музеям, залам філармоніі? Ці не таму сумуюць у кнігарнях сімпатычныя дзяўчаткі, якім усё роўна, што прадаваць — кнігі ці селядцы?

Не сакрэт, што людзі і з вышэйшай адукацыяй вызначаюцца падчас поўнай эстэтычнай глухатой. Гэта іх, напэўна, меў на ўвазе В. А. Сухамлінскі, калі пісаў: «Тое, што ўпушчана ў маленстве, ніколі не кампенсуецца... Гэтае правіла датычыцца ўсіх сфер духоўнага жыцця дзіцяці і асабліва эстэтычнага выхавання».

Пра эстэтыку школьнага побыту хацелася б сказаць асобна. Я ведаю сталічную школу, да якой некалькі гадоў вучні хадзілі праз іржавую, перакошаную браму і зарослую лопухам пустку. Аказваецца, дырэкцыя чакала, пакуль выдзеляць сродкі на стадыён. Дачакалася. Пусткі не стала, а ржавая брама павалілася і ляжыць — як сімвал нядбайнасці і празмернай настаўніцкай занятасці. Кожны дзень дзеці ўбіраюць у зрок і свядомасць гэту непрыглядную карціну, а на ўроках ім прывіваюць любоў да прыгожага...

Група пісьменнікаў неяк наведалася ў школы Случчыны. Сустракаліся з вучнямі і настаўнікамі, распытвалі, назіралі. Звярнулі ўвагу на тое, што ў адной са школ Слуцка сцены ў калідорах маюць непрыгожую, празмерна насычаную афарбоўку. Казёншчынай і бяздушнасцю веяла ад гэтых сцен. Няўтульна было нават нам, часовым наведвальнікам, а як жа там пачуваюць сябе дзеці? Хіба адпачне іх вока, хіба парадуецца? «Не было іншай фарбы»,— растлумачылі нам. Але вось мы на сяле, у Вясейскай васьмігодцы. Мала таго, што размешчана яна ў цудоўнай мясціне. Тут і ўнутранае афармленне — а дакладней, убранне — адпавядае ландшафту. Пяшчотна-блакітныя панелі (і фарба знайшлася!), вышытыя шторы на вокнах (выраб Слуцкага камбіната мастацкіх вырабаў), маляўнічыя лозунгі і плакаты — на ўсім адбітак клопату і добрага густу. Не апошнюю ролю, відаць, адыграла тое, што дырэктар школы, Адзярыха Дзмітрый Міхайлавіч,— філолаг.

Але справа не толькі ў асабістых якасцях таго ці іншага кіраўніка. Не стае накіраванасці, ідэалагічнай нацэленасці ў нашым школьным выхаванні. Гарадскія школьныя бібліятэкі, як мы даведаліся, не выпісваюць ні «Маладосці», ні «Бярозкі», ні «Вясёлкі». На гэтыя выданні ім не выдзяляецца сродкаў! Эканомія? — прыводжу адно з магчымых тлумачэнняў. Ды не можа быць, каб **народная асвета** эканоміла **на асвеце**! Неразуменне? Магчыма. Маўляў, не чапіцеся, хапае клопатаў і без таго, ёсць рэчы важнейшыя. А можа — недагляд зверху?

Няма вагаў, на якіх можна было б узважыць з дакладнасцю да міліграма, **што** важней. Фізіка ці лірыка. Але калі соты дзіцячай душы застануцца пустымі, то мала карысці, думаю, будзе і ад камп'ютэра.

Эканамісты навучыліся дакладна падлічваць сумы прыбыткаў і страт ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Але як улічваць набыткі і страты ў сферы нематэрыяльнай? Іх яшчэ дастаткова. Уцечка духоўнасці, недахоп культуры, прыпіскі б'юць у выніку па дзяржаўнай кішэні. Сёння, калі партыя ўзяла курс на паскарэнне эканамічнага развіцця, нельга мірыцца з гэтымі прыкрымі з'явамі, нельга закрываць вочы на прычыны, што іх параджаюць.

# ПАЭЗІЯ

Эдзі
**АГНЯЦВЕТ**



## *Лісты*

Пішу лісты да самай ночы
На крылах снежаньскіх вятроў.
Нібыта я за стол рабочы
Збіраю ўсіх сваіх сяброў.

Ды з кожным
гутару асобна.
— Ты — вораг звады і хлусні,
Ты дабратою непадробнай
Сваці на будучыя дні!

— А ты, пара
майго юнацтва,
Цябе, равесніца, прашу:
Гадам не трэба
паддавацца,
Я слёзы смутку асушу.

— Ты, мой паклоннік даўні,
злосны,
На нораў мой не наракай,
І позіркам сваім зайздросным
Былых спатканняў не гукай!

А вось у доме пасвятлела
Ад сонейкаў,
маладзікоў.
Было б жыццё маё збяднелым
Без гэтых юных галасоў.

Малю я ўсёй душой
жаночай,
Перабалелай на вайне:
— Няхай ніколі лёс сірочы
Вас не зачэпіць,
не кране!

Пішу лісты...
Да сэрцаў родных
Я зноў пракладваю масты.
Прашу я людзям
дзён пагодных,
Мае памочнікі — лісты.

■

Не верыць прырода
Ў прагнозы пагоды:
Працуе весела
На ўсю фантазію,
Снегам занесла
Сярэднюю Азію.

А ў снежні пад Мінскам —
Зіма ані блізка!
Бярозы ў высокі
Блакіт углядаюцца,
І музыка сокаў
Цішком абуджаецца.

Не бойся пагрозы,
Што тояць прагнозы:
І ранак, у выніку,
Вернецца (верыцца!)
І сэрца ў прызімніку
Жар-птушкай абернецца!

## *Выратавальная станцыя*

Вартуе цішыню над берагамі,
Ўглядаецца ў дзяцей
Выратавальнымі кругамі.
На вахце —
Ветразі,
біноклі і чаўны,
І кроны соснаў,
І далёкі стук жаўны.

Я часам прагну
да цябе прыйсці
(Не ўсё ж бывае
роўным у жыцці!).
Няхай бы ад няшчырых
засланіла
І ад нямiласці людзей,
хто быў мне мілы!

Ратуй ад позіркаў халодных,
нібы лёд!
Ратуй ад тых,
хто вечна задаволен.
Зрабі, каб не мінаў
так спешна год!
Ну, што ж, пасумавала?
І даволі.
Я жаліцца не ўмела аніколі.
Усё адолець я павінна,
Я — жанчына.

## *Твае прытульныя вячоркі*

**Вользе Паўлаўне ПАЖЫГАН — кіраўніцы Ананчыцкага народнага хору**

У дваццаць два гады застацца
З двума малымі на плячах...
Чакаць з вайны,
не дачакацца,
Ў зямлянцы плакаць па начах.

Такі ўжо выпаў
лёс балючы.
Ды гордасць
ёсць у партызан.
Адолеўшы цяжкія кручы,
Сказала Вольга Пажыган:
«Хлябнулі гора,
ды не захлябнуліся!»

Малюся я лугам і соснам,
Дзе дзеці выраслі твае,
Зямлі зялёнай, цёплай,
роснай,
Што сілу песням надае.

Твае прытульныя вячоркі —
Люстэрка роднага сяла.
Жывуць ананчыцкія зоркі
Дзеля душэўнага святла.

А да мяне лісток жаданы
Ляціць з палеткаў і палян.
Калоссем подпіс калыханы:
«Твая сяброўка Пажыган».

## *Паклон прыродзе*

Сябры мае, ўцякайце на прастор
Ад невясёлых юбілеяў!
Да верасоў і птушак!
Да азёр,
Дзе калыхаюцца лілеі.
Шум лесу — ён куды мілей,
Чым самы шумны юбілей.

Ты чуеш толькі гул сваіх
трывог.
Сам-насам
можаш ты спытацца:
А як ты добрым людзям
дапамог
Сваёй душой,
сваёю працай?

Ці не прайшлі якія дні
У непатрэбнай мітусні?

Шкада —
і засмучэнняў, і цяпла!
Цяпер я толькі разумею,
Якой шчаслівай
некалі была,
Далёкая да юбілеяў...
Паклон прыродзе!
Між лясоў
Мы нараджаемся ізноў.

## *Саманта*

Каля дома — асенняе дрэўца,
Мы прывезлі бярозку з гаю.
І, нібы, ажыло тваё сэрца,
Што загінула ў пекле «раю».
Расці, Саманта!

Залатую бярозку-падлетка
Смелым імем тваім назвалі.
І зямля беларуская — сведка,
Як людзі цябе шкадавалі!

Між людзей — абаронцаў
дзяцінства
Ад вайны,
ад ракет смяротных,—
Будзе неба тваё прамяністае,
Не будзеш ты ведаць самоты.
Расці, Саманта!

Дзесьці мама твая ў Амерыцы
Над тваімі схіляецца бантамі...
Мама верыць у бога,
ёй верыцца:
Ходзіць светам яе Саманта.

Пабывала ў хаціне з саману,
Ў небаскроб прыбегла
па бруку,
Ды з усмешкай
сваёй непадманнай
Працягнула ўсім дзецям рукі.
Расці, Саманта!

## *Ад калыханкі, ад цымбалаў...*

**Ігару ЛУЧАНКУ.**

Калісьці,
юны, сарамлівы,
Ён песню ў дом
да нас прынёс.
Я напрарочыла
шчаслівы,
Гарачы і няпросты лёс.

Ад калыханкі,
ад цымбалаў,
Ласкавай спадчыны дзядоў
Праменні музыка ўвабрала
І фарбы родных берагоў.

Калі паціху, слова ў слова,
Пяю «Алесю» для сябе,—
Душа Аркадзя Куляшова
Мне ў светлай чуецца журбе...

Быць рэхам
трапяткое мары!
Быць вострым болем
змагароў.
Таму чылiец Віктар Хара
Прыйшоў да нашых
«Песняроў».

Няхай «спакой нам
толькі сніцца»!
І ў песнях будзе гул грымот,
І голас чыстае крыніцы,
І рытмы ўсіх людскіх турбот!

Хай не заслоніць шум авацый
Бацькоўскі, пухавіцкі дом!
Хачу,
каб мог ён заставацца
Ранейшым, ясным юнаком.

КАМУНІСТЫ — ГЭТА СЛОВА, ЯК СА СТАЛІ,
КАМУНІСТЫ — ГЭТА СЛОВА, ЯК З АГНЮ.
МАРКС І ЭНГЕЛЬС НАМ ІМЯ ТАКОЕ ДАЛІ
СТО ГАДОЎ ТАМУ НАЗАД УПЕРШЫНЮ.



# БЫЦЬ КАМУНІСТАМ...

Самыя светлыя, самыя чыстыя пачуцці ўкладваў Аркадзь Куляшоў у паэтычныя радкі, прысвечаныя камуністам — сапраўды наймацнейшаму стрыжню нашага грамадства, яго жывой душы, сапраўды рэвалюцыйнаму авангарду народа.

Быць камуністам — быць у авангардзе. Заўсёды. Кожны, хто ўступае ў партыю, бярэ на сябе цэлы шэраг абавязкаў, якія замацаваны Статутам КПСС.

Значэнне авангарднай ролі і адказнасці кожнага камуніста ва ўмовах планамернага і ўсебаковага ўдасканалення сацыялізму на аснове паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны значна ўзрастае. Гэта абумоўлена тым, што на даным этапе павышаецца кіруючая роля Камуністычнай партыі ў жыцці савецкага грамадства. Цяпер перад КПСС, яе кіруючымі органамі паўстаюць новыя, усё больш складаныя праблемы, якія патрабуюць велізарнага вопыту, майстэрства ў кіраўніцтве. І зразумела, партыя тым больш паспяхова ажыццяўляе сваю ролю ў грамадстве, чым больш ініцыятыўна дзейнічаюць усе яе арганізацыі, усе яе члены. Гэта вынікае з паўсядзённай практыкі, адпавядае ленінскім указанням.

Ленін адзначаў, што камуністы павінны заваёўваць вядучую ролю і аўтарытэт асабістым прыкладам, асабістымі энергіяй і гераізмам. І заўсёды яно так было.

Многа слаўных спраў на рахунку камуністаў і ў гэтыя дні. Як звычайна, камуністы ідуць у авангардзе сацыялістычнага будаўніцтва, паказваюць прыклад ударнай працы і добрых паводзін, таварыскай узаемадапамогі. Шэраг гадоў добрая слава ідзе аб пярвічнай партыйнай арганізацыі саўгаса «Кармянскі» Кармянскага раёна. Тут больш як сто камуністаў. Кожны пяты з іх мае ўзнагароды Радзімы за ўзорную працу. Больш за 30 камуністаў — ударнікі камуністычнай працы. Камуністы не толькі добра працуюць, але і актыўна ўдзельнічаюць у грамадска-палітычным жыцці.

Пытанні павышэння працоўнай і палітычнай актыўнасці членаў партыі пастаянна знаходзяцца ў цэнтры ўвагі, прынцыпова разглядаюцца на партсходах, пасяджэннях партыйнага камітэта і бюро цэхавых парторганізацый. Тут кожны камуніст мае пастаяннае ці часовае даручэнне, выступае са справаздачамі аб выкананні статутных патрабаванняў, ніводзін не бывае па-за кантролем пярвічнай партыйнай арганізацыі. Таму камуністы выхоўваюцца як сапраўдныя палітычныя байцы.

Па ініцыятыве камуністаў у працоўных калектывах прадметна абмеркаваны праекты новай рэдакцыі Праграмы і Статута КПСС, Асноўных напрамкаў эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гады і на перыяд да 2000 года. Партыйныя арганізацыі з дапамогай сваіх членаў імкнуцца ў кожным калектыве выявіць і прывесці ў дзеянне нявыкарыстаныя рэзервы, пазбавіцца ад недахопаў, як мага лепей пабудаваць сваю работу, зрабіць больш важкі ўклад у далейшае развіццё савецкага грамадства на аснове паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Вядома, любы план, любыя абавязацельствы так і застануцца добрымі пажаданнямі, калі не будуць забяспечаны такімі неабходнымі рэсурсамі, як добрасумленныя, творчыя адносіны да справы іх непасрэдных выканаўцаў. ЦК КПСС лічыць, што зараз з усіх арганізацыйна-эканамічных і сацыяльных рэзерваў, якія дазваляюць атрымаць параўнальна хуткую аддачу, перавага за чалавечым фактарам.

Камуністы праяўляюць высокую адказнасць у працы, выступаюць ініцыятарамі ўкаранення ўсяго новага, перадавога, навуковай арганізацыі працы, ідуць у першых радах барацьбітоў за практычнае ажыццяўленне планаў партыі.

Калі ты камуніст, то павінен умець асабістыя свае інтарэсы падпарадкоўваць інтарэсам грамадскім, інтарэсам партыі. Падпарадкоўваць так, як, напрыклад, змог гэта зрабіць у свой час Я. А. Шуляк, цяпер брыгадзір кавалёў-штампоўшчыкаў Мінскага аўтазавода, Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, член парткома завода. Пасля дэмабілізацыі з арміі, у 1963 годзе малады камуніст Я. Шуляк прыехаў на Мінскі аўтазавод і вельмі хацеў працаваць на зборцы аўтамабіляў. Але начальнік аддзела кадраў сказаў:

— Запатрабаваць ад вас не магу, але прашу як камуніста — дапамажыце наладзіць работу кавальскага цэха. Там у нас кадраў не хапае.

Да гэтага Я. Шуляк пабываў у кавальскім цэху, і ўражанне ад яго засталося самае непрыемнае. Грукат вялізных молатаў, гарачыня ад распаленага металу, людзі, якія выконваюць нялёгкую работу. Не, туды яго не вабіла. Шуляк стаяў і думаў. А начальнік аддзела зноў паўтарыў прапанову.

— Разумееце, туды толькі камуніст можа пайсці...

Я. Шуляк успамінае гэты эпізод так:

— Я згадзіўся. І вось ужо больш як дваццаць гадоў працую кавалём-штампоўшчыкам. Гэта прафесія патрабуе вялікай фізічнай сілы, цвёрдасці характару. Яна стала маёй любімай справай, сапраўдным прызваннем, дала магчымасць самасцвердзіцца ў жыцці. І галоўнае, у мяне партыйнае сумленне чыстае. У рашаючую хвіліну я не даў сабе паслаблення, не змаладушнічаў...

У Яўгена Аляксандравіча зараз многа вучняў, у тым ліку вядомых майстроў сваёй справы. Некаторым з іх настаўнік даваў рэкамендацыі для ўступлення ў партыю. Яны з гонарам апраўдваюць высокае званне камуніста. Гэта Анатоль Латышэвіч — адзін з лепшых кавалёў завода; Аляксандр Молчан, які працуе зменным майстрам; Мікалай Козел — перадавы рабочы і іншыя.

Жыццё мае і іншыя прыклады свядомага, самаадданага выканання камуністамі сваіх абавязкаў. Многія з іх, дабіўшыся высокіх паказчыкаў у сваёй рабоце, у сваёй брыгадзе ці гаспадарцы, у сваім цэху ці на прадпрыемстве, пераходзяць у адстаючыя калектывы і там узначальваюць работу па ўздыму іх: вучаць, як дабіцца прафесійных вяршынь.

Нядаўна перайшла працаваць у слабую гаспадарку Герой Сацыялістычнай Працы, член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС і бюро Брэсцкага абкома партыі аператар машыннага даення Лідзія Дзмітрыеўна Брызга. Чвэрць веку яна працавала ў калгасе імя Жданава Брэсцкага раёна, атрымлівала звыш пяці тысяч літраў малака ад кожнай каровы ў год. А пайшла на ферму калгаса «Памяць Ільіча», дзе надоі амаль удвая ніжэй і ўмовы працы значна горшыя. З усёй сям'ёй Лідзія Дзмітрыеўна абжываецца на новым месцы. Што ж прымусіла вядомую даярку пайсці на гэтыя перамены, траціць у заробку, добраахвотна ўзяцца за больш цяжкую работу?

— Мне здаецца, што ў калгасе «Памяць Ільіча» я прынясу больш плён,— гаворыць Л. Д. Брызга.— У калгасе імя Жданава накоплены немалы вопыт у малочнай жывёлагадоўлі. І павучыцца ёсць у каго. А тут — гаспадарка маладая: нямала нявырашаных праблем. Хачу паспрабаваць, ці змагу тут дабіцца такіх жа вынікаў, як раней. Ды і як жа інакш? Там, дзе цяжэй, кожны павінен падставіць сваё плячо!

У вытворчым аб'яднанні «Беларуськалій» падставіў сваё плячо таварышам камуніст Уладзімір Васільевіч Серавокі. Ён папрасіўся ў адстаючую брыгаду, узначаліў яе, глыбока разабраўся ў прычынах адставання. Галоўная з іх была ў тым, што людзі перасталі верыць у магчымасці выканаць план. Новы брыгадзір добразычліва вучыў таварышаў прафесійнаму майстэрству, якім добра валодаў сам, і кожную змену перавыконваў асабістае заданне. Паступова справы і ў калектыве сталі папраўляцца — усё больш рабочых выконвалі заданне. Вынік — брыгада камуніста У. В. Серавока-

га выканала план адзінаццатай пяцігодкі да 115-й гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна.

Падобных прыкладаў шмат. Гэта праявы таго, што мы называем — камуністычнай свядомасцю. Гэта неабходныя рысы сапраўднага камуніста.

Выкананне рэвалюцыйнай пралетарскай партыяй сваёй сусветна-гістарычнай ролі У. І. Ленін лічыў магчымым пры ўмове, калі яна сапраўды з'яўляецца авангардам пралетарыяту, уключае ў сябе ўсіх лепшых яго прадстаўнікоў, складаецца са свядомых і адданых камуністаў, калі партыя здолела непарыўна звязаць сябе з жыццём пралетарыяту, а праз яго — з усімі масамі працоўных. Калі трэба было ад герозкі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны перайсці да «прозы» гаспадарчага будаўніцтва, У. І. Ленін даволі востра паставіў пытанне аб вызваленні ад людзей безыніцыятыўных і інертных. «Каму «нуднай», «нецікавай», «незразумелай» здаецца гэтая работа...— пісаў ён,— таго лепш «вызваліць ад работы» і здаць у архіў, каб ён не мог нанесці шкоды, бо ён не жадае або не ўмее падумаць над своеасаблівасцю данай ступені, данага этапа барацьбы».

Уладзімір Ільіч шмат разоў падкрэсліваў, што ў радах пралетарскай партыі могуць знаходзіцца толькі беззапаветныя барацьбіты за справу рабочага класа, усяго працоўнага народа, што ад таго, які састаў партыі, кім і як яна папаўняе свае рады, якія патрабаванні прад'яўляе да сваіх членаў і якія прадастаўляе ім правы, у вялізнай меры залежыць поспех яе дзейнасці.

Партыя Леніна клапоціцца аб папаўненні сваіх радоў свежымі сіламі з усіх класаў і сацыяльных груп савецкага грамадства. Але перавагу пры гэтым аддае вядучаму класу, самаму рэвалюцыйнаму класу. У Беларускай рэспубліканскай партарганізацыі сярод прынятых кандыдатамі ў члены КПСС пасля XXIX з'езда КПБ рабочыя складаюць 57,5 працэнта. У сацыяльным саставе Камуністычнай партыі Беларусі — 45 працэнтаў рабочых. Дарэчы, гэта адлюстроўвае класавы характар Камуністычнай партыі, якая па сваёй класавай сутнасці і ідэалогіі была і застаецца партыяй рабочага класа, хаця ў сучасных умовах яна развілася ў авангард усяго савецкага народа.Ператварэнне КПСС у партыю ўсяго савецкага народа з'яўляецца заканамерным вынікам гістарычнага развіцця, які адлюстроўвае вялікія перамогі сацыялізму ў СССР, глыбокія сацыяльна-эканамічныя ператварэнні ў нашай краіне, расшырэнне і ўмацаванне сацыяльнай базы партыі, яе сувязей з шырокімі масамі працоўных.

Каб яшчэ больш палепшыць якасны састаў партыі, узняць авангардную ролю камуністаў, узмацніць партыйны ўплыў на ўсіх членаў працоўнага калектыву, яшчэ больш умацаваць сувязь партыі з масамі, у Статуце КПСС прапануюцца змяненні, якія накіраваны на ўмацаванне партыйнай дысцыпліны, адзінай і абавязковай для ўсіх камуністаў, незалежна ад іх заслуг і пасад, якія яны займаюць. У такой дысцыпліне, да таго ж свядомай,— зарука адзінства і згуртаванасці партыйных радоў. Камуніст, які зрабіў праступак, павінен адказваць за яго, як прапануе праект Статута, перш за ўсё перад пярвічнай партыйнай арганізацыяй, дзе стаіць на ўліку.

Не сакрэт, што не ўсе камуністы разумеюць выключную важнасць індывідуальнага адбору ў партыю. На жаль, ёсць нямала выпадкаў, калі таварышы, якія атрымалі рэкамендацыі, не прымаюцца кандыдатамі ў члены партыі, а некаторыя выключаюцца з кандыдатаў. Дапаўненне, якое прапануецца, служыць павышэнню адказнасці тых, хто рэкамендуе. Паляпшэнню якасці партыйнага папаўнення будзе служыць другая прапанова праекта Статута — аб замацаванні практыкі прыёму ў партыю пераважна на адкрытых сходах.

Прынцыпова важнае значэнне мае і другое змяненне, якое прапануецца: за парушэнне савецкіх законаў член партыі прыцягваецца да двайной адказнасці — перад дзяржавай і перад партыяй, як было ў нашай партыі пры Леніне. Тым самым павінен быць пакладзены канец праявам палавінчатай патрабавальнасці, якія назіраюцца ў некаторых партарганізацыях. Гэта астудзіць і тых, хто імкнецца ўступіць у партыю па кар'ерысцкіх меркаваннях. «Камуністаў суды павінны караць больш строга, чым некамуністаў»,— пісаў У. І. Ленін у Палітбюро ЦК РКП(б) у сакавіку 1922 года.

У Статуце КПСС замацавана выключна важнае палажэнне аб тым, што партыя аслабаняецца ад тых, хто парушае Праграму, Статут і кампраметуе сваімі паводзінамі высокае званне камуніста. Партыйныя арганізацыі пільна сочаць за выкананнем гэтага палажэння. Як адзначалася на мінулым з'ездзе КПСС, за справаздачны перыяд з КПСС выключана амаль 300 тысяч чалавек.

Красавіцкі (1985 года) Пленум ЦК КПСС запатрабаваў узмацніць запыт з кожнага члена партыі. Асабліва высокія запатрабаванні ён прад'явіў да камуністаў-кіраўнікоў. Ім сёння мала простай выканаўчасці, неабходна мець такія якасці, як кампетэнтнасць, пачуццё новага, ініцыятыва, смеласць і гатоўнасць браць адказнасць на сябе, уменне паставіць задачу і давесці да канца яе рашэнне, здольнасць не губляць з поля зроку палітычны сэнс гаспадарання, жаданне вучыцца працаваць.

Такім чынам, быць камуністам — вялікі гонар, але і вялікая адказнасць, бо трэба быць часцінкай ленінскай партыі, якая, па вобразнаму выразу яе правадыра, з'яўляецца розумам, гонарам і сумленнем нашай эпохі, партыі, якая прад'яўляе сёння выключную патрабавальнасць да камуністаў. І гэта справядлівыя патрабаванні да авангарда, які на чале ўсяго народа выйшаў на штурм паскоранага сацыяльна-эканамічнага развіцця нашага грамадства, маючы на ўвазе дасягненне яго якасна новага стану, арыентуючыся на камуністычную перспектыву.

**Уладзімір БАБКОЎ,**
**доктар гістарычных навук.**



# РАДАСЦЬ І ТРЫВОГА

Скажу шчыра: у маім сэрцы жывуць два пачуцці, можа, і не вельмі сумяшчальныя, хутчэй, процілеглыя, але ўжываюцца разам. Якія ж гэта пачуцці? Радасць і трывога.

Найперш, радасць!

Радуюся за нашу шчаслівую і светлую Айчыну.

Апошнім часам давялося пабываць у Сібіры і Комі АССР, на Украіне і ў Малдавіі, Кіргізіі і Таджыкістане.

А мая нядаўняя паездка — на Браслаўшчыну, у азёрны край нашай Беларусі. Там мы з маладым іняўрымслівым паэтам Алесем Жыгуновым цэлы тыдзень ездзілі па раёне. І зноў жа радаваліся, як з гадамі маладзее і прыгажэе Браслаўшчына. З асаблівым хваляваннем ехалі на возера Дрысвяты, на гідраэлектрастанцыю «Дружба народаў».

Электрастанцыю будавалі тры калгасы — беларускі, літоўскі і латышскі. Гэта было і не так даўно — у пяцідзесятых гадах. Пра будоўлю ведала краіна. Пятрусь Броўка, народны паэт Беларусі, напісаў раман «Калі зліваюцца рэкі», літоўскі вядомы паэт Эдуардас Межэлайціс — «Паэму братэрства». Будоўлі прысвяцілі вершы Адам Русак, Анатоль Астрэйка. Станцыя, па сённяшніх маштабах, маленькая. Магутнасць была ўсяго 300 кілават. Кожнаму калгасу — беларускаму, літоўскаму, латышскаму — круціла па некалькі дзесяткаў матораў. Але як радавала людзей! Як натхняла і абнадзейвала!

Сёння ГЭС «Дружба народаў» стаіць жывым музеем на мяжы трох рэспублік. Ёсць надзея, што там сапраўды з цягам часу арганізуюць музей працоўнай славы. А побач, на другім беразе возера, цяпер узвышаецца Ігналінская атамная электрастанцыя. Эстафета дружбы і нашага ўпэўненага поступу ў будучае працягваецца.

Трывога вісіць над нашай зялёнай планетай. У кожным сэрцы сумленнага чалавека. І абавязак кожнага — змагацца за мір, за блакітнае неба над галавой. Для пісьменніка такая барацьба — яго публіцыстычнае, мастацкае слова, яго кнігі.

Павінен сказаць, што для беларускай літаратуры была і застаецца і, відаць, яшчэ доўга будзе галоўнай тэмай — тэма вайны. Пішуць пра вогненнае ліхалецце і старэйшыя, і маладзейшыя, і хто ваяваў, і хто нарадзіўся пасля пераможнага Мая 1945 года. Баляць раны вайны на целе, у сэрцы і ў душы. І будуць балець яшчэ не аднаму пакаленню нашых людзей.

І я пішу пра людзей вайны, удзячны ім, што яны і мяне, дзіця, абаранялі, вызвалялі маю вёску, за мяне заступаліся, гінулі.

Нядаўна ў выдавецтве «Юнацтва» выйшла мая кніжка «Крутыя вёрсты». У ёй — дзве аповесці: пра легендарнага санінструктара Зіну Тусналобаву і вогненнага лётчыка Сашу Мамкіна. Зіна вярнулася з вайны без рук і без ног. А Саша Мамкін жывым факелам згарэў у небе Беларусі.

Калі пісаў аповесць, думаў, якім мужным і адчайным становіцца савецкі чалавек, калі ідзе на подзвіг. Якімі ўдзячнымі павінны быць мы ўсе тым, хто здабыў для нас шчымлівую радасць перамогі! І як рашуча і страсна змагацца за мір, за яснае неба над заўтрашнім днём нашых дзяцей, усёй планеты!

Радасць і трывога ў сэрцы. Несумяшчальныя пачуцці. Але ж той навучыцца па-сапраўднаму радавацца, хто ўмее трывожыцца. Таго балюча раніць трывога, хто ўмее радавацца кожнаму новаму дню, хто ўмее цаніць вясновую зеляніну, пяшчотную вясёлку ў небе.

**Уладзімір ЛІПСКІ.**

# З НАДЗЕЯЙ—У

**«...Любі прафесію земляроба. Ведай: няма да шчасця шляху больш надзейнага, чым шлях працы. Спасцігай вопыт старэйшых, бяры прыклад з лепшых працаўнікоў сяла — і станеш добрым спецыялістам. І тады, гледзячы на цябе і справу рук тваіх, землякі скажуць: вось сапраўды хлебароб!..»**

**(З пасвячэння ў хлебаробы калгаса імя П. А. Жалезняковіча).**

Вялікія Жухавічы — вёска, але прыкметы часу выразна праяўляюцца тут паўсюдна. Многія вуліцы пакрыты асфальтам, па баках — добрыя тратуары для пешаходаў, двары аддзяляюцца прыгожым штыкетнікам. Вакол цэнтра месцяцца шматпавярховыя будынкі, трошкі збоку — новабудоўля. Горад — ды і толькі.

Калгас імя П. А. Жалезняковіча Карэліцкага раёна не толькі адна з самых буйных гаспадарак на Гродзеншчыне, але і адна з лепшых. Нездарма ў калгаснай гасцініцы кожны дзень людна: прыязджаюць спецыялісты розных профіляў, вучоныя. Прыязджаюць паглядзець гаспадарку і таму-сяму павучыцца, пераняць вопыт. А вучыцца тут ёсць чаму, ёсць у каго. Вось толькі адна лічба, але яна гаворыць пра многае: за адзінаццатую пяцігодку калгас рэалізаваў дзяржаве на 48,6 мільёна рублёў высакаякаснай прадукцыі.

«За дасягнутыя высокія паказчыкі па вытворчасці і продажу дзяржаве льнопрадукцыі і па выніках работы за 1984 год гаспадарка ўзнагароджана пераходным Чырвоным сцягам Міністэрства сельскай гаспадаркі



Новая вуліца будзе названа імем першага старшыні калгаса П. А. Жалезняковіча.





Малочнатаварная ферма Малыя Жухавічы. Кандыдат у члены КПСС Наталля Коўган і яе настаўніца, член парткома калгаса Яўгенія Андрэеўна Вішнеўская добра ведаюць, што толькі з моцнага маладняку можна вырасціць добры дойны статак.

Камуніст-механізатар Гаўрыла Трафімавіч Бычок лічыць неабходным палепшыць эканамічную і тэхнічную вучобу спецыялістаў калгаса для таго, каб выкарыстанне агратэхнікі было максімальна эфектыўным пры любых умовах надвор'я.

# БУДУЧЫНЮ

**ЛІТАРАТУРНЫ ПОСТ «БЕЛАРУСІ» Ў ПАДШЭФНЫМ КАЛГАСЕ**



Віктар ВЯЛЕСЬКА,
Віктар ГАНЧАРЭНКА (фота).

Ірына Цупрыянчык, Ганна Пачкоўская, Тэрэза Маляука і Галіна Хіневіч адпраўляюць гваздзікі з калгаснай цяпліцы жыхарам сталіцы Беларусі горада-героя Мінска.

СССР і Цэнтральнага Камітэта прафсаюза працаўнікоў сельскай гаспадаркі,— гаворыць старшыня калгаса Аляксандр Аляксандравіч Багушэвіч.— У гаспадарцы шырокі размах атрымала спаборніцтва за высокую культуру земляробства. На працягу шэрага гадоў ёй прысвойваецца званне «Гаспадарка высокай культуры земляробства». Калгасныя аграномы вядуць даследчыя работы па насенневодству збожжавых, бульбы, лугапашавых траў. Механізатары стараюцца рацыянальна выкарыстоўваць тэхніку, якая замацавана за вытворчымі ўчасткамі. У апошнія два гады ўсе шэсць вытворчых участкаў, а ў гэтым годзе і комплекс па адкорму буйной рагатай жывёлы працуюць па калектыўным брыгадным падрадзе з аплатай працы за канечныя вынікі. Такая форма арганізацыі працы поўнасцю сябе апраўдала».

Але не толькі высокімі эканамічнымі паказчыкамі славіцца калгас імя П. А. Жалезняковіча. Добрых поспехаў дасягнула праўленне і грамадскія арганізацыі калгаса ў пераўтварэнні сяла, вясковага побыту і, калі хочаце, свядомасці калгаснага працаўніка. Гэта работа выяўляецца паўсюдна: і ў стварэнні жыллёвага фонду калгаса, які складае больш за 150 кватэр, і ў пабудове новых механічных майстэрань з цёплымі гаражамі і крытымі навесамі для рамонту і захавання тэхнікі, і ў дзіцячым садзіку на 140 месц, і ў піянерскім лагеры, на базе якога хутка пачнецца стварэнне новага калгаснага прафілакторыя, і ў многім, многім іншым.

Але галоўнае багацце, як вядома, гэта — людзі. «Мы разумеем справу так,— гаворыць сакратар парткома калгаса Адам Вітольдавіч Раманоўскі,— што сённяшні хлебароб — гэта высокаадукаваны чалавек, які не толькі добра ўсведамляе задачы і мэты свайго калгаса, але і патрэбы ўсяго нашага грамадства. Толькі з такімі людзьмі можна паспяхова выконваць усе заданні. А яны ў нас ёсць. Гэта — механізатар Гаўрыла Трафімавіч Бычок, камуніст, за сумленную працу ўзнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і «Знак Пашаны», медалём «За доблесную працу». Ён датэрмінова выканаў заданні пяцігодкі і значна перавысіў іх па выпрацоўцы ўмоўна-эталонных гектараў і па намалоту зерня. Гаўрыла Трафімавіч не толькі сам паспяхова асвойваў новую тэхніку, але і навучыў траіх хлапцоў-камбайнераў. Але і гэта не ўсё. Ён яшчэ і добры рацыяналізатар, удумлівы гаспадар. На апошняй справаздачна-выбарнай партыйнай канферэнцыі ён прапанаваў удасканаліць метады інтэнсіўнага вядзення земляробчых работ. А для таго, каб зменшыць адмоўны ўплыў прыродных фактараў на ўраджайнасць, ён выказаўся за паляпшэнне эканамічнай вучобы спецыялістаў і механізатараў, каб пры любых умовах надвор'я знаходзіць самыя рацыянальныя прыёмы агратэхнікі».

Шмат добрых слоў можна сказаць і пра загадчыка фермы Карпука Мікалая Уладзіміравіча, агранома вытворчага ўчастка Жукаўцова Сяргея Мікалаевіча, механіка калгаса Бондарава Уладзіміра Рыгоравіча, галоўнага заатэхніка Дуко Уладзіміра Іосіфавіча, трактарыста Бурака Івана Гаўрылавіча, шафёра Лахмана Міхаіла Андрэевіча, даярку Коўган Наталлю Паўлаўну і многіх, многіх іншых, хто сваёй самаадданай працай праслаўляе родны калгас, з гонарам носіць высокае званне хлебароба.

У калгасе імя П. А. Жалезняковіча з павагай ставяцца да працоўнага чалавека. Уласна кажучы, высокія эканамічныя паказчыкі гаспадаркі ў немалой ступені атрыманы таму, што праўленне калгаса, партком, прафком і камітэт камсамола праводзяць эфектыўную сацыяльную палітыку, якая адпавядае патрабаванням часу.

«Толькі праз добра прадуманую эканамічную стратэгію,— гаварыў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў на кастрычніцкім Пленуме ЦК КПСС,— моцную сацыяльную палітыку і мэтанакіраваную ідэйна-выхаваўчую работу, якія ўзяты ў іх непарыўным адзінстве, можна актывізаваць чалавечы фактар, без якога не можа быць вырашана ні адна з пастаўленых задач. Пытанне сёння стаіць іменна так».

Што ж, камуністы калгаса імя Жалезняковіча перакананы, што з задачамі сваімі справяцца.



Цэх пластмасавых вырабаў: сакратар парткома Адам Вітольдавіч Раманоўскі абмяркоўвае выкананне вытворчага плана з слесарам-наладчыкам, партарганізатарам цэха Васілём Зарубенкам і слесарам-гідраўлікам Мікалаем Богушам.



# МЫ, НАРОДЫ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ...

## МІР — НЕ ТОЛЬКІ АДСУТНАСЦЬ ВАЙНЫ

Працягвалася сесія, ішлі дэбаты, і ўслед за першачарговым тэматычным і паняційным пластом, выказаным у словах «мір», «разрадка», «раззбраенне», «прадухіленне вайны», слыху прыадкрываўся ўсё больш яшчэ адзін пласт: эканамічнае становішча, развіццё, гандаль, рынкі, цэны, пратэкцыянісцкія бар'еры, плацежны баланс, запазычанасць, фонды, нацыянальныя прыродныя рэсурсы, багацці сусветнага акіяна, марское права, міжнародная стратэгія развіцця, новы эканамічны парадак... Характэрным пасажам для многіх прамоў, у прыватнасці, для тых, што належалі прадстаўнікам «трэцяга свету», былі горкія, часам нават пачалавечы шчымлівыя скаргі накшталт: «Расце разрыў паміж багатымі і беднымі краінамі», «Адна трэць пажынае плады двух трацей сусветнага даходу», «Дзве трэці чалавецтва жывуць у беднасці і многія — ніжэй узроўню галечы», «Больш чвэрці насельніцтва зямлі пакутуе ад пастаяннага недаядання» і г. д. Гэтая сумная статыстыка дапаўнялася адпаведнымі эпітэтамі. Адзін прамоўца называў эканамічнае становішча маладых, слабаразвітых краін «безнадзейным», другі — «катастрафічным», трэці, цяжка ўздыхнуўшы, канстатаваў: «Высыхае малако чалавечай дабраты і шчодрасці». А нехта нават, не разбіраючы невінаватых і вінаватых, прапанаваў увесці «міжнародны падатак» на ўсе развітыя краіны на карысць тых, хто толькі што стаў на шлях развіцця.

Як бы абагульняючы гэтыя скаргі і прэтэнзіі, што гучалі на форуме, прадстаўнік Бірмы ў сваю чаргу падкрэсліваў: «Скрытая нестабільнасць і яўны крызіс, які мае месца ў сусветнай эканоміцы, больш чым што-небудзь іншае сведчаць пра той факт, што цяперашняя міжнародная эканамічная сістэма не адпавядае патрабаванням часу».

Іншымі словамі, размова ішла аб тым — на гэтай выснове пагаджалася пераважная большасць прадстаўнікоў,— што гістарычна наспела неабходнасць у новым, больш справядлівым эканамічным парадку ў свеце, што палітычная дэкаланізацыя павінна быць дапоўнена дэкаланізацыяй эканамічнай, далейшым вызваленнем атрымаўшых нядаўна дзяржаўнасць краін ад путаў імперыялістычнай экспансіі і эксплуатацыі. Хаця нехта з афрыканскіх дэлегатаў і нагадаў у сваім выступленні гордыя словы Секу Турэ: «Мы лічым за лепшае свабоду ў галечы, чым багацце ў рабстве»,— прыходзілася лічыцца з тым суровым фактам, што не можа быць сапраўднай свабоды і нацыянальнага суверэнітэту без належнай эканамічнай самастойнасці. «Сапраўдная палітычная незалежнасць,— гаварыў міністр замежных спраў Дэмакратычнай Рэспублікі Йемен,— не можа абмяжоўвацца толькі ўласным флагам і нацыянальным гімнам. Яна павінна пакласці пачатак радыкальным пераўтварэнням з тым, каб забяспечыць ва ўсіх адносінах лепшыя ўмовы для ўсяго народа». «Без эканамічнай незалежнасці няма і палітычнай свабоды»,— так сфармуляваў сваю думку прадстаўнік Ліберыі. «Мы стварылі на руінах каланіяльнай імперыі новы тып дзяржавы,— звяртаўся да Асамблеі прэзідэнт Мазамбіка Самора Машэл.— Наш удзел у міжнародных справах — сведчанне поспеху. Але вірус каланіялізму ўсё яшчэ жывы, барацьба не даведзена да канца. Карыстаючыся прысутнасцю на гэтай Асамблеі, мы заяўляем, што толькі поўнае вызваленне і гарманічнае развіццё могуць быць асновай для раўнапраўнага, братняга існавання ўсіх народаў і краін».

У папярэднім раздзеле закранался пытанне аб тым, што ва ўмовах міжнароднай напружанасці і гонкі ўзбраенняў не можа быць здаровага ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва краін і ўсеагульнага сацыяльна-эканамічнага прагрэсу, што раззбраенне з'яўляецца, як заўважыў адзін дэлегат, «дабром для ўсіх». Цяпер жа, калі ішла гаворка аб эканамічным становішчы ў свеце, аб стане нацыянальных эканомік дзяржаў, стаўшых на шлях развіцця, праблема пераварочвалася на другі, супрацьлеглы бок. Цяпер падкрэслівалася, што змаганне за мір і бяспеку нельга аддзяляць ад змагання за сапраўдную гаспадарчую незалежнасць, за эканамічную дэкаланізацыю, што палітычная стабільнасць цесна звязана са стабільнасцю эканамічнай і што калі не будзе прагрэсу ў вырашэнні тэрміновых сацыяльна-эканамічных праблем, у наладжванні ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі, то не будзе і рэальнай бяспекі, стабільнасці і трывалага міру. «Мір на зямлі,— гаварыў прадстаўнік Бахрэйна,— залежыць ад справядлівага размеркавання багаццяў, што патрабуе перабудовы эканамічных адносін і ўмоў, якія існуюць у сучасны момант». «Мір — гэта не проста адсутнасць вайны,— зазначаў індыйскі дэлегат.— Тонкая матэрыя міжнароднага міру можа быць парвана на кавалкі ў любы час. Мір можа быць захаваны толькі ў выніку калектыўных намаганняў, накіраваных на ліквідацыю эксплуатацыі і панавання аднаго чалавека над другім, толькі шляхам ліквідацыі страшэннай няроўнасці і дыспрапорцый, якія існуюць паміж дзяржавамі, а таксама паміж правамі і магчымасцямі народаў свету».

Ці гаварылі ўдзельнікі сесіі аб прычынах сацыяльна-эканамічнай няроўнасці ў свеце, адсталасці слабаразвітых краін? Ці называлі вінаўнікаў такога становішча спраў? Ці ішла на форуме гаворка аб рэальных шляхах усталявання новага, справядлівага эканамічнага парадку?

Асобныя прамоўцы абыходзілі, што называецца, вострыя вуглы, ці дзейнічалі па двухсэнсоўнаму прынцыпу: хто мінулае ўспомніць, таму вока вон. Адзін з іх, напрыклад, толькі далікатна намякаў: «Мы зусім не добраахвотна згадзіліся на ўмовы адсталасці, не самахоць выбралі беднасць. Гэтыя ўмовы нам былі навязаны». Другі, гаворачы пра эканамічныя праблемы «трэцяга свету», асцярожна даваў знаць, што «гэтыя цяжкасці з'яўляюцца не толькі вынікам геаграфічнага становішча краін», што «іх, па сутнасці, стварылі самі людзі».

Але, трэба сказаць, пераважная большасць краін, стаўшых на шлях развіцця, у прыватнасці, тых, якія складаюць у ААН «групу 77», проста называла рэчы іх імёнамі, расцэньвала эканамічную няроўнасць як параджэнне каланіялізму і неакаланіялізму, як вынік капіталістычнага гаспадарання ў свеце. «Як склалася на пачатку веку, так існуюць і да гэтай пары абставіны,— гаварыў прадстаўнік Катара,— пры якіх міжнародныя манаполіі падзялілі раёны свету і іх рынкі, кантралююць іх сыравіну і маніпулююць іх патэнцыяльнымі магчымасцямі». І далей: «Новы міжнародны эканамічны парадак павінен быць створаны на аснове супрацоўніцтва, а не эксплуатацыі, на аснове дэмакратыі ў міжнародных эканамічных адносінах, а не на аснове манапалізацыі». Падобную пазіцыю выказваў і іракскі дэлегат. «Прынцып пастаяннага суверэнітэту слабаразвітых дзяржаў над іх прыроднымі рэсурсамі,— зазначаў ён,— можа быць гарантаваны толькі шляхам нацыяналізацыі замежных манаполій, якія перашкаджаюць дасягненню сацыяльнага прагрэсу ў краінах, стаўшых на шлях развіцця». З лічбамі ў руках прамоўца паказаў, якіх памераў дасягнуў цяжар знешняй запазычанасці краін, стаўшых на шлях развіцця, у выніку эканамічнага дыктату неакаланізатараў. «Мая краіна,— заявіў ва ўнісон з папярэднімі прамоўцамі кіраўнік дэлегацыі Цэнтральнаафрыканскай Рэспублікі,— безагаворачна падтрымлівае ўсе сродкі, накіраваныя на тое, каб пакласці канец незаконнай дзейнасці транснацыянальных карпарацый і распрацаваць для гэтай мэты міжнародны кодэкс паводзін».

Нельга было не заўважыць і той знамянальны факт, што многія маладыя дзяржавы ў сваім аналізе міжнароднай эканамічнай сітуацыі зыходзілі з актыўных антыімперыялістычных пазіцый.

Асабліва выразна абазначылася на сесіі лінія супрацьстаяння краін «трэцяга свету» з індустрыяльна развітымі капіталістычнымі дзяржавамі ў святле вынікаў Парыжскай канферэнцыі па міжнароднаму эканамічнаму супрацоўніцтву. Гэта канферэнцыя — яе яшчэ называюць «дыялог Поўнач — Поўдзень» або «канферэнцыяй дваццаці сямі», паколькі на ёй была прадстаўлена такая колькасць удзельнікаў (8 заходніх капіталістычных і 19 стаўшых на шлях развіцця краін),— засядала больш як год, але вынікі яе, насуперак рэкламна-прапагандысцкім ацэнкам заходняга друку, аказаліся на паверку маласуцяшальнымі. І вось цяпер прадстаўнікі стаўшых на шлях развіцця краін — членаў ААН аплаквалі, так сказаць, свае няздзейсненыя надзеі і расчараванні, якія яны звязвалі з канферэнцыяй, выказвалі горкія нараканні на адсутнасць разумення і ўступчывасці з боку «багатай Поўначы», крытыкавалі заходні эгацэнтрызм. Вось, для прыкладу, некаторыя выказванні: «Лічу неабходным аб'ектыўна адзначыць слабыя бакі «дыялога Поўнач — Поўдзень». Адказнасць за гэта нясуць прамысловыя краіны, якія ігнаруюць нашы асноўныя пазіцыі» (Перу), «Вынікі доўгіх, на працягу 18 месяцаў, спрэчак выклікаюць у цэлым глыбокае расчараванне» (Індыя), «Мы шкадуем, што дыялог паміж Поўначчу і Поўднем не прывёў да агульнага вырашэння праблем, якія стаяць на шляху намаганняў, звязаных з развіццём, што няма палітычнай волі і гатоўнасці з боку ўрадаў развітых краін» (Йеменская Арабская Рэспубліка) і г. д.

---

Пачатак у №№ 1, 2.

Як паводзіў сябе ў гэты час «другі бок»?

Не лепшым, трэба сказаць, чынам. Дружны наступ прадстаўнікоў «трэцяга свету» нагадваў часам вуліцу з аднабаковым рухам. Бо іх апаненты, эканамічна развітыя заходнія краіны, яўна не спяшаліся ісці насустрач, адгукацца на кліч аб дапамозе, не выказвалі асабліваға жадання дзяліцца з бяднейшымі.

Што ж датычыць савецкай пазіцыі адносна перабудовы сусветных эканамічных узаемаадносін на справядлівай, дэмакратычнай аснове, то яна была ясна выкладзена на сесіі ў прамове А. А. Грамыкі, у выступленнях прадстаўнікоў БССР і УССР. «Хацелася б падкрэсліць,— гаварыў кіраўнік савецкай дэлегацыі ў ходзе агульнапалітычнай дыскусіі,— што да гэтай праблемы нельга падыходзіць толькі з «геаграфічнай» меркай. Бо не па мерыдыянах і паралелях праходзяць сёння граніцы багацця і беднасці. Залежыць гэта ад таго, як, кім, у якіх мэтах выкарыстоўваюцца прыродныя рэсурсы кожнай з краін, ад шырокага комплексу эканамічных, сацыяльных, палітычных фактараў».

Адказваючы на спробы заходніх палітыкаў перакласці сваю адказнасць на чужыя плечы, А. А. Грамыка заявіў далей: «Савецкі Саюз уносіць — і не з учарашняга дня — буйны ўклад у справу станаўлення нацыянальнай эканомікі краін, стаўшых на шлях развіцця. Прадстаўнікі многіх дзяржаў, якія знаходзяцца ў гэтай зале, ведаюць пра гэта не па чутках. І нам не зразумелыя выказванні, што раздаюцца сям-там на Захадзе, асабліва пасля таго, як зайшлі ў тупік так званыя перагаворы «Поўнач — Поўдзень», аб тым, што СССР павінен, маўляў, «далучацца» да аказання дапамогі краінам, стаўшым на шлях развіцця. Дзіўная пастаноўка пытання! Мы і надалей будзем аказваць пасільнае садзейнічанне краінам, якія выйшлі на дарогу самастойнага развіцця. Але каму не вядома, што гэтыя дзяржавы наўрад ці змогуць трывала ўстаць на ногі, калі яны будуць па-ранейшаму аблытаны сотнямі і тысячамі ніцей неакаланіялісцкай эксплуатацыі. Мы рашуча падтрымліваем іх патрабаванні аб ліквідацыі ўсіх праяў нераўнапраўя, дыктату, дыскрымінацыі ў міжнародных эканамічных адносінах. Гэта было пацверджана ў прадстаўленай мінулай сесіі Генасамблеі заяве Савецкага ўрада «Аб перабудове міжнародных эканамічных адносін».

Сказана ясна і прынцыпова. Пастаўлены ўсе кропкі над «і». Застаецца толькі дадаць, што названая заява была ў свой час высока ацэнена краінамі, стаўшымі на шлях развіцця.

## ВЯЛІКАЯ ДРАМА МАЛЕНЬКАЙ ГРЭНАДЫ

Сёмы дзень кастрычніка. Пятніца. Пасляабедзеннае пленарнае пасяджэнне. (Зала ўжо, бачу, крыху размагнічана прадчуваннем блізкага уік-энда.) Працягваецца агульная дыскусія. Старшыня паведамляе, што Асамблея заслухае зараз прэм'ер-міністра і міністра замежных спраў Грэнады. Грэнада... Пакуль абвешчана прамоўца ў суправаджэнні начальніка пратакола ўваходзіць у залу і падымаецца на трыбуну, прыгадваю, што мне вядома пра гэтую яшчэ малавядомую краіну — цёзку апетага савецкім паэтам андалускага горада ў Іспаніі. Нядаўна ўзнікшая на палітычнай карце свету дзяржава ў Карыбскім басейне, каля ста тысяч чалавек насельніцтва, негры і мулаты, пераважна хрысціяне-католікі, былая калонія Вялікабрытаніі, афіцыйная мова англійская, галоўная культура — мускатны арэх, па вытворчасці якога краіна займае другое месца ў свеце... Ну вось, здаецца, і ўсё. Зрэшты, не так ужо і мала. Такой малюсенькай дзяржаве займаць другое месца ў свеце хаця б па адным паказчыку — ужо адно гэта нешта значыць. Цікава, а што ўяўляе сабой кіраўнік, прэм'ер «мускатнай» рэспублікі? Што ён зараз скажа?

— Больш набожны, чым папа рымскі,— шэпча мне, як бы адказваючы на маё мысленнае пытанне, сусед, наш дыпламат.— Пачне зараз узносіць малітвы.

Заінтрыгаваны, папраўляю навушнікі, зручней прыладжваю блакнот. Грэнадскі прэм'ер-міністр (ён жа і міністр замежных спраў), яшчэ параўнаўча малады, танклявы мулат, робіць тэатральна падкрэслены жэст ветлівасці ў бок старшыні і пачынае сваю прамову... з псалма: «Хваліце госпада ўсе народы, праслаўляйце яго, усе плямёны, бо вялікая літасць яго да нас, і ісціна боская навекі...»

Вось так. Аказваецца, усё проста, выходзіць, справа міру і прагрэсу ў надзейных, боскіх руках.

Манерна заявіўшы, што «народ Грэнады ўпаўнаважыў яго як свайго пакорнага слугу ўнесці ўклад у работу трыццаць другой сесіі Генеральнай Асамблеі», сэр Гейры прызнаўся далей, што «зведвае пэўнае пачуццё веры і задавальнення ў сувязі з тым, што ім кіруе боская сіла», заznачыў, што «на планеце мы проста з'яўляемся гасцямі вышэйшага універсальнага стварэння — бога, які з'яўляецца вярхоўным архітэктарам», заклікаў членаў Асамблеі, каб «пытанне аб вярхоўным універсальным тварцу стаяла не толькі ў царкве і на рэлігійных сімпозіумах, але таксама і дома, і на афіцыйных міжнародных сустрэчах і канферэнцыях», каб «усе цырымоніі, будзь то падпісанне дагавораў, дыскусіі ці іншыя сустрэчы, пачыналіся з прызнання бога, са звароту: «Божа, дапамажы нам!»

Азіраюся: як рэагуе зала на гэтае набажэнства з трыбуны ААН. Ён, думаю, сапраўды такі богабаязны, гэты грэнадскі прэм'ер, ці гэта ён фарысействуе, прыкрывае імем боскім, як вуалеткай, свой сапраўдны палітычны твар? Адказ на маё пытанне не замарудзіў з'явіцца.

— Браты і сёстры,— чуецца ў навушніках,— давайце лічыць усіх нас адной вялікай сям'ёй на гэтай зямлі і давайце ўстрымлівацца ад прыняцця адвольных рашэнняў у дачыненні да такіх краін, як Чылі...

Маска спала. Выходзіла, што вонкава набожнаму прэм'еру зусім не чужыя «мірскія» справы, у прыватнасці, клопат аб прызнанні пінаЧэтаўскага рэжыму. Потым у яго выступленні прагучала і яшчэ адна ўжо зусім не прапаведніцкая, а, наадварот, адкрыта палітычная нота. Эрык Гейры стаў, захліпаючыся ад захаплення, расхвальваць новую, па яго словах, палітыку Злучаных Штатаў.

Было відавочна, якому богу моліцца сэр Эрык Гейры, каму ён гатовы прадаць на корані багацці «вострава мускатнага арэха», толькі што здабытую незалежнасць свайго народа.

Пацвердзілася прадказанне майго суседа па крэсле і наконт лятаючых талерак.

— Я сам бачыў неапазнаны лятальны аб'ект,— упэўнена заяўляў з аўтарытэтнай трыбуны грэнадскі прэм'ер, узводзячы вочы ўгору,— і на мяне зрабіла велізарнае ўражанне тое, што я бачыў.

Шмат чуўшыя і рознае бачыўшыя на сваім вяку сцены ААН ветліва слухалі.

— У 1975 годзе,— хваліўся далей Гейры ў сваёй і без таго шматслоўнай прамове,— я ўпамянуў пра розныя незразумелыя з'явы, якія працягваюць заставацца невытлумачальнымі для навукі. Я тады гаварыў пра Бермудскі трохкутнік, як пра адзін з прыкладаў, і заклікаў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый стварыць агенцтва ці дэпартамент для адпаведных даследаванняў. У 1976 годзе я дадаў да гэтага таксама неапазнаныя лятальныя прадметы і звярнуўся да краін свету прадставіць інфармацыю і іншыя даныя аб гэтай унікальнай з'яве.

Дзіўны прэм'ер — ён жа знаток НЛА — паведаміў яшчэ для большай важнасці, што мінулым летам «прысутнічаў і меў гонар выступіць са сваёй заявай на першым міжнародным кангрэсе па неапазнаных лятальных аб'ектах, які адбыўся ў мексіканскім горадзе Акапулька», і затым зноў скіраваў угодліва позірк да Злучаных Штатаў, даў знаць, што і ў дадзеным выпадку яго тут разумеюць і падтрымліваюць.

— Я меў на гэтаму пытанню,— спяшаўся ён падзяліцца з членамі Асамблеі,— гутарку з прэзідэнтам Джымі Картэрам, калі на маю долю выпаў гонар сустрэцца з ім на працягу сарака пяці мінут у час цырымоніі падпісання пагаднення па Панамскаму каналу.

Словам, як гэта часта бывае ў жыцці, у тым ліку ў жыцці грамадска-палітычным, сур'ёзнае ў дадзеным выпадку было густа прыпраўлена недарэчна-камічным, рэальнае — абсурдным.

Так выглядаў на міжнародным форуме кіраўнік адной з маладых карыбскіх дзяржаў з экзатычнай назвай Грэнада. Такім быў яго, на паверку, анансаваны ім загадзя «ўклад» у работу сесіі Генеральнай Асамблеі.

Усё гэта было б, канешне, смешна, калі б не было крышку сумна. Але не хацелася верыць, што выслоўе «Кожны народ варты свайго ўрада» мае універсальнае і абсалютнае значэнне. Хацелася верыць, што народ у дадзеным выпадку ні пры чым.

Праз некалькі тыдняў прадстаўнік Грэнады, адзін з хаўруснікаў Гейры, запэўніваў на пасяджэнні Спецыяльнага палітычнага камітэта, што «выказванні прэм'ер-міністра сэра Гейры на сесіях Генеральнай Асамблеі ААН адгукнуцца рэхам ва ўсіх калідорах гісторыі, будуць жыць вякамі ў памяці будучых пакаленняў». Гаварылася гэта, што называецца, на поўным сур'ёзе, без малейшага ценю гумару. І гаварылася ў той час, калі да сусветнай грамадскасці ўжо даходзіла рэха рэальных спраў Гейры, яго сапраўднай палітыкі: у краіне груба тапталіся элементарныя дэмакратычныя свабоды, для змагання з прагрэсіўнымі сіламі дыктатарскі рэжым браў на ўзбраенне фашысцкія метады пінаЧэтаўскай клікі...

Пастскрыптум. Не бывае ліха без дабра. Не самае прыемнае знаёмства на сесіі мела адзін станоўчы вынік — з таго часу я ўжо не прапускаў без увагі ўсё, што паведамлялася пра Грэнаду. І калі ў сакавіку 1979 года з далёкай Вест-Індыі прыйшла вестка аб тым, што на востраве адбылася рэвалюцыя, якая звергла рэжым Гейры і прывяла да ўлады прагрэсіўную партыю на чале з Морысам Бішопам, я ўспрыняў гэтую падзею як натуральны, непазбежны акт, як яшчэ адну, няхай сабе і лакальную, мясцовага значэння, але няўхільную перамогу дабра над злом. Па-свойму лагічным было і тое, што, як паведамлялі газеты, блазан ад палітыкі Эрык Гейры, ратуючыся ўцёкамі, атабарыўся менавіта ў Маямі і што менавіта тут, з дапамогай амерыканскіх спецслужбаў, стаў збіраць армію наёмнікаў, рыхтавацца да рэваншу.

На жаль — лёс пакуль што не вельмі ласкавы ў адносінах да народа Грэнады — рэванш праз чатыры з палавінай гады адбыўся, па сутнасці. Праўда, ажыццёўлены ён быў не самім Гейры з яго аднадумцамі і наёмнікамі і не пры дапамозе якіх-небудзь лятаючых талерак, на прадмет якіх двухсэнсоўна блазнаваў былы дыктатар. На маленькі, плошчай усяго ў трыста квадратных кіламетраў востраў, абрушылі сваю агнявую моц «лятаючыя крэпасці», баявыя самалёты і верталёты з бомбамі, ракетамі і ўзброеныя да зубоў «рэйнджэрамі» на борце і з апазнавальнымі знакамі ВПС ЗША. Напярэдадні быў па-ліхадзейску, з-за вугла забіты Морыс Бішоп, а цяпер быў нанесены смяротны ўдар яго краіне. Не паспеўшы як след усвядоміць сваю незалежнасць, адчуць смак самастойнага развіцця, Грэнада зноў стала залежнай — на гэты раз ад паўночнаамерыканскіх неакаланізатараў. Зрэшты, гэта не такая ўжо ў пэўным сэнсе і нечаканасць, гэта якраз тое, да чаго імкнуўся, аб чым, як мы бачылі, трызніў услых з трыбуны ААН грэнадскі квазіпрэм'ер Гейры.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

**Віктар КАЗЬКО**

**Закончыў працу над новым творам. Умоўная назва «Хроніка дзетдомаўскага сада». Гаворка ў ім ідзе пра тое, што больш за ўсё хвалюе мяне, чым я займаўся апошнія пятнаццаць гадоў свайго жыцця: гэта наш сённяшні дзень, нашы карані, нашы вытокі, зямля, яе людзі і звяры, іх лёс і жыццё. Аб усім гэтым мой пісьменніцкі і грамадзянскі роздум. І не толькі роздум, але і імкненне нешта перайначыць у жыцці. І сам твор пачаўся і ўзнік непасрэдна з таго, з чым я сутыкнуўся ў жыцці, што ў свой час узрадавала і абурыла мяне. Такім чынам гэта мо і не зусім раман у тым выглядзе, да якога мы прывыклі ўжо, але таксама і не дакументальная проза. Хутчэй — гэта мая споведзь перад чытачом, часам і самім сабой. І ў гэтай споведзі я імкнуўся да адзінага: быць шчырым і верным праўдзе, данесці да чытача тое, што прайшло праз маё сэрца.**

**Твор прыняты да друку ў часопісе «Дружба народов», здадзены ў часопіс «Полымя».**



УРЫВАК

З РАМАНА «САД»

# У дарозе

На дзядоў Споўдала выйшаў недзе апоўначы. Побач гула начная дарога, фары машын, што праносіліся міма, білі яму, праўда, у бок, але даставалася і вачам. А вочы яго ўжо былі немаладыя. Наракаць на іх яшчэ не наракаў, што трэба, бачаць, а чаго не бачаць вочы, тое адчуе ён носам. Але тут яго адразу падвялі і вочы, і нос. Хаця ён і адчуваў: хтосьці тут ёсць, а распазнаць не мог і пачуць не мог, хто. Нешта шэрае і як бы сатканае з туману. Споўдала пастаяў, паслухаў: небяспекі, здаецца, няма. Да машын ён даўно ўжо прызвычаіўся, смуродна толькі ад іх, але справы ім да яго аніякай. Увесь час равуць, нібыта ў іх бясконцы гон, адкуль толькі сіла ў іх такая бярэцца. Множацца, множацца дзень і ноч без перадыху, вялікія і малыя, гоняцца адна за адной. Але чагосьці ім не хапае. Споўдала, калі яшчэ быў малады, калі першы толькі раз убачыў іх, намагаўся зразумець, чаго ж. Але так і не зразумеў, плюнуў і пачаў грэбаваць імі. І цяпер ён стаяў задам да іх, ловячы вушамі, што адбываецца там, наперадзе. А наперадзе, як уяўлялася яму сёння і як падказала яму спрадвечная яго памяць, якая прыналежала не толькі яму, увабрала ў сябе ўсё, што было тут спакон веку, тады, калі ён сам быў менш шарсцінкі на целе свайго прабацькі, быў толькі гукам, які пранізваў стагоддзі, трубным рыкам свайго прапрадзеда, кропляю расы, сцяблом травы, подыхам ветру, які благаслаўляў і аплакваў яго будучае нараджэнне і жыццё,— па ўсім гэтым яму здавалася, што наперадзе вёска. Таму ён і знерухомеў, не ад спалоху, а хутчэй ад здзіўлення напружана набычыўся. Ён наогул не ведаў, што такое страх, таму што сам быў для іншых страхам. Каго яму баяцца, калі ён сам, бадай, усемагутны. Не кожнае дрэва можа ўстаяць перад ім, не тое што звер ці чалавек. Цар звяроў і ўсяго існага на зямлі цар, махіна, якую не збіць з ног, не звярнуць з дарогі, усё жывое саступае яму, расступаецца, бяжыць прэч, хаваецца ў норы і схованкі. Але гэта ўсемагутнасць адначасова сведчыла і аб тым, што ён недзе і бездапаможны. Споўдала ва мностве сваіх жыццяў на ўласнай скуры спазнаў гэту сваю сілу і бяссілле, горка і соладка паплакаў, праклінаючы сваю долю.

У гэтым жыцці яго не раз забівалі. А недзе з паўвека назад забілі, здавалася, назаўсёды. На зямлі, якой ён валодаў з такога часу, што не хапала і памяці, ён застаўся адзін. Ён заўсёды ведаў і помніў аб гэтым, як ведаў і помніў чалавека, які павінен быў яго забіць, таму што часта бачыў таго чалавека ў лесе, і той спачуваў яму, калі выпадалі суровыя зімы, дапамагаў выжыць. Але вось надышла тая адметная памятная зіма, калі ён застаўся адзін. Аплакваючы ўжо яго, нема вылі ваўкі. А ён, бязглузды, спачатку нават быў рад іх жалобнаму завыванню: адзін, і нікога, нікога ва ўсім белым свеце, хто мог бы падужацца з ім. Ён мог ісці, куды вядуць вочы, і ніхто б не заступіў яму дарогі. Уся зямля была яго, усе балоты, лясы, паша. Толькі не было нікога, каму зубр мог сказаць аб гэтым, хто мог бы парадавацца гэтаму з ім. Хаця спачатку ён і не адчуваў ні ў кім патрэбы, жыў самім сабой, сваёй свабодай. Гэта ўжо крыху пазней ён засумаваў, прыбіўся да ласёў, бачыў нешта блізкае, роднае паміж сабой і ласямі. Ласі, як і ён, таксама любілі ласавацца пупышкамі дрэў і маладымі галінкамі іх, сенам, травою. Але ласі не прызналі, пагрэбавалі ім, як ён пазней будзе грэбаваць машынамі. Пасля таго ён адышоў ад ласёў, зашыўся ў глыб пушчы, дзе жылі ваўкі, ворагі ласёў. Ваўкі чакалі яго пагібелі, чакалі, калі ён акалее сам. Ён зразумеў: дачакаюцца, прыйдзе гэты час. За яго выключнасцю і свабодай хавалася не жыццё, а смерць. Смерць жа таксама любіць адзіноту і хоча быць заўсёды вольнаю. І Споўдала адчуў, што ён носіць у сабе сваю ўласную смерць. І як гнула плечы гэта ношка: кожны крок, здавалася, апошні, таму анікога ўжо следам за ім, няма каму ступіць у яго след, хоць шыю скруці, азіраючыся назад, хоць вочы праглядзі, углядваючыся: нічога і нікога. А калі ўсё гэта так, то навошта тады і ён. І Споўдала ўжо адчуваў павеў смерці над сваёю галавой. Ён ужо не радаваўся, што жыве, што займаецца новы дзень, узыходзіць на небе сонца, плыве па ім воблака, ідзе снег, бадзёра прабірае цела мароз. Усё гэта было хутчэй сумна, чым радасна. Так ён адсумаваў студзень, акасцянеў за той студзень, збілася ў каўтун барада яго, звалялася ў лямец поўсць, а ён не меў ахвоты нават пашавяліцца і жвачку ўжо адвык жаваць. Менавіта тады ён і ўзбунтаваўся, пайшоў шукаць сваю смерць, якая, ён ведаў гэта, даўно ўжо сама шукала яго. Ружжо Барталамеуса Шпаковіча даўно ўжо квапілася на яго жыццё, прагла яго крыві. Але да таго часу ён лёгка ашукваў гэтае ружжо, уцякаў ад яго. А цяпер выйшаў на яго сам, таму што несла яно яму не толькі смерць, але і вызваленне, збаўленне ад адзіноты. Адраджэнне. Ружжо не ведала жалю, біла напавал, да поўнага забыцця. Але ў чалавеку, не, не ў Барталамеусе, у семені яго чалавечым, што раскідана па ўсім свеце, было закладзена сумленне, тое, што не дазваляе нічому знікнуць бясследна, канчаткова. Тое, што можа стрэліць і ў таго, хто страляе, каб адрадзіць забітага. І Споўдала, прадзед яго, ішоў на такі стрэл, на смерць і адраджэнне. Ён сам знайшоў Барталамеуса, адкрыўся яму, замёр, чакаючы таго ўдару, што збівае з ног. Але ў апошнюю хвіліну занатурыўся, яму здалося, што Барталамеус цэліць не туды, куды трэба. Ён, само сабой, не прамахнецца, але і напавал не ўкладзе яго, і забыццё будзе цяжкім і хрыплівы доўгім. І Споўдала, лёгкі і малады, уламаўся ў асіннік, прашыў яго наскрозь, паспеў удыхнуць яшчэ, перапоўніцца яго салодкім і горкім пахам. Куля апякла скуру, выблыталася з грывы, скавытнула над вухам і толькі надала Споўдалу бадзёрасці. Ён зноў адчуў, што хоча жыць, жаданне жыць, жаваць маладыя галінкі асінніку, клейкія і салодкія пупышкі ліпы, што так гоняць сліну, прагне дажыць да таго часу, калі гэтыя пупышкі набракнуць і выбухнуць лістом, паспытаць таго ліста і толькі тады выйсці насустрач кулі. Але ён уявіў сабе ўвесь той круг блуканняў у адзіноце, праз які прайшоў ужо, пагарду ласёў, адчуў, як зацята чакаюць падлы ваўкі, зразумеў, што не вытрывае больш такіх пакут, сваё ён ужо адпакутаваў. Але не хацелася ж вось так адразу і беспаваротна і паміраць. Ён павінен абысці, гуляючы з Барталамеусам, усю пушчу,



аббегчы ўсе логавы ваўкоў, нагнаць на іх страху, напалохаць напаследак ласёў, паслухаць і пасмяяцца з іх. І пасля гэтага толькі. Пасля гэтага. Пасля...

Сноўдала, як звычайна, накатам бег па пушчы, што была знаёма яму да апошняга дрэва, да апошняй лагчыны, бег сваімі сцежкамі, па якіх не раз вадзіў статак, па сцежках, што заводзілі ў такую глухамань, пра якую ведаў толькі ён ды яго сяброўкі, калі ён пасля асенніх боек ішоў туды разам з імі. Але цяпер ён чамусьці не мог пазнаць гэтых сцежак. Нешта перамянілася ні то ў ім, ні то ў пушчы, ён не мог зразумець. Перамянілася, скранулася, як перакулілася ўсё адразу пасля стрэлу. Ён падумаў, што гэта ўсё з-за раны, але асаблівага болю не адчуваў, патыхала, біла ў нос смаленай поўсцю. А дрэвы, неба, сонца, снег выглядалі неяк зусім інакш, чым раней. Ён нават спыніўся, збіўся з нагі, прыглядаючыся да свету, які так імгненна перайначыўся, крайком вуха прыслухаўся, як ломіцца па яго следзе скрозь пушчу Барталамеус, раздзьмуўшы ноздры, дыхнуў гэтым светам, уцягнуў, увабраў яго ў сябе — пах яго застаўся нязменным. А вось колер быў інакшы. Свет як пафарбаваўся раптам, ён не быў ужо больш аднакаляровым, барвовым зрабіўся, нібы аплавіўся крывёю снег, і сонца пачырванела, як і ў яго падмяшалі крыві, і неба пасвятлела ад блакіту, забялілася аблокамі, і дрэвы, асабліва макаўкі іх, раней аднатонныя, раптам зрабіліся як неба і сонца, блакітнымі і ружовымі. Сноўдала шалёна затрос галавой, столькі святла, столькі фарбаў не маглі ўвабраць яго вочы: як, чаму ён не бачыў гэтага раней, стаў відушчым толькі тады, калі прыйшоў час паміраць, да чаго ж добра, што ён нарадзіўся на гэтай зямлі і ў гэтай пушчы, якая ж яна добрая і прыгожая. А ён хадзіў, глядзеў сабе пад ногі, капыціў снег, здабываючы сабе пракорм, смяротна біўся з іншымі, сабе падобнымі, і нічога не бачыў, і не бачыў і не разумеў да самай апошняй хвіліны. І зноў жа няма каму расказаць аб усім гэтым, пакуль ён з ружжом, не здольны што-небудзь зразумець. Во каб ён быў пад тым ружжом, мо і паразумнеў бы. Адчуваючы свежую чужую кроў, ён, Сноўдала, таксама не вельмі што бачыў і разумеў, засціла вочы гэтая кроў яго перамогі, яго сілы і моцы. Цяперака ж, калі ён зведаў усё гэта, яму няцяжка будзе перахітрыць Барталамеуса, пакінуць яго з носам. Але ён, Сноўдала, не будзе хітрыкаваць з ім. Ён толькі апошні раз аббяжыць пушчу.

І Сноўдала пабег, не адрываючыся далёка ад Барталамеуса, але і не падпускаючы яго блізка, каб ён мог стрэліць. Калі ж адчуваў, што Барталамеус ужо стаміўся, сцішваўся, адпачываў і сам, распальваў і злаваў Барталамеуса, даводзячы яго да шаленства. І тады бег далей, пакуль сам не запальваўся. Дазволіўшы сабе апошні адпачынак, Сноўдала адчуў, што вочы не служаць яму, усё вакол як у тумане, зразумеў, што прыйшоў час канчаць гульні з Барталамеусам. Барталамеус ужо азвярэў ад гэтых гульняў, калі ён выходзіў з хаты як паляўнічы, мо і палічыў сустрэчу з ім, са Сноўдалам, за паляўнічае шчасце і як за шчасцем ў азарце кінуўся за ім, цяпер жа ён гоніцца за ім раз'юшаны, з крывавымі чорцікамі ў вачах.

Сноўдала зрабіў некалькі кругоў вакол Барталамеуса і бачыў яго вочы — свае вочы, калі ён наносіў свайму пераможанаму ужо саперніку апошні ўдар. Зацвяліў ён ужо Барталамеуса і сам сябе зацвяліў, змучыў. І зацвеленасць, змучанасць гэтая напалохала Сноўдалу. Ён прыгадаў, што бачыў ужо ўсё гэта, даўно ўжо ўсё гэта было, стагоддзі назад. Вось так, як сёння Барталамеус за ім, ганяўся ўжо на яго зубрынай, звярынай памяці чалавек за ча-

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

лавекам. Мноства людзей за адным чалавекам. І той, што ўцякаў, быў, як і ён, Сноўдала, апошнім у родзе. Апошнім ятвягам, і звалі яго таксама Сноўдалам. І пагоня была таксама доўгай, праз лясы, рэкі і балоты. Спачатку здавалася, што ятвяг, яго даўні цёзка, гуляе з тымі, што гоняцца за ім, у хованкі, так лёгка бег ён, даваў нырца ў непраходныя, здавалася б, зараснікі, ведаў пушчу, у якой нарадзіўся, якая прыналежала яму, да апошняй купіны. Толькі вось апратка ятвяга была ў крыві, у крыві было і адзенне загоншчыкаў, і крывавыя чорцікі скакалі ў іх вачах. І нічога на свеце яны не бачылі, не бачылі і самога свету. Толькі вось гэтага апошняга ятвяга, што заставаўся яшчэ жывы, схаваны балотамі. Ятвяг, якога трэба было дагнаць і забіць. Да гэтага яны ўжо забілі яго сына і жонку. Цяпер прыспеў яго час. Ён, пэўна, ведаў, што яму не ўцячы, але ўсё ж на штосьці спадзяваўся, таму што хацеў жыць. Развітваючыся са сваёй зямлёй, са сваім небам і пушчай, ён на бягу кратаў, гладзіў рукамі векавечныя дубы, абдымаў іх, звярынымі сцежкамі вёў за сабою пагоню туды, дзе былі непраходныя балоты, куды асцерагаўся забрысці і сам звер, куды ведалі дарогу адны толькі зубры, таму што яны прыходзілі туды паміраць, каб ні адно вока не бачыла іх смерці, каб ваўкі не расцягвалі іх костак.

Ятвяг добра ўжо апярэдзіў пагоню, быў ужо на краі балота і, здавалася, уратаваўся. Спыніўся каля вады і багны, што дыхала смуродам і туманам, якую не маглі скаваць і самыя лютыя маразы, якая гарэла сама па сабе, калі выпадала спякотнае лета: балота падсыхала, вады ў ім менела, і ад смуроду дохла ўсё жывое. Вось тады і браў сваё агонь. Ятвяг стаў вызваляць смурод з багны, нібыта цвяліў нячыстую сілу, што засела ў той багне, зашоргаў у балоце палкаю. Ускаламучаная вада, што адстойвалася месяцамі, злосна ўспенілася, запыхкала атрутнымі пухірамі, а ятвяг у крывавым сваім адзенні, ускудлачаны, што лесавік, пасміхаўся толькі ў чорную, як смоль, бараду і падскокваў ад радасці. Нарабіўшы смуроду, што і самому дыхаць ужо было немагчыма, адышоўся ад балота, выкрасаў агонь, запаліў паходню з берасту. І зноў ступіў у ваду, ужо можна сказаць, недасягальны пагоні. Тая бралася бокам, абыходзячы балота, пэўна, ведала, што яно непраходнае. І зубр парадаваўся ўжо за чалавека, з якім у яго было адно імя. Але тут адбылося нешта незразумелае: Сноўдала-ятвяг закрычаў, выдаў сябе, павярнуў на сябе пагоню. Сноўдала-зубр здзівіўся, і так яму зрабілася прыкра, што ён аж затрубіў. І пагоня пайшла на гэтыя два галасы, абмінула зубра і скіравала на ятвяга. А той няспешна адступаў, зацягваючы яе ўсё далей, далей у балота і сам усё глыбей і глыбей заходзіў у ваду, трымаючы над галавой паходню. Недзе пасярэдзіне балота вада абціснула яму ўжо грудзі, пагоня прыпынілася. Ятвяг адчуў гэта, зрабіў два крокі, вады паменела, яна цяпер ледзь даставала яму да каленяў. Ён павярнуўся да ворагаў тварам, закрыўляўся, загукаў, падахвочваючы іх ісці далей. І ворагі з перасцярогай, але пасунуліся за ім, ваяўніча размахваючы аголенымі мячамі, спяшаючыся паспытаць імі яго цела. Ён ухіляўся ад іх, хапатліва, па-рачынаму сунуўся да берага, на сухое. І дапяўся да сухога, выцягнуў з абдымкаў багны пагоню і пабег скачкамі па палянцы да дуба, што самотна стаяў на астраўку. Пад пераможныя ўжо крыкі сваіх даганятых дабег да дуба, шырока размахнуўся і кінуў паходню ў багну. Імгненна схапілася, зашугала па вадзе полымя.

Пагоня замерла, забылася і пра ятвяга. А той стаяў, уціснуўшыся ў дуб, пасміхаўся людскому спалоху і агню, што высвеціў яго з ног да галавы, надаў чырвані і барвані яго акрываўленаму адзенню. Ятвяга засеклі моўчкі, бязгучна, ён толькі ўскінуў да грудзей, склаў крыжам рукі, выпнуў грудзіну. Першымі і ўпалі на зямлю гэтыя яго складзеныя крыжам рукі, потым пакацілася і галава з маленькім застылым ва ўсмешцы ротам, маленькімі і з той жа ўсмешкай вочкамі, слізганула па дубе, акрываўіла яго і ўпала пад ногі, якія не паспелі і сагнуцца. Самому ятвягу, тулаву яго ўпасці на зямлю так і не далі, паднялі на мячы, узнялі ў неба. Шугала полымя, трубіў зубр, правіў трызну па апошнім ятвягу, адначасова і па яго ворагах, якім ужо было наканавана загінуць у гэтым балоце. Плакаў крывавымі слязамі дуб.

Да гэтага дуба, каля якога некалі загінуў апошні ятвяг, да якога і сёння, адчуўшы, што кончыўся век, імкнуцца зубры, і павёў Барталамеуса Сноўдала. І тыя паўкіламетра, што засталося бегчы да дуба, даліся яму вельмі цяжка. Ён жа быў апошнім, на ўсю пушчу адзіным зубром. Ён загіне, і доўга-доўга ніхто больш не прыйдзе сюды на смерць сваю. Мо наогул ніхто ніколі не прыйдзе больш сюды. Ён, адроджаны, забудзе дарогу ці пракляне гэта месца. І ўласнае адраджэнне, у якое ён верыў, якое прадбачыў, не даравала яму ўжо радасці. Сноўдала ступіў на край балота, у след ятвяга і, як калісьці ятвяг, павярнуўся, каб у апошні раз пагля́дзець на пушчу. Пад лёгкім подыхам ветру цененька трымцеў сухі зморшчаны ліст, што цудам ацалеў на дубе. Ён прыслухаўся да яго трымцення, зноў уцягнуў у сябе барвовы снег, каляровае неба — рознакаляровы свет, такі ж трапяткі пад сонцам, як і той адзіны на дубе ліст, іскрысты, пералівісты, затрубіў, падаючы голас Барталамеусу, што недзе заблукаў у пушчы, навёў яго на сябе, як некалі наводзіў на сябе сваю смерць ятвяг. Узняў галаву і пайшоў да дуба, здалёку выхопліваючы яго вокам увесь цалкам, ва ўсю вышыню і на ўсю шырыню. Адзін толькі дуб такі застаўся на ўсю пушчу, а мо і ўвесь белы свет, з сіваю, як у зубра, барадой, у бурай і сівай парэпанай кары, як брані, і кублам чорнага бусла ўжо недзе ў небе, пад воблакам. Сноўдала спыніўся пад дубам, ухапіў жолудь, што вывернуўся з-пад яго капыта, хрумкнуў ім і зноў падаў голас, але цяпер ужо не Барталамеусу, а тым, хто супакоіўся пад гэтым дубам, ятвягу і сваім, паведаміў ім, што ён прыйшоў, ён з імі. Стрэлу ён не чуў, нічога не чуў, штосьці толькі стукнула яму пад лапатку, узняло ў паветра, згусцілася святло: збілася ў адно чырвонае, белае, блакітнае. Свет зноў стаў аднатонным, чорным тунелем, па якім не толькі адыходзяць, але і вяртаюцца.

І ён вярнуўся, адрадзіўся з семені, што раскідана па свеце яго бацькамі, з шарсцінкі маці, подыху ветру, з гуку. І цяпер зноў ішоў тымі самымі сцежкамі, па якіх хадзілі яго бацькі, па якіх некалі хадзіў і ён сам. Але сцежкі гэтыя перамяніліся. І Сноўдала ніяк не мог уцяміць, лепшымі ці горшымі яны сталі. Хацеў выйсці да вёскі, да стагоў, паскубаць свежага мурожнага сена, ён жа выправіўся ў шлях няблізкі, і трэба было берагчы сябе, каб адолець гэты шлях, але выбрыў ён да чагосьці незразумелага, незнаёмага. Незнаёмага на паверхні, а там, углыбіні, здаецца, усё заставалася як і раней. Стагнала пад ім падземнае возера, плавалі ў ім бязвокія чорныя рыбіны, цягнулі, смакталі з гэтага возера каранямі, як помпаю, ваду дрэвы і кусты. А вось у кустах, сярод язміну і бэзу, дзе колісь з блакітнай гліны струменіла блакітная крынічка, знаходзілася нешта сапраўды незразумелае, што насцярожыла Сноўдалу. Каб напалохаць, адагнаць гэтае незразумелае, Сноўдала стаў капыціць зямлю. Але ніхто не спалохаўся, не кінуўся прэч. Тады ён рушыў сам наперад. Спатыкнуўся аб невысокую, да каленяў яму, агароджу. Спыніўся, не ведаючы, што рабіць — ці то пераступіць яе, ці то паваліць. Пераступіў. І выйшаў на двух магутных, задумлівых і з вялікімі барадамі дзядоў, што стаялі плячо ў плячо. Дзяды, хоць ён і быў ужо з імі побач, не крануліся нават. Сноўдала прыгледзеўся і зразумеў, што яны падобныя да яго, таксама адроджаныя, крыху, праўда, не зусім так, як ён.

— Ну, чаго стаіш,— звярнуўся да яго адзін з дзядоў.— У нагах праўды няма.

— Так, так,— пагадзіўся з ім другі.— Добрдзень, добрночы табе. Куды на ноч гледзячы?

Сноўдала занепакоіўся, затупаў капытамі, выгнуў шыю.

— Не хвалюйся, маўчы,— зноў адазваўся адзін з дзядоў.— Мы чуем, мы ведаем. Нам голасу не трэба. Так, Іван?

— Так, так, Міша. Нас голасам не падманеш. Мы праз такое прайшлі...

І Сноўдала ўспомніў гэтых дзядоў, браты яны. Прыгадаў, праз што яны прайшлі. Гэта было на яго звярынай памяці.

— Вось бачыш,— узрадаваліся дзяды,— мы ўжо ведаем адзін аднаго. А яшчэ гавораць, гара з гарою не сходзіцца. Усё на белым свеце сыходзіцца.

— З такой нагоды можна было б і чарку, Сноўдала, як ты, Міша?

— Так, так, Іван, ды толькі...— І Міхайла каменна ўсміхнуўся з бетону.

— Эх, так тваю маць,— вылаяўся Іван. Міхаіл падціснуў губы:

— Вось як мацюкаўся ты на тым свеце, так і цяпер.

— Прыроду, натуру, Міша, не пераробіш. Гэта табе не зямелька-маці.

— Вось таму што натурныя, мы і пайшлі з табой раней веку, Іван, у зямельку-маці. З-за натуры нашай.

— За зямельку, за зямельку, Міша, а не з-за натуры.

— Так, так, Іван, твая праўда. Садзікі нашы, што мы садзілі з табой, цвітуць, жыта красуе. Дзеткі нашы ў садзіках тым бегаюць, яблычкі кушаюць... А як мы з табой, Іванька, тыя садзікі садзілі, крынічаньку капалі, варана каня вялі.— І Міхаіл нечакана заспяваў:

**Эх, тачанка-ростовчанка,**
**Наша гордость и краса,**
**Пулеметная тачанка,**
**Все четыре колеса...**

Іван дапамог яму, і браты павялі песню, раскладваючы яе на два галасы, не спяшаючыся і не вельмі гучна, каб не забіць, не заглушыць ёю памяць. І пад гэту іх песню-памяць, пад вуркатанне машын, што цяжка прабягалі па бетонцы, святло іх фар, якія час ад часу высвечвалі і выхоплівалі з цемры дзядоў, застылых на бетонным шэрым пастаменце, Сноўдала супакоіўся, уціхаміраўся, нібыта сам ператвараўся ў бетон, адліўся ў помнік, прыкархнуў, зрэдку толькі ўскідваючыся, з мроілася яму тое, што ён пражыў на гэтай зямлі, што пражыла сама зямля, яго бацькі і вось гэтыя два дзяды, таму што ён быў кроўна павязаны з усім, што было вакол яго, з часам і няўчассем, з зямнымі бедамі і радасцямі. Інакш яго б і не існавала, інакш ён бы і не адрадзіўся, як не адрадзіўся б і дзяды. Заўтра яму выпадзе цяжкі дзень, як, зрэшты, і ўсе наступныя дні. А пакуль ён слухае песню, што абуджае памяць...

Фота Валянціна **ЖДАНОВІЧА.**

**Белая вежа (Камянецкі стоўп).**
**XII стагоддзе.**
**Камянец**
**Брэсцкай вобласці.**



СТАРАЖЫТНАЕ
ДОЙЛІДСТВА
БЕЛАРУСІ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | | | | |

КРАСАВІК

Беларусь



Леанід
ШЧАМЯЛЁЎ.
Нявеста.



Алесь
КІШЧАНКА.
Алена Абразцова.



Уладзімір
ТОЎСЦІК.
І вечар
у россыпе агеньчыкаў...



Міхаіл
ДУБРАВА.
Анастасія Цімафееўна.

# ВОБРАЗ ЖАНЧЫНЫ Ў ТВОРАХ БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ

Алесь ЗІМЕНКА.
Прадчуванне (кераміка).





Віталь ДЗЕНІСЕНКА.
Вечар на прасёлку.



НАШ ВЕРНІСАЖ

Міхаіл САВІЦКІ.
Куст руж.



# „Твары" старажытных шахмат

## СА СКАРБНІЦ ДЗЯРЖАЎНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ БССР

**ГЭТАЙ НЕВЯЛІКАЙ ПУБЛІКАЦЫЯЙ АБ СТАРАЖЫТНЫХ ВЫЯЎЛЕНЧЫХ ШАХМАТАХ, ЗНОЙДЗЕНЫХ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ, МЫ РАСПАЧЫНАЕМ СЕРЫЮ НАТАТАК АБ НЕКАТОРЫХ ЭКСПАНАТАХ ДЗЯРЖАЎНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ БССР, МЭТА ЯКІХ — ПАШЫРЫЦЬ ВЕДЫ АБ ЖАМЧУЖЫНАХ НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ, ДУХОЎНАЙ СПАДЧЫНЕ НАРОДА. СПАДЗЯЁМСЯ, ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ, ШТО ГЭТЫЯ НАТАТКІ ДАПАМОГУЦЬ ФАРМІРАВАННЮ ВАШАГА МАСТАЦКАГА ГУСТУ. ДА ТАГО Ж, НАВЕДАЎШЫ МУЗЕЙ, ВЫ БУДЗЕЦЕ ПАЗНАВАЦЬ У ЯГО ЗАЛАХ СТАРЫХ «ЗНАЁМЫХ», З ЯКІМІ СУСТРЭЛІСЯ НА СТАРОНКАХ «БЕЛАРУСІ».**



Ладдзя-«насадка» з воінамі.

Фота Г. ЛІХТАРОВІЧА.

У 1954 годзе ў Ваўкавыску пры раскопках «Шведскай гары» ў пласце XI — пачатку XII стагоддзя археолаг В. Тарасенка знайшоў дзве шахматныя фігуры, якія, відаць, паходзілі з аднаго камплекту,— пешка з выявай барабаншчыка і ладдзя-«насадка» з воінамі. Зараз гэтыя унікальныя помнікі старажытнага мастацтва разам з шахматнай фігурай, знойдзенай яшчэ ў 1931 годзе ў Гродне, захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Акрамя таго ў 1960—70-я гады на Беларусі былі знойдзены яшчэ дзве шахматныя фігуры «з тварам» — ферзь з Лукомля і кароль (цар) з Брэста.

Помнікі дробкай пластыкі вызначаюцца адмысловым майстэрствам і тонкім густам іх аўтара. Каштаваць такія шахматы павінны былі нямала, бо выконваліся разьбярамі па спецыяльных заказах князёў або іншых заможных людзей. У многіх заходнееўрапейскіх гарадах знойдзены таксама простыя (народныя) шахматныя фігуры, вырабленыя для пасадскага люду з дрэва, каменю або косці на такарным станку,— так званыя абстрактныя шахматы.

Шырокае распаўсюджанне шахмат, «д'ябальскіх гульняў элінаў», якія ўжо ў XI стагоддзі былі ўнесены царквой у спіс забароненых, сведчыць аб тым, што ў свядомасці заходнярускіх гараджан яшчэ доўгі час жылі перажыткі язычніцтва. Не выпадкова Кірыл Тураўскі, «златоуст паче всех воссиявший нам на Руси», папракаў парафіян у тым, што яны аддаюць перавагу не царкоўнай службе, а гульням і ігрышчам.

Знойдзеныя на Беларусі шахматныя фігуры створаны ў адпаведнасці з іх рускімі назвамі і значна адрозніваюцца ад заходне- і ўсходнееўрапейскіх. Таму меў рацыю першы даследчык распаўсюджання шахмат на Русі І. Савянкоў, які лічыў, што з Персіі ў V—VI стагоддзях шахматы распаўсюдзіліся на Поўнач, і маглі прыйсці на Русь Каспійска-Волжскім гандлёвым шляхам яшчэ ў VIII—IX стагоддзях, задоўга да мангола-татарскага нашэсця. Калі прыгадаць, што ў Візантыі, Італіі, Іспаніі шахматы з'явіліся ў XI стагоддзі, то становіцца зразумела, што ніякага дачынення да іх з'яўлення на Русі ні заходнія рыцары, ні візантыйскія хрысціяне, ні татара-манголы не мелі. На думку таго ж вучонага, які жыў на пачатку нашага стагоддзя, праз Русь шахматы пайшлі далей на Поўнач і Захад. З Русі ж яны трапілі і ў Польшчу.

У выяўленчых шахматах «з тварам» рэалістычна, трапна і з вялікай дакладнасцю перададзены характэрныя рысы эпохі. Яны з'яўляюцца своеасаблівай энцыклапедыяй жыцця заходнярускіх гарадоў XII—XIII стагоддзяў, бо даюць уяўленне аб вопратцы, прычосках, музычных інструментах, даспехах, аб ладдзі той пары. Так, напрыклад, апісанне ладдзі і воінаў у ёй, якое даецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1151 годам, цалкам супадае з выявай ладдзі і воінаў у шахматных фігурах. Нават такія дэталі, як барабан у пешцы або шчыты міндалепадобнай формы ў воінаў адпавядаюць гістарычнай праўдзе — шчыты такой формы былі распаўсюджаны ў Еўропе да XIII стагоддзя.

Выяўленчыя шахматы «з тварам» — важны этап у развіцці пластыкі Беларусі. З'яўляючыся аб'ёмнай скульптурай на поўную акругласць, у адрозненне ад арнаментаванай плоскай разьбы і рэльефных абразоў, яны робяць значны крок наперад у разуменні пластыкі форм. Без іх было б немагчыма станаўленне круглай статуарнай скульптуры ў XIV—XVIII стагоддзях — наступным этапе развіцця мастацтва Беларусі, калі адбывалася засваенне і пераасэнсаванне заходнееўрапейскіх стыляў — готыкі, рэнесансу, барока, класіцызму.

Надзея ВЫСОЦКАЯ,
кандыдат мастацтвазнаўства.

# Ля сцен старога Крэва



Крэва сёння.

Своеасаблівую кнігу архітэктуры стварыў беларускі народ. Адной са слаўных старонак гэтай кнігі з'яўляюцца помнікі абароннага дойлідства. Да іх ліку адносіцца і Крэўскі замак, што на Гродзеншчыне. Многія, я пераканаы, чулі пра гэты выдатны помнік. А вось пабываць там, відаць, давялося не кожнаму. Я ўдзячны лёсу, які звёў мяне з цудоўным чалавекам, выдатным знаўцам роднай гісторыі і культуры М. Р. Гнеўкам, які адкрыў мне гэту старонку сівой мінуўшчыны.

Помніцца, як аднойчы вясновым ранкам ён прывёз нас, студэнтаў-гуртоўцаў Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, у старажытнае Крэва. Перш чым ісці да замка мы накіраваліся на Юркаву горку. У народзе ходзіць паданне, што тут яшчэ ў часы язычніцтва знаходзіўся незгасальны агонь-зніч. Адгэтуль перад намі, як на далоні, раскінуўся злёгку ахутаны туманам Крэўскі замак. Глядзіш і дзівішся. Ужо даўным-даўно развеяўся дым выбухаў і пажараў над замкам, пазарасталі травой сцежкі, якімі ворагі падкрадаліся да яго вежаў. А замак, хоць і моцна разбураны, прадаўжае і сёння існаваць і сведчыць пра неўміручую славу і гераічнае мінулае.

Яшчэ з другой паловы XIII стагоддзя аб'яднаныя сілы літоўскіх і заходнерускіх дружын з Гродна, Навагрудка і іншых беларускіх гарадоў стрымлівалі націск нямецкіх рыцараў на зямлі Літвы і Русі. Заваёўнікам дапамагала выпрабаваная тактыка наступлення, якая заключалася ў паспешным будаўніцтве на захопленай тэрыторыі ўмацаваных замкаў, якія служылі ім апорнымі пунктамі для наступлення і сістэматычных спусташальных набегаў. Спыніць закаванага ў жалезныя даспехі ворага можна было, толькі выкарыстоўваючы гэткую ж тактыку — будаваць свае замкі на асноўных напрамках крыжацкай агрэсіі.

Крэўскі замак, разам з Лідскім, Навагрудскім і іншымі, павінен быў спыніць прасоўванне крыжаносцаў у глыб беларускага Панямоння. Распачаў узвядзенне ўмацаванняў на пачатку XIV стагоддзя князь Гедымін, а закончылася будаўніцтва пры яго сыне Альгердзе. Вельмі трапна адлюстраваў гэты момант з гісторыі замка ў сваёй паэме «Крэва» Мікола Арочка:

> **Крэўскі замак!**
> **Ты ў лёхах тоіш крокі Гедыміна,**
> **А ў вежах —**
> **Грозны ратны дух Альгерда.**
> **Ты іх правіца збройная, кулак,**
> **Што адбіваў нашэсце крыжакоў.**

Для будаўніцтва было выбрана невялічкае ўзвышша ў даліне, акружанай з усіх бакоў касматымі шапкамі пагоркаў. Мясціна гэтая не выпадкова прыйшлася даспадобы дойлідам. Некалі тут былі ўзведзены драўляныя ўмацаванні, але яны патрабавалі неадкладнай замены, каб надзейна супрацьстаяць крыжацкай навале і іншым ворагам. Цякла па даліне нетаропкая рэчка Крэвянка, упадала ў ручай, які пазней назвалі Шляхцянкай, і гэтыя дзве водныя артэрыі былі значнай перашкодай на шляху ворага да замка. Да таго ж праз Крэва праходзіла дарога з Масквы на Вільню, што абумоўлівала яго важнае стратэгічнае значэнне. Таму і ўзнікла патрэба прыкрыць Крэва надзейным каменным шчытом.

У плане замак нагадвае няправільную трапецыю. Яго архітэктурны воблік вызначалі каменныя сцены трохметровай таўшчыні і дзве вежы, размешчаныя па дыяганалі. Не на адну аблогу і штурм былі разлічаны яны. Дойліды ўзвялі іх з вялізных валуноў на вапнавым растворы. Знадворку ўмацаванні мелі цагляную абліцоўку, што стварала ўражанне цалкам цаглянай пабудовы. Як завяршаліся сцены, зараз меркаваць цяжка. Думаецца, што яны заканчваліся, як і ў Лідскім замку, баявой галерэяй з байніцамі, праз якія ўглядаліся ўдалечынь пільныя вочы дазорных.

У архітэктурнай кампазіцыі замка дамінавала Княжая вежа, якая была некалі надзвычай умацавана і прыстасавана для працяглай аблогі. Але яна выконвала не толькі абаронныя функцыі. Унутраная прастора вежы была прыстасавана таксама пад жыллё князя і яго чэлядзі. Тут жа жыў і начальнік замкавай варты.

Княжыя пакоі размяшчаліся хутчэй за ўсё на другім і трэцім паверхах. Аб гэтым можна меркаваць хаця б па той прычыне, што гэтыя паверхі адрозніваліся ад астатніх памерамі акон. Да таго ж некаторыя даследчыкі яшчэ ў недалёкім мінулым назіралі на іх сценах фрагменты тынкоўкі з рэшткамі фрэскавага роспісу, які павінен быў надаць княжым пакоям прыўзнятасць і ўрачыстасць. У гэтых пакоях вырашаўся лёс асобных людзей і цэлых народаў. Тут, на другім паверсе Княжай вежы, былі выпрацаваны ўмовы дзяржаўна-прававога аб'яднання Літвы і Польшчы. У акце Крэўскай уніі, які 14 жніўня 1385 года разам з Ягайлам падпісалі яго браты Скіргайла, Карыбут, Лугвен і Вітаўт, гэтыя князі далі абяцанне «на вечныя часы далучыць свае землі, літоўскія і рускія, да кароны Польскай».

Уваход у вежу быў зроблены з боку замкавага двара. Каб падняцца туды, трэба было прайсці праз паўпадвальнае памяшканне, прыстасаванае пад яму-пастку і замкавую турму. Неадныйчы яе сцены былі сведкамі трагічнага канца падуладных князю людзей.

Малая вежа была пабудавана пазней чым Княжая. Ад гэтай вежы да брамы была выкладзена брукаваная вуліца. Уздоўж яе размяшчаліся хаціны рамеснікаў, дружыны. Захаваліся звесткі, што ў замку меўся невялікі ставок. З гэтым, напэўна, можна пагадзіцца, бо патрэба ў вадзе была асабліва вялікай у час аблог і штурмаў.

Так павялося ўжо ў гісторыі, што амаль кожны замак мае легенду. Не выключэнне і Крэўскі замак. Іх у яго ажно дзве. Згодна першай, паміж замкам і мястэчкам існаваў падземны ход, праз які мог праехаць цэлы экіпаж. Па другой легендзе, замак быў злучаны падземным ходам з курганом, які знаходзіўся ў дзвюх вярстах ад Крэва па дарозе на Смаргонь. Гэты курган нібыта служыў гарнізону замка своеасаблівым назіральным пунктам. Пры ўсім жаданні з гэтымі легендамі немагчыма пагадзіцца, бо доказаў — аніякіх.

За час існавання Крэўскага замка на яго долю выпала шмат выпрабаванняў. Летам 1433 года Свідрыгайла Альгердавіч у змаганні з Сігізмундам Кейстутавічам за вялікакняжацкі прастол «взя град Крэв мурованы и сожже, а люди много иссекоша и в полон повели...»



Крэўскі замак. З гравюры Напалеона Орды, сярэдзіна XIX ст.

Прыходзілі пад сцены замка і перакопскія татары. Недзе паміж 1503—1506 гг. яны ўзялі замак штурмам, а затым спалілі яго. Разам з замкам згарэла і мястэчка.

К канцу XVIII стагоддзя замак ужо не меў амаль ніякага абарончага значэння, аднак народнае паданне сведчыць, што ён быў яшчэ раз разбураны шведамі ў часе Паўночнай вайны.

Асаблівa пацярпеў, ужо і без таго моцна паранены, замак у час першай сусветнай вайны. Немцы пабудавалі ў замку бетонныя сховішчы, назіральныя пункты. У выніку ваенных дзеянняў многія яго сцены і Княжая вежа былі амаль поўнасцю разбураны. Толькі за адну гэту вайну замку былі нанесены такія пашкоджанні, якіх яму не ўчынілі ўсе папярэднія штурмы і аблогі. У такім разбураным стане замак дайшоў да нашага часу.

На сённяшні дзень прыйшла неабходнасць як мага хутчэйшай грунтоўнай кансервацыі гэтага унікальнага помніка гісторыі і культуры беларускага народа. Многа ў гэтым плане робіцца Спецыяльнымі навукова-рэстаўрацыйнымі вытворчымі майстэрнямі Міністэрства культуры БССР. Тут распрацаваны праект граніц ахоўнай зоны Крэўскага замка і схема экскурсійнага маршруту па замку і мястэчку.

**Аляксандр КУШНЯРЭВІЧ.**




**Павел Раманавіч Ляхоўскі быў удзельнік Мінскага партыйнага падполля. Кватэра яго, на вуліцы Старавіленскай, 26, у гады вайны была канспіратыўнай. Павел Раманавіч і Праскоўя Аляксандраўна Ляхоўскія пераапраналі нашых чырвонаармейцаў у цывільнае адзенне, уладкоўвалі іх на надзейныя кватэры, дастаўлялі ім ежу, а затым перапраўлялі ў партызанскія атрады. На сваёй кватэры яны хавалі зброю, медыкаменты, друкарскую фарбу, паперу, соль, мыла, сабраныя разведданыя. Усё гэта з вялікай рызыкай адпраўлялася ў партызанскі атрад «Штурм» брыгады «Штурмавая».**

**Калі ўспаміны П. Ляхоўскага пра тыя суровыя дні ўжо стаялі ў часопіснай паласе, мы атрымалі сумную вестку: Павел Раманавіч раптоўна памёр.**

**Адыходзяць з жыцця ветэраны Вялікай Айчыннай, мужныя патрыёты Савецкай Радзімы. Але заўсёды будуць жыць у памяці людзей іх справы, іх імёны, сярод якіх і імя Паўла Раманавіча Ляхоўскага.**

# ПАСЛАНЦЫ МАСКВЫ

Марыю Лісецкую я ведаў даўно. Некалі мы разам працавалі. Жыла яна са сваімі трыма дочкамі — Аляксандрай, Аленай і Марыяй — на Гандлёвай вуліцы, у невялікай, але ўтульнай кватэры. На правах старога знаёмага і саслужыўца я калі-нікалі заходзіў да іх пагаварыць пра жыццё, пра нашы домакіраўніцкія справы і заўсёды адчуваў сяброўскія адносіны да сябе з боку гэтай сям'і.

У пачатку красавіка сорак другога года я таксама зайшоў да Лісецкіх. Звычайна нікога чужога, а гэта — у пакоі сядзеў высокі, спартыўнага крою чалавек. Мы абодва адчулі няёмкасць, не ведаючы, як паставіцца адзін да другога. Аднак гаспадыня, узрадаваўшыся майму прыходу, прапанавала:

— Знаёмцеся, Павел Раманавіч. Гэта—Сяргей, мой стрыечны брат.

Так я ўпершыню сустрэўся з Сяргеем Вішнеўскім, камандзірам групы разведчыкаў. Напярэдадні яе закінулі ў варожы тыл на самалёце з Масквы. Акрамя Вішнеўскага ў групу ўваходзілі баец Валянцін Паўловіч і радыст Яфрэм Мельнікаў.

Разведчыкі прызямліліся на мяжы двух раёнаў — Мінскага і Пухавіцкага і, дабраўшыся да Кайкоўскага лесу, схавалі там зброю, боезапасы, рацыю. З лесу накіраваліся ў вёску Аляксандрава, да дзядзькі Валянціна Паўловіча.

Апынуўшыся ў горадзе, Валянцін павёў таварышаў на вуліцу Новую, дзе жылі яго бацькі і малодшыя браты. Ці трэба казаць, якой радасцю была сустрэча з сынам, якога лічылі загінуўшым.

Валянцін пазнаёміў родных са сваімі спадарожнікамі і папрасіў уладкаваць іх часова ў надзейных людзей.

У Сяргея Вішнеўскага быў на прыкмеце свой чалавек — Марыя Лісецкая, якая ведала яго змалку. На вачах у яе Сяргей вырас, пайшоў служыць у армію. Марыя Паўлаўна, як родная маці, радавалася яго поспехам у лыжным і веласіпедным спорце, калі ён да вайны двойчы заваёўваў тытул чэмпіёна рэспублікі. Вось толькі ці жывая яна, ці тут, у Мінску?

Даведацца пра гэта дапамагла суседка Паўловічаў. Яна пагадзілася праводзіць Вішнеўскага да Лісецкіх. Так у доме Лісецкіх з'явіўся новы жыхар, «стрыечны брат» гаспадыні, прапісаны пад прозвішчам Сяргея Казіміравіча Уладзіміравa.

З ім і сустрэліся мы ў той красавіцкі дзень у Лісецкіх. Пачалася асцярожная размова. Асцерагаўся гаварыць адкрыта ён, і я не спяшаўся, усё думаў: «Што ты за чалавек? Не можа быць, каб Марыя не падала знак, калі ты вораг». А калі ён папытаў, як я стаўлюся да «новага парадку», я раптам пасмялеў.

— Цёпла,— адказаў,— было б і вельмі горача, ды шкада гранат не хапае.

— Вось як? — У субяседніка звузіліся ва ўсмешцы спакойныя шэрыя вочы.— Справа добрая. Ды ці варта пра тое гаварыць уголас?.. Як вы паглядзіце, калі я папрашу тое-сёе зрабіць для Радзімы?

Сяргей падняўся, прайшоўся па пакоі.

— Марыя Паўлаўна расказвала пра вас. Вось я і звярнуўся.

— Што патрэбна зрабіць? — папытаў я.

— Для пачатку — здабыць аўсвайсы для траіх чалавек.

Я накіраваўся на Уфімскую вуліцу да Кузьмы Матузава, які працаваў домакіраўніком. Пагаварылі. Матузаў запоўніў пропускі.

Раніцой Сяргей, Валянцін і Яфрэм мелі па ўсіх правілах афармленыя нямецкія пропускі. І ўжо на наступны дзень змаглі выехаць з бацькам Валянціна, возчыкам домакіраўніцтва, да яго брата ў вёску Аляксандрава. Паехалі ўпяцёх: Вішнеўскі, бацька і сын Паўловічы, Мельнікаў і падпольшчык Мікалай Дзянскевіч. Пакуль старэйшыя бавілі вечар у хаце, хлопцы схадзілі ў Кайкоўскі лес, выкапалі з тайніка і забралі з сабою рацыю, батарэі да яе, зброю, схавалі ўсё гэта ў падвойнае дно воза.

Так і дайшлі за возам да самай Новай вуліцы, не выклікалі падазрэння ў шматлікіх нямецкіх патрулёў.

Сяргей Вішнеўскі дакладна растлумачыў, што і як я павінен рабіць, каб быць найбольш карысным агульнай справе. Мне і маёй жонцы Праскоўі Аляксандраўне выпадала збіраць звесткі аб групоўцы варожых часцей у горадзе і навакollі, аб родах войск і іх колькасці, назіраць за рухам нямецкіх эшалонаў з жывой сілай і баявой тэхнікай у бок фронту, у маскоўскім і гомельскім накірунку. Такое ж заданне атрымалі Марыя Лісецкая і яе дачка. Тым часам Валянцін Паўловіч паспеў ужо ўстанавіць рацыю ў хаце бацькі, і Яфрэм Мельнікаў пачаў перадаваць сабраныя намі звесткі на Вялікую зямлю.

Адно непакоіла камандзіра разведгрупы Вішнеўскага: немцы маглі запеленгаваць работу рацыі. Трэба было як мага хутчэй адшукаць яшчэ некалькі канспіратыўных кватэр, каб весці перадачы з розных месц і тым збіваць фашыстаў са следу. Але дзе іх знайсці, як?

Спярша дапамог шчаслівы выпадак. Сяргей сустрэў на вуліцы свайго сябра, таксама спартсмена, Даніла Максімава. Максімаў у гэты час жыў на вуліцы Палескай, насупраць Чэрвеньскага базару, у хатцы на самым беразе Свіслачы і, канечне ж, запрасіў сябра да сябе. Вішнеўскі прыйшоў і ўразіўся: вось гэта дык месца! Хата абгароджана высокім зялёным плотам, які нялёгка пералезці, веснічкі на моцных засаўках. За агародам парослы кустоўем бераг ракі. Крыху ўбаку — хлеў. Ды і ў самой хаце ўсё расплanавана так, быццам яе загадзя рыхтавалі пад канспіратыўную кватэру: тры акны на вуліцу, тры — у двор... Максімаў здагадаўся, чым выклікана такая цікавасць сябра.

— Выкладвай, што ў цябе,— сказаў ён.— Можам казаць адзін другому ўсё.

Валянцін Паўловіч таксама не бавіў часу дарма. Ён уладкаваў Яфрэма Мельнікава на кватэру да Мікалая Дзянскевіча, які жыў у Авіяцыйным завулку, прыцягнуў да збору разведвальных даных яго блізкіх, значную дапамогу стала аказваць разведчыкам і старая знаёмая Вішнеўскага Аляксандра Саевіч, якая працавала цяпер на пасажырскай станцыі Мінск. Яна давала звесткі аб руху варожых воінскіх эшалонаў.

Болей месяца працавала падпольная рацыя на вуліцы Новай, падтрымліваючы сувязь з Вялікай зямлёй. Потым на два месяцы яе перанеслі ў Авіяцыйны завулак. А ў ліпені на Палескую, да Максімавых. Пакуль што разведчыкам шанцавала: немцам ні разу не ўдалося запеленгаваць іх перадачы.

Перадатчык разам з батарэяй змяшчаўся ў партфелі, але пераносіць яго было нялёгка і небяспечна. Парашылі зрабіць тайнік у хляве, тым больш, што Д. Максімаву ўдалося знайсці недзе ў развалінах цудоўную незгаральную металічную скрынку. Укапалі скрынку ў зямлю, у яе паклалі рацыю, а зверху закідалі смеццем, дровамі. Няхай паспрабуюць знайсці. Затое, калі набліжаецца час сувязі, перадатчык лёгка дастаць, перанесці ў хату і хутка ўстанавіць у адным з пакояў, папярэдне ўтыркнуўшы сталёвы штыр антэны над дахам побач з комінам.

Перадачы звычайна вялі раніцой, з васьмі да дзесяці. З коміна ў гэты час валіў густы дым, нібы гаспадыня рыхтавала сняданак. На самай жа справе і яна, і Даніла, ахоўваючы радыста, пазіралі ў вокны на вуліцу, прыслухоўваліся, ці не забрэша спушчаны з ланцуга Букет.

Яшчэ ў маі 1942 года група Сяргея Вішнеўскага атрымала нечаканае падмацаванне: быў закінуты ў варожы тыл разведчык Леанід Барсукоўскі. Яму ўдалося паспяхова дабрацца ў Мінск і ўладкавацца ў падпольшчыкаў Аляксандра і Марыі Загорскіх, якія жылі ў Дабрамысленскім завулку.

І вось Сяргей і Леанід сустрэліся на вуліцы Маскоўскай. Каб не звяртаць на сябе ўвагу, хутка дамовіліся аб сустрэчы. На наступны дзень Вішнеўскі прыйшоў да Берасневічаў. А там і высветлілі, што працаваць будуць разам. Паведамілі пра гэта па радыё ў Маскву і скора атрымалі згоду «Цэнтра». Гэта было добра яшчэ і таму, што падпольшчыкі А. Загорскі і С. Берасневіч працягвалі служыць на чыгуначным вузле, дзе здабывалі вельмі карысную інфармацыю аб перавозках праціўніка.

У пачатку ліпеня з Вялікай зямлі паступіла радыёграма, што прыбудзе самалёт з рыштункам для групы. Масква ўказала час прылёту, квадрат у Рудзенскім раёне, дзе самалёт павінен быў з'явіцца, прасіла запаліць на зямлі сігнальныя вогнішчы. Але над лініяй фронту самалёт быў сустрэты зенітным агнём, не змог прабіцца і павярнуў назад. Гэта паведамілі пасля Масква і дадала: «Чакайце далейшых указанняў».

Толькі на пятую ноч разведчыкі пачулі доўгачаканы гул матора. «Дуглас» выйшаў якраз на агні, зрабіў тры кругі, скінуў некалькі парашутаў і зноў знік у цемры. Мікалая Бортніка знайшлі ў лесе пад сасною, у верхавіне якой заблытаўся яго парашут.

Я сустрэўся з ім праз трое сутак у Марыі Лісецкай.

— Знаёмся, Павел,— прадставіў Сяргей новага таварыша.— Прыбыў адтуль... Завуць — Пётр, прозвішча — Грыб.

Трэба было ўладкаваць Грыба на кватэру, і, параіўшыся з жонкаю, я прапісаў яго ў сваёй кватэры як жончынага брата.

Падпольшчыкі збіралі звесткі. Рацыя працавала спраўна. «Цэнтр» патрабаваў новых даных.

Галоўнае было ўстанавіць пастаяннае, кругласутачнае назіранне за рухам цягнікоў.

З акна хаты Максімавых, дзе знаходзілася рацыя, быў добра відзён чыгуначны шлях на Маскву. Вішнеўскі вырашыў скарыстаць гэту выгоду.

З тае пары Сяргей стаў атрымліваць самыя дакладныя звесткі аб руху гітлераўскіх цягнікоў, у які 6 час сутак яны ні праходзілі. А крыху пазней Вішнеўскі сустрэў у горадзе даваеннага сябра, таксама спартсмена-веласіпедыста, Уладзіслава Садоўскага і пастараўся пабыць у яго на кватэры, у доме побач з чыгуначным пераездам каля Чэрвеньскага базару. Вопытным вокам разведчыка Сяргей адразу ацаніў, наколькі выгаднае гэта месца: акно з кухні выходзіць у двор, праглядаецца чыгуначнае палатно...

Уладзіслаў Садоўскі таксама стаў членам падпольнай групы. Цяпер ён амаль увесь свой час быў на кухні.

Па ўсім было відно, што фашысты рыхтаваліся да вялікага наступлення. Адзін за адным рухаліся іх эшалоны з войскамі, зброяй, боепрыпасамі і гаручым. Але трэба было выявіць характар воінскіх часцей, тыпы і прызначэнне боезапасаў, а зрабіць гэта мог чалавек, які мае доступ да фарміравання саставаў.

Такога чалавека знайшлі. Ён працаваў саставіцелем цягнікоў. І цяпер меліся звесткі аб становішчы на чыгуначным вузле.

Прыдалася і некалі пустая прыбудова да хаты Садоўскага: з яе вельмі добра было весці радыёперадачы. Але замінала нямецкая радыёстанцыя, якая была непадалёку. Яна заглушала голас рацыі падпольшчыкаў.

Усё, здавалася, ішло добра, разраслася і памацнела група разведчыкаў, працавалі з вялікім імпэтам, але над падпольшчыкамі ўжо згушчаліся хмары.

Першым гэта адчуў Даніла Максімаў, які працаваў дырэктарам у пашывачным атэльє: намеснікам да яго немцы прызначылі нейкага здаравеннага дзецюка гадоў пад трыццаць, які ўсюды тыркаў свой нос. Падпольшчыкі ўрэшце высветлілі, што дзяцюк гэты супрацоўнічае з СД. Трэба было яго як мага хутчэй ліквідаваць. Што ў хуткім часе і зрабілі падпольшчыкі.

Цяпер, засцерагаючыся, сталі хаваць радыёперадатчык у гарадскіх руінах, куды баяліся патыкацца гітлераўцы. Як звычайна, Сяргей і Яфрэм уранні правялі сеанс сувязі з Масквою, схавалі рацыю і пайшлі з дома Максімавых. Тым часам да дома падкаціла машына. Два салдаты пацягнулі Максімава да машыны, астатнія пачалі вобыск у кватэры. Ператрэслі ўсё, перавярнулі ўверх дном, агледзелі хлеў, двор, нават сабачую будку, але нічога не знайшлі. Данілу павезлі, Веры і дзецям загадалі нікуды з дому не выходзіць.

Праз некаторы час Данілу расстралялі.

Сяргей Вішнеўскі, як мог, помсціў за смерць баявога сябра.

Яшчэ з большай пільнасцю высочвалі акупанты падпольшчыкаў.

Сяргею Вішнеўскаму ўдалося звязацца з новымі таварышамі, якія памаглі яму і Бортніку часова ўладкавацца на работу. Але ў адзін са снежаньскіх дзён Вішнеўскі ішоў па Савецкай вуліцы і недалёка ад кінатэатра прыкмеціў трох тыпаў, адзін з якіх падаўся знаёмым. Сяргей завагаўся: падыходзіць ці не? І раптам гэты нягоднік тыцнуў у яго бок пальцам:

— Гэта ён.

З вялікай цяжкасцю ўдалося Вішнеўскаму ўцячы. За ім гналіся, стралялі, але выратавалі яго лабірынты руін у цэнтры горада.

Стала ясна: разведчыкам нельга заставацца ў горадзе. Трэба перапраўляцца да партызан.

І на наступны дзень мая жонка і падпольшчыца Ганна Адзінцова накіраваліся ў атрад «Штурм», дзе быў муж Ганны.

Трынаццатага снежня раніцою з вёскі Латыгоўкі Заслаўскага раёна ў Мінск выехалі дзве сялянскія падводы. А на наступны дзень яны накіраваліся назад. У двайных днішчах іх ляжалі дзве радыёстанцыі. А разведчыкі, узброеныя пісталетамі і гранатамі, ішлі метрах у пяці адзін ад аднаго за падводамі.

Я праводзіў іх кіламетраў пятнаццаць, да Сёмкавага Гарадка, і тут развітаўся з баявымі сябрамі, пажадаў ім шчаслівага шляху. Ніхто з нас не думаў у тыя мінуты, што гэта наша апошняе спатканне: ні адзін з іх не дажыў да вялікага Дня Перамогі. Усе яны былі вялікімі патрыётамі сваёй Радзімы, камуністамі, камсамольцамі.



□ Агульны выгляд санаторыя «Бярэзіна».

## ПІСЬМО Ў «БЕЛАРУСЬ»

# ХАЧУ РАСКАЗАЦЬ

Паважаная рэдакцыя.

Піша вам Трыпук Іван Іванавіч. У мяне вялікая просьба да вас: расказаць на старонках часопіса аб спецыялізаваным, адзіным у рэспубліцы санаторыі «Бярэзіна» для інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны і персанальных пенсіянераў.

Гэта адносна новая лячэбная ўстанова ў Беларусі, якая ўступіла ў дзеянне з красавіка 1981 года. Мне пашчасціла двойчы за апошнія гады адпачываць у гэтай цудоўнай здраўніцы, дзе вельмі многа ўжо зроблена і робіцца для актыўнага адпачынку і эфектыўнага лячэння ветэранаў вайны і працы. Тут вельмі добры лячэбны корпус з мноствам водных, фізічных і іншых працэдур, добраўпарадкаваныя спальныя карпусы, выдатнае харчаванне і бездакорнае абслугоўванне з боку медыцынскіх і іншых работнікаў санаторыя. Аб гэтым сведчаць шматлікія запісы, падзякі ў санаторнай кнізе водгукаў і прапаноў. І не дзіва: за чатыры гады тут папраўілі сваё здароўе і адпачылі больш як дзве тысячы ветэранаў вайны і працы.

Мне хацелася асобна расказаць пра ўрача Вольгу Сцяпанаўну Шэдаву, якая працуе тут з дня адкрыцця санаторыя. За гэты час яна заваявала ўсеагульную павагу. «Ад яе цёплых слоў, сардэчных адносін і добрых парад становішся і без лекаў здаровым і бадзёрым»,— пішуць у кнізе водгукаў муж і жонка Рыбаковы з горада Кіева. Зусім справядліва сказана пра ўрача В. С. Шэдаву, якая ўмее выклікаць добры настрой у пацыента, каб ён паверыў, што здароўе яго пайшло на папраўку. І што асабліва характэрна для Вольгі Сцяпанаўны, дык гэта выключная ўвага да людзей, якіх яна лечыць. Вольга Сцяпанаўна не лічыцца ні з часам, ні з асабістымі інтарэсамі: яе часта можна застаць у прыёмным пакоі, калі рабочы час ужо даўно закончыўся. Яна — ударнік камуністычнай працы. За сваю старанную працу ўзнагароджвалася граматамі, атрымлівала падзякі.

Характэрна яшчэ і тое, што В. С. Шэдава — патомны медык. Яе маці Ганна Сяргееўна, дзядзька Мікалай Сяргеевіч, цётка Ірына Ільінічна, старэйшы брат Васіль — усе медыцынскія работнікі. Але не затым, каб прадоўжыць традыцыі патомных медыкаў, выбрала Вольга Сцяпанаўна гэту добразычлівую прафесію. Яе бацька Сцяпан Ільіч вярнуўся з вайны інвалідам II групы, і калі яна падрасла, закончыла школу, самой хацелася лячыць яго. Яна стала ўрачом. І ў апошнія гады жыцця бацькі яна лячыла яго... Вольга Сцяпанаўна — чалавек, які заслугоўвае таго, каб пра яго расказаць.

**Іван ТРЫПУК,**
**інвалід Вялікай Айчыннай вайны.**

**Па заданню рэдакцыі здымкі да гэтага пісьма зрабіў фотакарэспандэнт Віктар ГАНЧАРЭНКА.**

□ Урач Вольга Сцяпанаўна Шэдава сярод сваіх пацыентаў — ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і ветэранаў працы.





Кандрату КРАПІВЕ — 90

# ПРАЦАЎНІК

«Нялёгкая справа сказаць новае, цікавае слова пра такога вядомага юбіляра, як Кандрат Кандратавіч Крапіва»,— гэтак дзесяць гадоў назад пачаў свой «Маналог пра Крапіву» (з нагоды яго васьмідзесяцігоддзя) Андрэй Макаёнак, яго вучань. Што праўда — то праўда. Нялёгка. Гэта — фенаменальная з'ява беларускай культуры, талент вялікі і на рэдкасць шматгранны і доўгачалавечны. Доўгачалавечны таму, мне здаецца, што вельмі моцна звязаны з жыццём, з пастаяннай штодзённай працай, удзелам у агульнанародных справах. Людзі сталага веку добра помняць яго творы 20-х гадоў. «Біблію» Крапівы я чуў ад брата Якуба Коласа — Іосіфа Міхайлавіча, які ведаў яе на памяць.

Паэт, празаік, драматург, вучоны — шматаблічная дзейнасць яго складае па сутнасці цэлую эпоху у развіцці нацыянальнай культуры рэспублікі. 90-годдзе К. Крапівы, маштабы здзейсненага ім запрашаюць да роздуму над старонкамі яго твораў, у якіх адлюстраваўся вялікі жыццёвы вопыт.

«Нарадзіўся я яшчэ ў мінулым стагоддзі,— так не без гумару, але і не адмаўляючыся ад праўды, пачынае Кандрат Кандратавіч сваю аўтабіяграфію,— 22 лютага (5 сакавіка па новаму стылю) 1896 года ў вёсцы Нізок Уздзенскай воласці, Мінскай губерні, Ігуменскага павета», а пачаткам свайго працоўнага стажу К. Крапіва лічыць 1914 год, калі атрымаў месца настаўніка ў земскай школе. Далей — імперыялістычная вайна, служба ў Чырвонай Арміі, удзел у грамадзянскай вайне... Пачатак папулярнасці пісьменніка адносіцца да 1922 года, калі у газеце Заходняга фронту «Красноармейская правда» малады камандзір надрукаваў першы свой твор — вершаваны фельетон «Жылі-былі». Аўтарам кіравала, тлумачыць ён пазней, «простае жаданне ўмяшацца ў жыццё і сёе ды тое ў ім выправіць». З таго часу яго сатырычныя вершы, фельетоны, байкі, паэмы, апавяданні сталі ўсё часцей з'яўляцца на старонках беларускіх газет і часопісаў.

20-я гады — перыяд станаўлення савецкай літаратуры, у якую шырока ішлі свежыя творчыя сілы: М. Чарот, У. Дубоўка, М. Зарэцкі, А. Дудар, П. Трус, П. Глебка, К. Чорны, М. Лынькоў і многія іншыя. К. Крапіва (сапраўднае прозвішча Кандрат Кандратавіч Атраховіч) абраў сатырычны напрамак.

**Я ў мастацкім агародзе**
**Толькі марная трава.**
**Я расту вось тут пад плотам**
**І не так даўно ўзышла,**
**А ўжо многім абармотам**
**Рукі-ногі папякла.**

На пытанне аб тым, чаму ён выбраў такі псеўданім — Крапіва, Кандрат Кандратавіч адказвае наступнае: «Матывы былі розныя. Па-першае, я не лічыў свае творы таго часу сапраўды мастацкімі і саромеўся падпісваць іх сваім прозвішчам. Па-другое, маё прозвішча — Атраховіч — нязручнае для вымаўлення і нялёгкае для запамінання. Па-трэцяе, сатырычны характар маіх твораў, у якіх часам называліся і сапраўдныя імёны, патрабаваў нейкага прыкрыцця хоць бы ў выглядзе псеўданіма. У адпаведнасці з характарам жанру я і выбраў «Крапіву».

Малады сатырык высмейвае перажыткі мінулага ў свядомасці людзей, адсталасць старой вёскі, рэлігійныя забабоны, бескультур'е: «Ціт заводзіць новы быт», «Будуйце лазні!», «Мы не паклонімся богу», «Дзве кумы» — гэтыя і шматлікія іншыя вострыя выступленні Крапівы, асновай для якіх служылі рэальныя факты, дапамагалі будаваць новае жыццё. «З вёскі змываць дакастрычніцкі бруд — задача мая ўдарная» — вось яго крэда. Прыцягвалі яго тэмы літаратурныя і палітычныя. Дастаецца ад яго і знешнім ворагам Краіны Саветаў: «Да ноты Керзана», «Сава, Асёл ды Сонца», «Жаба ў каляіне».

Творчасць Кандрата Крапівы — гэта гісторыя беларускай літаратуры XIX—XX стст. у яе скарочаным, «асабовым» выглядзе. Паскораным чынам ён прайшоў усе, па сутнасці, этапы яе станаўлення, развіцця і росквіту.

Глыбока самабытная з'ява — Крапіва-байкапісец. Маюць рацыю, мне здаецца, тыя, хто бачыць у яго з'яўленні на беларускай «ніве» з'яву заканамерную. У плане маральна-эстэтычным Крапіва-сатырык вырас з таго, што літаратуразнаўцы называюць «народнай смехавой творчасцю». Беларускі фальклор і літаратура ў паказе сваіх герояў не пазбягалі ні шаржу, ні кпін, ні парадзіравання, ні скамароства.

Байкі Крапівы — прамое і непасрэднае, амаль не апасродкаванае нейкімі прыватна-аднаразовымі, асабовымі сітуацыямі выяўленне сацыяльных і маральных асаблівасцей народнага жыцця. Пачуццё гумару не пакідала народ у самыя цяжкія часы. Яно і перайшло ў мастацтва К. Крапівы, набыўшы там дакладную класавую накіраванасць, узмацніўшыся да вострай сатыры, а нярэдка і да сарказму. Калі вызначаць своеасаблівасць яго таленту і грамадзянскага аблічча — асабліва як ён выявіўся ў 20-я гады,— то трэба прызнаць, што К. Крапіва — з плеяды беларускіх пісьменнікаў-асветнікаў. Але гэта асветнік новага часу, савецкі пісьменнік, адзін з заснавальнікаў беларускай савецкай літаратуры. У той час тварылі розныя мастакі—У. Маякоўскі, Д. Бедны, М. Булгакаў, М. Зошчанка, В. Шышкоў. Сатырычны струмень быў моцны ў іх творчасці. К. Крапіва знаходзіўся ў гэтым шэрагу, але быў бліжэй да нацыянальнай мастацкай традыцыі, да жанру «гутаркі», распаўсюджанага ў беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Аб гэтым сведчаць такія творы, як «Што я бачыў на «Трэку», «Каго мне ўзяць за кума?», «Год Сцяпана-гультая», з уласцівай ім вастрынёй сацыяльна-бытавой праблематыкі, сюжэтнасцю, сказальнасцю інтанацыі. Аўтар быццам бы ўхіляўся ад звышнавацый, усялякіх эксперыментальных залішкаў, характэрных для многіх літаратараў 20-х гадоў. Прастата і даступнасць выдзялялі яго на гэтым фоне...

Пісаць байкі Крапіва не перастае і да гэтага часу, аднак уважлівы чытач заўважыць, што ў канцы 20-х гадоў пісьменнік значна актывізаваў свае жанрава-стылявыя пошукі, звярнуўся да іншых літаратурных родаў. Прычына гэтага ў імкненні мастака глыбей раскрыць сацыяльны і псіхалагічны свет асобнага чалавека, узятага, зразумела, разам з іншымі людзьмі.

Тым самым Крапіва паказаў рознабаковасць свайго таленту. У ім жыў выдатны майстар псіхалагічнай прозы. На рубяжы 20—30-х гадоў ён стварае сацыяльна-бытавы раман «Мядзведзічы», у якім праўдзіва малюе карціну беларускай вёскі 20-х гадоў, раскрывае прыватнаўласніцкія звычкі, барацьбу з кулацтвам і ўсталяванне новага ў жыцці сялян. Раман не страціў свайго гісторыка-мастацкага значэння да цяперашняга часу. Яго цэнтральны герой Юзік Верамейчык — тыповая фігура маладога чалавека 20-х гадоў, у мінулым чырвонаармейца, удзельніка грамадзянскай вайны, які вяртаецца ў роднае сяло з думкай пераадолець яго адсталасць і коснасць, зрабіць крок да новага жыцця...

У творах канца 20-х — пачатку 30-х гадоў і пазнейшых перыядаў знаходзім не толькі сатыру, але і іншыя матывы — лірычныя, гераічныя і нават трагічныя, як, напрыклад, у тым жа рамане «Мядзведзічы», у многіх п'есах. Пісьменніка ўсё больш прыцягваў чалавек, складанасць яго ўнутранага свету, барацьба за новую мараль. Вырашэнне гэтых творчых імкненняў ён знайшоў у рабоце для тэатра. П'есы яго з'явіліся якасна новым этапам развіцця беларускай драматургіі. Можна з поўнай падставай гаварыць пра тэатр Крапівы як з'яву яркую, арыгінальную і ў вышэйшай ступені народную.

Першая п'еса «Канец дружбы» была напісана ў 1933 годзе. У ёй разглядаецца праблема дружбы і абавязку, складанасць чалавечых адносін, народжаная складанасцю часу рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, асабліва напружаных класавых канфліктаў. Як гэта характэрна для Крапівы — заўсёды пісаць аб тым, што хвалявала людзей!

Гераічная народная драма «Партызаны» стаіць у адным шэрагу з такімі шэдэўрамі савецкай драматургіі, як «Любоў Яравая» К. Транёва, «Браняпоезд 14-69» Ус. Іванава, «Разлом» Б. Лаўранёва, «Шторм» У. Біль-Белацаркоўскага. Аўтар узнаўляе карціны грамадзянскай вайны ў Беларусі, выводзіць на сцэну народ, які ўсвядоміў сябе рашаючай сілай гісторыі.

А славутая камедыя «Хто смяецца апошнім», створаная ў 1939 годзе,— па сіле абагульнення, мастацкай дасканаласці, сцэнічнасці з'явілася адной з вяршынь савецкай драматургіі 30-х гадоў! П'еса накіравана супраць кар'ерыстаў, падхалімаў, плеткароў і авантурыстаў. Здзіўляе мастацкая пераканаўчасць іх вобразаў. Туляга, Гарлахвацкі, Зёлкін і іншыя даўно сталі тыпамі абагульненымі.

«Хто смяецца апошнім» займае выдатнае месца ў беларускай камедыяграфіі, у гісторыі беларускай літаратуры.

«Галоўная ўдача драматурга ў камедыі «Хто смяецца апошнім»,— піша Дз. Бугаёў,— заключаецца ў тым, што ён стварыў маштабныя, напісаныя з вялікім запасам абагульнення характары дзейных асоб, перш за ўсё шматпланавыя і, калі можна так сказаць, шматслойныя тыпы адмоўных персанажаў, якія ў выкрывальна-сатырычным жанры зусім правамерна прыцягваюць найбольшую ўвагу аўтара... У асобе Гарлахвацкага з гэтага твора ўзяты пад абстрэл сапраўды значны сатырычны аб'ект, вельмі небяспечны «свінтус грандыёзус», які пры зручных, спрыяльных для яго акалічнасцях становіцца надзвычай агрэсіўным, нахабна замахваецца ў першую чаргу на сумленных людзей».

Пісьменнік паступова рэалізуе ўсю шматграннасць свайго таленту і светаўспрымання. Гэту рысу К. Крапівы як мастака зорка падмеціў і высока ацаніў Іван Шамякін. У дачыненні да Крапівы гэта вельмі правільна.

«Крапіва ў сваёй творчасці,— піша Іван Шамякін,— і гісторык, і філосаф, і сацыёлаг. Драматургія — разведка новых асноў быцця. Драматургі першыя адчуваюць новыя канфліктныя сітуацыі, супярэч-

насці. Добра ведаючы, разумеючы мінулае, яны пільна ўглядаюцца ў будучае. Часам Крапіва звяртаўся да працэсаў, вынік якіх было цяжка прадказаць (таму не ўсе адразу яго разумелі), да працэсаў, якія мелі тэндэнцыю да развіцця ці, наадварот, да адмірання, нягледзячы на іх уяўную жыццяздольнасць. Крапіва паказваў шлях наступнаму пакаленню не толькі драматургаў — усім беларускім пісьменнікам».

З драматургіяй К. Крапівы звязана станаўленне і перыяд сталасці старэйшага беларускага тэатра — тэатра імя Янкі Купалы. Творы пісьменніка, насычаныя подыхам жыцця, адчуваннем часу, эпохі, пакінулі глыбокі след у гісторыі тэатра.

У 1939 годзе К. Крапіва ўдзельнічае ў паходзе за вызваленне Заходняй Беларусі — камандзірам стралковай роты. Потым ваяваў на лініі Манергейма ў Фінляндыі. «Праз год,— успомніць ён пазней,— мне зноў давялося апрануць шынель, каб удзельнічаць у чацвёртай «маёй» вайне, якая прынесла незлічоныя бедствы маёй роднай Беларусі і ўсёй Савецкай краіне».

З першага дня Вялікай Айчыннай вайны пісьменнік пайшоў працаваць у франтавую газету «Красноармейская правда» — тую самую, у якой упершыню выступаў у друку. Вайна вярнула яго да ранейшых форм сатыры — памфлета, фельетона, эпіграмы.

У суровым снежні 1941-га ён уступіў у рады Камуністычнай партыі. Яго напружаная работа ў гады вайны ў перыядычных выданнях «За Савецкую Беларусь», «Партызанская дубінка», «Раздавім фашысцкую гадзіну» набліжала нашу перамогу. Не забывае ён і пра драматургію. У гэты перыяд былі напісаны п'есы «Проба агнём» і «Мілы чалавек». Апошняя, зноў жа сатырычная камедыя, якая выстаўляе — як гэта і ўласціва сатыры — «на паказ», на асмейванне адмоўныя з'явы жыцця. Шмат працаваў Крапіва ў розных жанрах драматургіі і пазней. Ужо ў 70-я гады ён стварае «фантастычную камедыю» «Брама неўміручасці». Здзіўляе духоўная насычанасць гэтай п'есы, вострая пастаноўка пытання аб сэнсе чалавечага быцця, месцы чалавека на зямлі. Аўтар зыходзіць з нераўнамернасці развіцця навукова-тэхнічнага і маральнага прагрэсу, закранаючы розныя аспекты гэтай праблемы — сацыяльна - эканамічныя, біялагічныя, маральна-этычныя і філасофскія. У камедыі створаны тыповыя сатырычныя характары. Герантолаг Дабрыян адкрыў закон неўміручасці. Плёнам яго адкрыцця спяшаюць пакарыстацца Дажывалаў, Караўкін, Шусцік, Скараспей, Застрамілава і іншыя, якія хацелі б быць неўміручымі, «вечнымі». Перад веліччу вечнасці драматург, паводле яго слоў, паказвае «звычайных людзей, добрых і дрэнных, з іх характарамі, грамадскімі і асабістымі інтарэсамі і маральнымі якасцямі».

Гэтыя «звычайныя» людзі здзіўляюць сваёй нахабнасцю, цынізмам, адсутнасцю элементарнай чалавечай прыстойнасці. Вось урывак з камедыі:

**Караўкін. Скажыце, неўміручыя людзі будуць есць-піць!**

**Дабрыян. Ну, вядома.**

**Караўкін. Калі будзе што.**

**Дабрыян. А чаму ж не будзе!**

**Караўкін. Вы можаце выдумаць неўміручасць, а кілаграм мяса для неўміручага вы ж не выдумаеце.**

**Дабрыян. Будзе неўміручасць, дык будзе і матэрыяльная база.**

**Караўкін. Дык я ж і ёсць база.**

**Дабрыян. Не разумею.**

**Караўкін. Я загадчык базы. І я іх павінен карміць.**

**Дабрыян. Дык яны ж будуць неўміручыя, а вы!**

**Караўкін. Што за пытанне! Вы зробіце мяне неўміручым.**

Славуты гумар драматурга набывае саркастычную афарбоўку. Уражанне такое, што Гарлахвацкія і Зёлкіны не збіраюцца пакідаць наша грамадства.

«Фантастычная» камедыя К. Крапівы прымушае задумацца над складаным жыццём і яго супярэчнасцямі, дазваляе глыбей зразумець духоўны свет сучасніка, яго погляды і інтарэсы, адносіны да будучыні.

У старажытнага аўтара Феафраста ёсць кніга «Характары», у якой ён апісвае розныя чалавечыя тыпы,— зразумела, адмоўныя. Такое даследаванне можна было б прарабіць на матэрыяле камедый Крапівы. Цікавая праца можа атрымацца.

Энергія драматурга невычэрпная. Не так даўно ён апублікаваў новую п'есу — «На вастрыі» (1982), якая, дарэчы, была пастаўлена ў Віцебску — «коласаўцамі». Аўтар і тут выступае ў якасці даследчыка сацыяльнай псіхалогіі чалавека і яго грамадскіх паводзін. Ён сцвярджае чэснасць, вернасць абавязку, дабро, змагаецца са злом.

Імя Кандрата Крапівы вядома не толькі за межамі рэспублікі, але і за межамі нашай краіны. П'есы драматурга ідуць на сцэнах многіх тэатраў Еўропы. Яны маюць поспех якраз менавіта таму, што талент Крапівы вельмі нацыянальны па духу.

Добра вядома ў Беларусі навуковая дзейнасць К. Крапівы, якой ён аддае шмат увагі. Па сутнасці, усе найбольш значныя дасягненні беларускага мовазнаўства (складанне слоўнікаў, стварэнне акадэмічнай «Граматыкі беларускай мовы», «Дыялекталагічнага атласа», зводу «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» і іншыя працы) звязаны з імем доктара філалагічных навук, акадэміка К. К. Атраховіча-Крапівы.

Акрамя таго, ён — бліскучы перакладчык твораў К. Маркса, Ф. Энгельса, У. І. Леніна на беларускую мову, а таксама Шэкспіра, Пушкіна, Крылова, Гогаля, Шаўчэнкі, Міцкевіча, Гашака, Твардоўскага і многіх іншых.

Адна з яго п'ес называецца «З народам». З народам — так можна сказаць пра самога Крапіву. Па праву носіць ён званне народнага пісьменніка БССР. Таленавітасць народа праявілася ў яго творчасці. Дух з поўным правам можна сказаць, што яго жыццёвы і творчы шлях — пісьменніка, вучонага, грамадзяніна — гэта шлях самаадданага служэння Радзіме, народу. Яго мастацкія творы, навуковыя працы, грамадская дзейнасць, неспакойны, чулы характар камуніста даўно здабылі яму гарачую любоў і павагу многіх людзей.

Народны пісьменнік, акадэмік, Герой Сацыялістычнай Працы, двойчы лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР — Кандрат Крапіва самааддана працуе як пісьменнік, вучоны, грамадскі дзеяч.

Працаўнік — так у народзе кажуць пра сумленнага чалавека, які ўсяго сябе аддае працы на карысць грамадству.

Так хочацца сказаць пра Кандрата Кандратавіча Крапіву: грамадзянін, пісьменнік, вучоны...

Працаўнік.

Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ.

ПАЭЗІЯ

Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА



## *Паўстанец 1863 года*

*Да 145-годдзя з дня нараджэння Францішка БАГУШЭВІЧА*

Косы, як зброю, востраць
у вёсках дзядзькі.
Смела, адчайна, свядома
і бескампрамісна.
У петлях на вісельнях душацца,
мруць дзецюкі.
Не адап'ецца крывёю
лад ненавісны.

Заварушыліся пушчы,
успенены рэкі.
Так пачынаецца ў гордай
краіне паўстанне.
Шчэ не было Бурачка,
з-пад Барысава Рэўкі.
У памянёных асобах
пасля ён паўстане.

Будзе шчэ холад
і агнястрэльная рана.
Выпрабаванне чужынай,
туляннем, выгнаннем.
З ім касінеры і брат.
І сястра з імі Ганна.
З людам пакрыўджаным
выпрабаванне паўстаннем.

Слова прамоўцы спачатку —
заклік да бою
З несправядлівасцю,
з голадам, пеклам і плесняй.
Шчэ не прабілася гранне
людзям на долю,
Гранне, што стане балючай
народнаю песняй.

Безабаронна на смерць
і на мукі гатовы —
Хатні настаўнік,
яшчэ дваццацітрохгадовы.
Ужо з Пецярбурга за бунт
са студэнтаў прагнаны.
І паядынак з царызмам
пакуль што прайграны.

Будзе хавацца ў саломе,
у бураломе.
Будзе пралазіць паміж
частаколаў шпікоў.
Пойдзе наўпрост на чужыну
па месячнай страме,
А праз вякі ён узыдзе
на страму вякоў.

...Брата пагналі ў Сібір.
Уцяку на Украіну,
З гэтай скрываўленай
шчодра зямлі ўцяку.

Там да людзей прытулюся.
І, можа, не згіну.
Песняй пачну галасіць
аб радзімым кутку.

Можна ў чужыне загойваць
духоўныя раны.
Ці ж для таго мяне лёс
не ў няволю паслаў?
Буду закон спасцігаць,
на мане заснаваны,
Каб з беззаконнем
да скону змагацца пасля.

Каб растварыцца
ў тутэйшым сярмяжным народзе,
Рэўкам Сымонам
і Бурачком прарасту.
З болю паўстання
высокая песня ўзыходзіць.
Песня-паўстанка ад куль
не ўпадзе на ляту.

Шлях несмяротны да слова,
нябеснае мэты,
цераз шыранне жандараў,
праз попел, вуглі.
З гора людскога
і са змагання паэты
Доўга жывуць на неспакойнай
зямлі.

...Праз аддаленне той шлях
уяўляем як свята,—
Сцежка на вешках штыкоў
і на грані ляза.
Сцежка заступніка бедных,
іх адваката,
Непрымірымая, чыстая,
нібы сляза.

Свой, гаваркі і вясёлы,
зрэдзьчас нелюдзімы,
Родную мову бараніць
вякі напралёт.
Загартаваныя праўдай
варты Радзімы.
Праведных толькі
паэтаў прымае народ.

...Нехта на дудцы іграе
за Доцішскім бэзам,
Гранне лунае над Нёманам,
на скразняку.
Сто сорак пяць.
Разбудзіла паэтава бессань.
«Як быць дачкою?» —
мучыць пытанне дачку.

# ПРА НАША АГУЛЬНАЕ

«...Я многіх блізкіх перажыў, нямала пахадзіў ды паездзіў, паплаваў ды палятаў, пабачыў многа рознага, ў тым ліку, вядома, і добрага, прыгожага. І сярод гэтага ўсяго мне іншы раз светла і цёпла згадваюцца нашы бяскрайнія лугі ў раскошнай квецені, ціхая чыстая рэчка майго пачатку. А ў гэтай рэчцы, у павольнай ласкавай у паўдзённую спёку вадзе, плыве наша быстрая красуня, наша работніца Каштанка. Шчаслівы, вольна плыве, толькі папырхвае над вадой, выцягнуўшы крутую шыю, храпай нібы п'ючы тую ваду, нібы гуллівa цмокаючы асцярожным пацалункам. А побач з ёй плыве яе першы сынок. Такі яшчэ нясмелы, што мне прыйшлося ўпіхнуць яго з берага ў ваду, такі яшчэ безабаронна трапяткі, а ўжо так хораша, адразу так свабодна, сам па сабе ўмеючы тое, чаму мы людзі змалку і часамі доўга вучымся.

З павадамі ў руцэ я плыву побач з маткай і сынам. Таксама шчаслівы».

Чытаю-перачытваю такія радкі — здавалася б, такія звычайныя, такія простыя, якія, аднак, пранікаюць у нашае сэрца, вабячы сваёй зрокавай пластычнасцю, чаруючы сваёй глыбіннай музыкай — слухаю адначасна велічна-незямныя і ў той жа час нейкія надзіва цёпла-сардэчныя гукі «Летуценняў» Шумана і ўспамінаю словы вялікага Талстога, якія некалі запісаў і запомніў у самы трагічны перыяд свайго жыцця, якія і тады ўзрушылі надзвычай, а мудрасць якіх пачынаеш апошнім часам разумець усё глыбей і паўней:

«Радоваться! Радоваться! Назначение жизни — радость. Радуйся на небо, на солнце, на звезды, на траву, деревья, животных, людей. Нарушается эта радость, значит, ты ошибся где-нибудь, ищи эту ошибку и исправляй».

Помню, як па-добраму пазайздросціў я гады са два назад свайму незабыўнаму другу Варлену Леанідавічу Бечыку, які неяк, ідучы з работы, усміхаючыся сваёй ледзь прыкметнай, вабна-гожаю ўсмешкаю, шчыра і ўзнёсла гаварыў: «Ты ведаеш, радуюся дотыку кожнага лісціка, кожнай травінцы, кожнаму сонечнаму промню...» Як ён умеў, усё-такі, радавацца ўсяму — і чужой, хоць невялічкай жыццёвай удачы, і новаму добраму твору, дасціпнаму жарту, і хораша выдадзенай кнізе, і перамозе нашых футбалістаў, і ўдаламу вершаванаму радку...

Думаючы пра шчасце і трагізм жыцця чалавечага, чытаючы-перачытваючы новую кнігу Янкі Брыля «Сёння і памяць», згадваю трагічны і светлы фінал славутага «Белага Біма...» Г. Траяпольскага (якога так любіць Янка Брыль і якому ён знайшоў столькі харошых слоў на старонках сваёй кнігі):

«Седой, как снег, человек шел по белому пустырю. Рядом с ним, взявшись за руки, два мальчика шли искать своего общего друга. И у них была надежда.

И ложь бывает святой, как правда. Так умирающий человек, улыбаясь, говорит: «Мне совсем стало хорошо». Так мать поет безнадежно больному ребенку веселую песенку и улыбается.

А жизнь идет. Идет потому, что есть надежда, без которой отчаяние убило бы жизнь».

Працытаваныя мною вышэй словы Л. Талстога з яго славутага наказу самому сабе («На каждый день») Іван Антонавіч запісаў праз некалькі месяцаў пасля такой непаравой смерці Рыгора Семашкевіча, «усмешлівага, сур'ёзнага хлопца, паэта, работніка».

У запісах у «чытацкі дзённік» 1982 года шмат журботнага, зажуранага, горка-балючага. Пражыта шмат. Нястрыманы стан болю і тугі вырываецца ў такім, скажам, абзацы:

«А ўчора быў позні вечар са сцішнавата прыгожай поўняй, з белапенным гоманам хваль, з думкамі ўсё пра тое ж — што ўсё гэта, можа, напярэдадні найгоршага, ужо не толькі для блізкіх, для паасобных, а для нас усіх».

І яшчэ дазволю сабе адну цытату — пераказ жа, нават самы «блізкі да тэксту», у гаворцы пра такую кнігу мала што дае:

«Ведаю гэта і я — прыступы жудасна-горкай тугі... Даўнавата яе не было, ды вось зноў прыйшла. Прачнуўся ў тры гадзіны, каля гадзіны ляжаў без агню...

Успомніўся Якуб — як ён (Таня казала) паміраў у страшэнных пакутах, клічучы маці. Мужны, стрыманы, з маўклівым сэрцам усё сваё нялёгкае жыццё.

Успамінаў запіс Льва Мікалаевіча,— старэнькага, стомленага і замучанага, адным любімага, другім ненавіснага, праслаўленага на ўвесь свет тытана думкі, тытана душы — як ён па-дзіцячы маліўся сваёй «маменьке», якое ніколі не бачыў...»

І ўсё-такі нездарма пачаў я сваю гаворку пра гэтую адметную ў сваёй сапраўды чэхаўскай «обезоруживающей простоте» кнігу са слоў — радасць, шчасце...

Вельмі здзівіла мяне Ю. Канэ, якая ў пасляслоўі да зборніка Брыля, што выйшаў нядаўна на рускай мове ў Маскве (у дадатку да часопіса «Дружба народов»), напісала: «Брыль апошніх апавяданняў, кніг, эсэ, апошніх аповесцей... гэта новы Брыль. Цяжка нават сфармуляваць, у чым тое новае. Можна сцвярджаць толькі, што пісьменнік стаў больш жорсткі, стрыманы, глыбейшы, іранічны, застаючыся ў той жа час шчырым лірыкам».

Міжволі згадваем брылёўскае іранічна-горкае, паўторанае і ў кнізе «Сёння і памяць»: «Паэт у прозе» — няўжо гэта больш, чым проста добры пісьменнік?»

Іранічны? Сапраўды так. Нават саркастычна-гнеўны. Але не злы, не жорсткі.

Возьмем дзве замалёўкі.

Першая — на дворыку Саюза пісьменнікаў у Маскве. Побач з пісьменнікам садзяцца дзве «сімпатычныя маладзічкі»:

«У той, што прысела першая, вялікая сумка сваіх свежаспечаных зборнікаў, якіх многа, аж сумка не зачыняецца. Другая, міла павітаўшыся ды прысеўшы, адразу і папрасіла даць ёй адзін з аўтографам.

— Я не могу теперь. Они уже распределены. Я вам потом. А посмотреть — пожалуйста.

Слова за словам, і пачалася паэтычная гульня:

— Раскройте на... ну, пусть на сорок второй страничке и прочтите третью строчку сверху. Хорошо! А теперь... ну, на семнадцатой восьмую снизу... А?

І смакаванне, і эрудыцыя».

Не, ніякі ён тут не новы, не жорсткі і стрыманы, а ўсё той жа адкрыты, усмешліва-дабрадушны, іранічна-мудры Брыль.

А вось другая, падгледжаная на беразе мора ў Юрмале сцэнка, у якой пісьменнік сапраўды ўжо куды больш засмучаны, аднак пры ўсёй «жарсткаватасці» самой сцэны, усё той жа мякка-іранічны:

«Даўно забітая ці здохлая чайка,— а мо і варона, бо не пазнаць,— выкачана хвалямі на бераг. Два хлопцы і дзяўчына спыніліся каля яе. Хлопцы збоку гавораць пра

Генадзь ШУПЕНЬКА

нешта сваё, а хлопцападобная па вопратцы паненачка стаіць, нахіліўшыся над слізкай, агіднай «кансервай» і патэтычна песціцца:

— Встань! Да встань же!..

Младая поэтесса?»

Знарок не прыводжу прамых аўтарскіх публіцыстычных інвектыў — супраць нашага няшчасця, павальнага алкагалізму, супраць тых, што не працуюць калі і працуюць, то робяць выгляд толькі, і да т. п. Тут ён якраз не заўсёды пераконвае і тым больш не заўжды ўзрушвае, бо не паказвае, а толькі канстатуе.

У такіх жа вось жывых непаўторных сцэнках-эпізодах ёсць праўда чалавечага «жэста», праўда жыццёвага характару, праўда чалавечых узаемадачыненняў і ўчынкаў, за якімі — зусім не дробязныя нашы беды, якія ідуць ад душэўнай недастатковасці, ад духоўнай спустошанасці часткі нашай моладзі.

Але сэрца пісьменніка не стала жорсткім. Калі б гэта, на няшчасце, здарылася — ніякая «шчырая лірыка» не ўратавала б.

Ён бывае розны. Бывае засмучаны, зажураны, прыгнечаны. І ўсё ж асноўная танальнасць у складанай гаме яго пачуццяў — усё тая ж дабрыня, чалавечнасць, радасць ад усведамлення жыцця, як неацэннага дарунку, як найвялікшага шчасця.

Перагорнем яшчэ колькі старонак гэтае, як на мой погляд, любоўна, хораша выпушчанай у свет выдавецтвам «Мастацкая літаратура» кнігі.

У ёй шмат сведчанняў усё той жа чалавечай дабрыні, чысціні, цеплыні, якая бадай наймацней выяўлена ў паказе дзяцей. Менавіта ў адносінах да дзяцей, на думку пісьменніка, як нідзе яскрава выяўляецца наша чалавечая сутнасць.

Яна і ў клопаце вялікага Леніна пра такую «дробязь», як тое, «каб кожнае дзіця мела бутэльку добрага малака», і ў «здаровай, канструктыўнай зайздрасці» Надзеі Канстанцінаўны Крупскай, якая, знаходзячыся ў эміграцыі, пісала маці Уладзіміра Ільіча Марыі Аляксандраўне пра тое, што яна бачыць там «нейкае царства дзяцей», дзе да дзяцей усе «такія ўважлівыя, а дзеткі такія слаўныя, здаровыя» («Пра чалавечнасць»). І ў тым, як наш Аляксей Пысін, прыязджаючы ў Мінск, спяшаў найперш да сваіх унукаў. І ў прамых аўтарскіх словах захаплення і расчуленасці: «Чалавечкі мае цудоўныя». І, вядома ж, у жывых сцэнах-эпізодах з апавядання «Касатачка», «На шаснаццатым», у цыкле мініяцюр «Адкуль паэзія».

Не менш прывабныя і жаночыя вобразы паўстаюць перад намі з апавяданняў «Дырэктарка», «Гіпноз» і інш.

А возьмем ды і паслухаем тых жа нашых «знаёмых незнаёмцаў», усё тых жа нашых несмяротных філосафаў-байдуноў:

— Здароўя пытаеш. Якога ты хочаш, браце, у маіх гадах здароўя? Семдзесят шосты. Калі дзе скокам, дык потым і бокам. Але ж не возьмеш, ліха яму, з капліцы старую пратэзу ды не пойдзеш, сам па сабе жывы галосячы. Трымаюся, пакуль трымаецца. Да доктара, можна сказаць, і зусім не хаджу. От, павітаемся на вуліцы. А да Чмута не пойдзем — памёр. Які, кажаш, Чмут? Я і сам, браце, мог бы быць такім чмутам. Мой дзядзька быў у Амерыцы, у Канадзе. Яшчэ пры цары паехаў, лепшага хлеба шукаць. А пры Польшчы быў прыслаў мне кнігу пра гіпноз. Па-руску напячатана. Я яшчэ ў войску тады не служыў, толькі-толькі на кавалера браўся. Усю зіму тую кнігу чытаў. І сам пачаў практыкавацца. Тры пальцы во так настаўлю, ці так сабе, ці ў твар каму-небудзь, вочы натарапачу — гляджу, як ён міргае. А ўжо далей мне і самому смешна — засмяюся! І сарваў сеанс. Не ў кожнага яно і палучаецца...

Хіба ж не мілата, як сказаў бы наш другі чараўнік народнага слова, Ян Скрыган, слухаць такое? Вось ужо сапраўды, кажучы яго словамі, «праўда мовы — гэта і праўда вобраза, і праўда душы, і праўда атмасферы».

Як часта нам яшчэ не стае вось такой народнай прастаты, плаўнасці і мудрасці, «той самай інтэлігентнасці, якую надаў мове толькі сам Янка Брыль» (Ян Скрыган).

Пачнеш чытаць многія нашы сучасныя таўшчэзныя раманы — а сярод жа іх ёсць і напісаныя бясспрэчна таленавітымі людзьмі, якія некалі так хораша пачыналі,— і бачыш, што ўсе намаганні аўтара скіраваны не на тое, каб стварыць «праўду вобраза і праўду атмасферы», а каб найперш выказацца не так, як астатнія. Адсюль, відаць, гэтая натужлівая арыгінальнасць, у якой так шмат самага звычайнага «свавольства», вычварнасці, не такога ўжо бяскрыўднага калечання мовы.

На старонках нашага «ЛіМа» каторы ўжо месяц тлее, зрэдку зазырчэўшы праблiскам жывога агеньчыка, нібыта дыскусія на тэму «Сучаснасць і сучасная літаратура». Якія толькі «глабальныя праблемы» («гарадская», «вясковая» і г. д., і да т. п.) не «мусіруюцца» тут. А ці шмат хто задумаўся: «А ці мастацкая проза тое, пра што мы талкуем?..»

Не, не так сабе Янка Брыль цытуе польскага паэта і эсэіста Юльяна Пшыбася (1901—1970):

«...Уфф! Не магу чытаць раманаў, нават класічных, шэдэўраў. Колькі ж я задаваў сабе прыкрай работы, пакутуючы над бягучай польскай белетрыстыкай, рэцэнзуючы яе. Хопіць! Цяпер буду разбіраць эсэ, нарысы, вершы, а вытворчасць фікцыі абмінаць!»

Прайшло ўжо звыш дваццаці гадоў, як Брыль асмеліўся сыпнуць у шырокі свет сваю першую «жменю сонечных промняў». Кніга тая, выпушчаная ў свет у 1965 годзе, напачатку сяго-таго «озадачила», але вельмі многіх — узрадавала, усцешыла, зачаравала. Адбыўся сапраўдны цуд — самыя звычайныя «запісы на кожны дзень» сталі падзеяй у нашай літаратуры і вось ужо два дзесяткі гадоў з'яўляюцца своеасаблівым каталізатарам нашага літаратурнага жыцця.

Да гэтага часу дзівіць і радуе гэтае вось уменне весці размову з чытачом пра самае, здавалася б, інтымна-асабістае. Маральнае права на такую размову з чытачом мае, вядома ж, далёка не кожны. Апроч вялікіх здабыткаў інтэлектуальнай культуры і невычэрпных запасаў душэўнай шчодрасці, мець трэба і грамадзянскую мужнасць і — не ў апошнюю чаргу, вядома,— вялікую сілу эмацыянальнага ўздзеяння, а гэта значыць, выключны мастацкі талент.

На лепшых старонках кнігі Брылю-мастаку ўдаецца галоўнае — ён дабіваецца эфекту і маёй, чытацкай «прысутнасці», маёй далучанасці да ўсяго таго, пра што ён мне расказвае. Але, думаецца, нездарма задае ён сабе на «сваіх старонках» пытанні накшталт: «а ці не абкрадаю я сам сябе, залішне многа заганяючы толькі ў нататкі».

Калі па шчырасці, то не ўсе старонкі з творчай аўтабіяграфіі сталі і маімі, нашымі, усеагульнымі.

Цікава і павучальна, што тут казаць,ісці за думкамі разумнага, таленавітага чалавека, чалавека-асобы.

Але ад мастака слова такога маштабу чакаеш мастацкай філасофіі, а не такіх нататак: «Вечнае недаўменне: няўжо гэта толькі так — пажыў, памёр і ўсё?.. Ідэалізм не змог растлумачыць гэта, і матэрыялізм не растлумачвае. Нібыта ясна, аднак — далёка не ўсё!»

Не кажу ўжо пра тое, што шмат, зрэшты, растлумачана... Кажу толькі пра тое, што куды больш сапраўднай філасофіі жыцця ў такой хоць бы вось мініяцюры:

«Стары івянецкі народны ўмелец Пупко — пра настаўніка і, кажуць, добрага хлопца Міколу Пашкевіча, які яму нечым дапамог,— кажа з удзячнасцю і болем, але і весела: «Я ўжо дзевяты дзесятак луплю, а ён — памёр...»

Колькі ж тут пераплялося ў гэтым вось «з болем, але весела»!..

А хіба ж менш сказана, чым у якім-небудзь глыбакадумна-млявым апісальным апавяданні на дзесяткі старонак, у такой вось «карацельцы»:

«Мележ з усмешкай расказваў мне незадоўга да смерці, як ён здаваў бандэроль і маладая, незнаёмая паштарка зрабіла яму заўвагу.

— Мозырь надо писать с мягким знаком.

— Гэта ў мяне па-беларуску.

— Ну и что же? Все равно с мягким знаком.

І паставіла знак сама».

Так, шмат даюць сэрцу чытача брылёўскія «кароткія і светлыя» мініяцюры.

Рызыкоўна, што і казаць, даваць нейкія парады. І ўсё ж... Хацелася б, каб многае з гэтых нататак разгарнулася ў нешта больш сюжэтнае.

Немажліва з кожнага цікавага жыццёвага факта рабіць апавяданне, тым больш, калі і ў мініяцюры наведзены той талстоўскі «фокус» — паказаны чалавечы характар. Але, трэба прызнацца, задаеш часам любімаму пісьменніку такое ж пытанне, якое ён задае не менш любімаму ім Е. Путраманту, які пачаў свой шматтомны жыццяпіс устаноўленнем родавага герба: «Ну і што?»

Чытаеш, скажам, пра тое, што перапіска Леаніда Першамайскага з Мікалаем Чукоўскім нагадала аўтару ліпень 1965 года ў Галтэбелі і верасень 1969 года ў Ерэване (гл. стар. 223) і міжволі думаеш: «Ну і што?».

Шкала ацэнак аўтабіяграфічнай літаратуры ў сусветным маштабе надзвычай шырокая. Тут сустрэнеш і сцвярджэнне, што «біяграфія — самы паганы і лжывы род літаратуры» (В. Разанаў), і што «біяграфія — цудоўнае мастацтва» (А. Маруа).

Аднак яшчэ ў 1847 годзе Бялінскі, задаючы сабе пытанне аб тым, што родніць вымыслы фантазіі і «строга гістарычнае адлюстраванне таго, што было на самай справе», адказаў: «Як што? — мастацкасць адлюстравання».

Каму многа дадзена...

У такога пісьменніка, як Янка Брыль, не хацелася б бачыць нават такой «драбніцы», як «старадаўнія зводы Домскага сабора», калі гаворка ідзе пра яго скляпенні, купал, пад якім лунала музыка славутага аргана. Не выводжу нейкай тут «палітыкі», але і такія недагляды даюць, відаць, права найаўтарытэтнейшым людзям выводзіць тэорыю аб вымушанасці замены нашых шкарпэтак «наскамі».

Разумею, што кніга «Сёння і памяць» — гэта не проста «ўспамінальная» проза, што ў кнізе ёсць свая прадуманая архітэктоніка, што ёсць у ёй, апроч многага іншага — розуму, ведаў, досціпу, гумару, высокай моўнай культуры,— свой складаны філасофска-ідэйны і музычна-пачуццёвы кантрапункт. І ўсё ж... Прагну яшчэ і ўсё сустрэцца з такімі людзьмі, як тая незабыўная безыменная Маці, Галя, дзед Вячэра, Лёня Жывель, Алесь Руневіч...

І хочацца скончыць зноў жа словамі самога Янкі Брыля, вялікага кнігалюба і жыццялюба:

«Перагортваючы чарговую кніжную старонку, на якой будзе таксама надзейны, добры, прыгожы і разумны змест, падумалася: як жа гэта прыемна!.. Такіх старонак было ўжо вельмі многа. Думаецца, што і будзе іх шмат».

# ГУКАННЕ ВЯСНЫ

Некалі вясну лічылі багіняй, якая пачынае год, прыносіць людзям шчасце, дабрабыт. Як толькі адступалі маразы, жанчыны апраналіся ў самыя прыгожыя строі, выходзілі на пагорак гукаць яе, доўгачаканую, каб хутчэй заспявалі, зазелянелі палеткі, каб год быў ўрадлівы ды шчаслівы.

Цяпер мы ўжо не баімся, што вясна недзе заблукае або забавіцца, калі яе не паклікаць. Яна прыходзіць абавязкова і часам зусім непрыкметна для нас, занятых важнымі справамі. І ўсё ж кожнаму знаёма пачуццё аднаўлення, жаданне падабацца, імкненне да харaства — першыя прыкметы надыходу вясны. Хоць мы і не гукаем яе, як было калісьці, але з павагай да старажытных звычаяў апранаем сваё лепшае адзенне, самае моднае, самае прыгожае,— і тады вясна канчаткова ўступае ў свае правы.

Вясновая мода заўсёды вылучаецца асаблівым вытанчаным харaством, складанымі ўзаемаадносінамі вобразаў, шматлікімі нечаканасцямі. Мастакі-мадэльеры рыхтуюцца да вясны гэтак жа сур'ёзна, як, скажам, студэнты да экзаменаў. І сапраўды, вясна экзаменуе на жыццяздольнасць многія ідэі і прапановы стваральнікаў моды. Уласна кажучы, гэта не вясна, а мы з вамі пад уплывам вясновага настрою прымаем ці не прымаем модныя навінкі.

Што новага прапануе мода на гэту вясну? Даўно знаёмы прамы сілуэт хоць і набыў новыя формы — адзенне зрабілася больш прасторным і доўгім,— але па-ранейшаму застаецца асновай мадэліравання ва ўсіх стылях, асабліва ў мужчынскім асартыменце. У жаночай модзе акрамя прамога вельмі актуальным выглядае сілуэт «Х» — таксама ў новым варыянце: з пашыранымі плячамі, з рукавамі-буфамі, з падкрэсленай і крыху завышанай таліяй і вельмі шырокай і доўгай, у фалды, спадніцай. Цікавыя змены адбыліся з сілуэтам «У». У сучасных строях ён нібы дапоўніўся ўнізе яшчэ адным «трохкутнічкам» з доўгай і шырокай спадніцы, так што атрымалася нешта падобнае на сілуэт «Х» з заніжаным перакрыжаваннем.

У любым сучасным сілуэце назіраем мяккую, падоўжаную лінію плячэй (у канструкцыі гэта дасягаецца шляхам заніжэння пляча, проймы, выкарыстаннем цэльнакроеных рукавоў, масіўных гестак). Дэталі — вялікія трубападобныя ці адкладныя каўняры, засцежкі і гарлавіны асіметрычных форм, каляровыя канты і ўстаўкі паміж рукавамі і станам, палярыны і іншае — яшчэ больш падкрэсліваюць плечавы пояс. Адкуль такая цяга да груваcткіх дэталей? Хтосьці, бадай, здольны ўгледзець тут чарговую грымасу моды. Парадаксальна, але мадэльеры сцвярджаюць, што падкрэсленыя плечы ў сучасных мадэлях надаюць не толькі мужнасці мужчыну (у гэтым якраз няма парадокса), але і жанчыне — жаноцкасці. Жаночае адзенне з пашыранымі плячамі абавязкова дапаўняецца поясам, які падкрэслівае і візуальна робіць яшчэ танейшай тонкую талію, а яна, у сваю чаргу, заўсёды лічылася прыкметай жаноцкасці. Канечне, жанчына невялікага росту ў «элегантным» узросце павінна прыглядзецца да сябе: ці варта фарсіць тонкай таліяй ва ўрон гарманічным прапорцыям. Хутчэй за ўсё, ёй лепш спыніцца на мадэлях класічнага стылю прамых сілуэтаў. А моладзь, што не цураецца эксперыментаў, можа выпрабаваць любую з вастрамодных прапаноў, ці гэта сілуэт, які ўтвараецца ў выніку гладкага аблягання вопраткі пры свабодным нізе і «напоўненых» плячах, ці гэта мадэлі з напускам, нібы перахопленыя поясам на ўзроўні калень.

Да такога адзення патрэбны і адпаведныя матэрыялы: аднатонныя, гладкія, тонкія, з бляскам тканіны. Некаторыя віды адзення — камізэлькі, спадніцы — можна шыць з моднай «рустувай» тканіны, якая па фактуры нагадвае радно. «Руст» у выглядзе сеткі (рэдкае палатно) выкарыстоўваецца як аздоба ў адзенні ўсіх стыляў. Класічныя ж мадэлі шыюць з шарсцяных гладкіх ці ворсавых тканін. Дарэчы, зноў у модзе фланелі, цвіды з малюнкамі ў выглядзе «дыяганалі» і «елачкі» — асабліва гэта датычыць мужчынскага адзення.

Клетка лічыцца класічным малюнкам, бо ніколі не выходзіць з моды. Вось і ў гэтым сезоне мадэльеры прапануюць тканіны ў вялікую клетку з мяккімі пераходамі тонаў для моднага жаночага, мужчынскага і дзіцячага адзення.

Апошнія гады ў публікацыях пра моду можна было сустрэць паведамленні, што ў жаночым адзенні зноў выкарыстоўваюцца тканіны з малюнкамі ў кветкі. Як заўсёды, патрэбны некаторы час, каб асэнсаваць прапанову, успрыняць яе як эталон моды. І вось, відаць, гэтай вясной ідэя знойдзе сваё ўвасабленне ў масавай модзе. Характэрныя асаблівасці модных раслінных матываў: кветкі маюць канкрэтную форму, натуралістычную трактоўку. Яны закампанаваны ў букеты ці пааcобку «раскіданы» па паверхні тканіны. Такія матывы распрацоўваюцца пад дэвізам «любімы сад», а па колеравай гаме, прапорцыях і кампазіцыі малюнкі з кветкамі нагадваюць старажытны габелен: тыя ж прыглушаныя адценні зялёнага, крэмавага, карычневага, тыя ж стужкі, якімі перавіты букеты. Спадніца, нават, штаны (як прапануюць замежныя дызайнеры) з такой тканіны выглядаюць так экстравагантна, што і прыхільнікі авангарднай моды не адразу, відаць, адгукнуцца на гэту прапанову. А вось сукенка, святочная ці для вуліцы, у фальклорным стылі, някепска выглядала б у вытанчаных габеленавых тонах.

Дарэчы, гэтыя фарбы сёння ў модзе. Вядучае месца сярод модных колераў займаюць спалучэнні карычневага і бэжавага, іх адценні, а таксама зялёны, аліўкавы, шэры, сіні. Агульная колеравая гама, як і ўражанне ад малюнкаў тканін, спакойная, гарманічная. Аднак, ва ўрачыстых выпадках дарэчы і кантрастныя камбінацыі чырвонага з белым, белага з чорным. А ў спартыўнай і штодзённай вопратцы цікава і свежа выглядаюць такія нязвыклыя спалучэнні, як шэры — малінавы — бірузовы, аліўкавы — бэжавы — чырвоны, зялёны — аліўкавы — карычневы, цёмна-сіні — хакі — чырвоны. Ружовы і блакітны колеры сустракаюцца ў невялікай колькасці як дэкаратыўныя плямкі. Бліскучы люрэкс — металічная нітка — выкарыстоўваецца ў святочных строях, а на кожны дзень лепш насіць трыкатажнае адзенне натуральных колераў.

Трыкатаж не выходзіць з моды, але вясной трыкатажныя мадэлі набываюць «вясновыя» рысы: мяккасць, празрыстасць. У ручным вязанні перавага аддаецца сеткавым палотнам, ажурнай і рэльефнай вязцы з аднатонных нітак.

Спалучэнні тканіны і трыкатажу такога ж колеру застаюцца ў цэнтры ўвагі мадэльераў: звычайна вязаныя дэталі выкарыстоўваюць як дэкаратыўныя элементы, якія ўзбагачаюць фактуру палатна.

Памятаеце,— каб вясна хутчэй уступіла ў свае правы, яе гукалі, апрануўшыся як на свята. Хай і нам надыход вясны будзе святам, а наша адзенне будзе па-вясноваму прыгожым.



**Алена ЛОСЬ-ЗАЛУЖНАЯ.**
**Малюнкі аўтара.**

# Люстэрка





**Галоўныя рысы мадэлей, якія беларускія мадэльеры прапануюць моладзі на вясну-1986,— святочнасць, практычнасць і экстравагантнасць.**

**Фота Ігара ПАЎЛАВА.**











СПРАВЫ СЯМЕЙНЫЯ

# УСЕ ШЧАСЛІВЫЯ СЕМ'І ПАДОБНЫЯ ?

**На пытанне «Што трэба, каб сям'я была шчаслівай?» розныя людзі адкажуць па-рознаму. Малады чалавек без ваганняў скажа: «Галоўнае — каб было каханне!». Чалавек больш сталага ўзросту, паразважаўшы крыху, заўважыць у задуменні: «Аднаго кахання тут, відаць, мала...»**

**Люба і Анатоль Пракаповічы з Мінска лічаць сваю сям'ю шчаслівай. Рэцэптаў сямейнага шчасця няма, няма і эталона ў такой складанай справе, як сямейныя ўзаемаадносіны. Але спадзяёмся, што завочнае знаёмства з сям'ёй Пракаповічаў усё ж не застанецца незаўважаным, а некаторым, магчыма, дапаможа знайсці адказы на ўласныя пытанні.**

Здаецца, знаёмы мы вельмі даўно і заўсёды мне было добра і ўтульна ў іх гасцінным доме. Цяпер з усмешкай успамінаю даўнейшыя трывогі і хваляванні: як сустрэнуць, ці захочуць расказаць пра сябе?.. Дзесяткі разоў уяўлялася напружаная сітуацыя, калі на парозе нечакана «вырастае» карэспандэнт: устрывожаныя вочы гаспадыні, насцярожаная маўклівасць строгага гаспадара... Аказалася, уся напружанасць бясследна знікла ад нечаканай усмешкі-запрашэння: «Што там няёмкага, вядома ж, заходзьце...»

Дзяцей дома не было. У іх свая «служба» — дзіцячы сад, школа. Глухавата цікаў гадзіннік, пакой усё больш асвятляўся сонцам, а гутарка наша бегла і бегла няспынным ручаінкай, скрынка з сямейнымі фатаграфіямі пераходзіла з рук у рукі.

Гаворачы па шчырасці, першым уражаннем (не ўдалося нават стрымацца) было здзіўленне: як размяшчаюцца ў двух сумежных пакоях двое дарослых і чацвёра дзяцей?

— Цяжка,— уздыхнула Люба,— але што зробіш. Затое мы першыя па чарзе. Напярэдзе — наваселле.

І ўсё ж не месяц, не два мірна і дружна жылі яны ў такіх нялёгкіх умовах — заўсёды нехта блытаецца пад нагамі, а завядуць хлопчыкі гульню — хоць па паветры лятай. З мэтай эканоміі месца Анатоль змайстраваў дочкам ложкі ў два ярусы. Ён жа прыдумаў адкідныя пісьмовыя столікі каля кожнага акна — школьніцам трэба ствараць умовы. Вы можаце запытацца, навошта апісваць складанасці сямейнага побыту, запрашаючы чытачоў зірнуць на ўклад жыцця Пракаповічаў не з параднага боку, а нібыта з чорнага ўвахода?

Гэта, аднак, не выпадковае адступленне. Нярэдка, пажаніўшыся, маладыя — дарэчы, аб гэтым сведчаць і шматлікія пісьмы ў рэдакцыю — жадаюць мець усё адразу. А раптам нейкая перашкода, цяжкасці, неўладкаванасць — адразу кідаюцца ў роспач: «Так жыць не можам, не прывыклі, трэба разводзіцца!» Даўно заўважана: асабліва цэніцца тое, што здабыта ўласнымі рукамі. На чужы рахунак не набудзеш ні шчасця, ні радасці.Ператвараючыся ў ненасытных спажыўцоў, маладыя падчас страчваюць самае дарагое. Нярэдка само сямейнае шчасце блытаюць з забяспечаным і бесклапотным жыццём. А яно, шчасце, магчыма, не толькі ў імкненні заўсёды бачыць побач каханага, адчуваць поўны пяшчоты позірк, але і ў вялікім цярпенні, сумесным пераадоленні цяжкасцей, у ахвяраванні і нават у разлуцы.

...Яны пажаніліся, калі Люба атрымала дыплом аб заканчэнні педагагічнага вучылішча. Адзін пра аднаго ведалі, здаецца, усё да драбніц. Ведала яна і пра той выпадак у басейне, пасля якога ў Анатоля адбылося кровазліццё ў мозг, частковы параліч, ведала і дыягназ-прысуд: «На жаль, не ўсе хваробы вылечваюцца. Як ні горка, але вам давядзецца змірыцца». Прысуд вынес у сваім заключэнні вядомы маскоўскі прафесар. Але Анатоль не зміры́ўся. Ён усё ж загаварыў, устаў, наноў пачаў вучыцца хадзіць. Правай рукой так і не змог узяць аловак, затое не падвяла левая. Мне здаецца, гэты чалавек зрабіў усё для таго, каб слова «інвалід» не пасавала яго парывістай, імклівай натуры.

Так, калісьці гэтыя два пакоі здаваліся палацам, такая-сякая мэбля — цэлым багаццем. Навасельцы навокал абураліся маленькімі кухнямі, сумешчанымі санвузламі, а яны і ўвагі не звярталі на такія дробязі. Галоўнае — яны разам. Здавалася, вось яно — шчасце, зусім побач, і толькі цяпер Люба разумее, як далёка яшчэ было да сапраўднага шчасця. Якой яна была гаспадыняй? Не звычайнай, а наогул нікуды не вартай. Нібыта і гатавала нешта, прыбірала, мыла бялізну, але размеркаваць сямейны бюджэт не ўмела. Ці шмат на дваіх трэба? Аднак ад палучкі да авансу абавязкова пазычала. І злавалася, і лаяла сябе, а зрабіць нічога не магла. На шчасце, усе яе нягоды муж умеў ператварыць у жарт. Узіраючыся ў яго лагодны, спакойны твар, Люба нярэдка думала: ці можна наогул гэтага чалавека вывесці з раўнавагі, прымусіць раззлавацца, накрычаць, нарэшце? Прызвычаіўшыся з маленства да звыклага ў вёсцы больш простага абыходжання, яна доўга не магла прывыкнуць да далікатнасці Анатоля, ёй нават здаваліся дзіўнымі яго паводзіны. «Паказуха! Згуляем вяселле — дзе ўсё дзенецца»,— і такая закрадвалася думка. Але і пасля вяселля Анатоль не змяніўся, па-ранейшаму заставаўся тактоўным, уважлівым да яе. Вось тады і яна пачала прыглядацца да сябе, дакараць за кожнае слова, сказанае не да месца. А колькі кніг перачыталі яны ўдваіх, якія дыскусіі наладжвалі!

Увечары, закончыўшы змену, Анатоль заходзіў на работу да жонкі. Яго не палохалі шум і мітусня дзіцячага сада, ён з задавальненнем гуляў з малымі. Сяброўкі за яго спінай падміргвалі Любе: пара, маўляў, сваіх заводзіць...

Пра дзяцей Люба і Анатоль могуць расказваць бясконца. І як, падрастаючы, спасцігалі свет, і чым хварэлі, і якое слова было сказана першым.

— Ведаеце, якая раней была Люба? — Анатоль хітра прыжмурвае вочы.— Захварэе, бывала, Аксана, трэба ўрача выклікаць, а яна так расхвалюецца, слова сказаць не можа. Стаіць і плача ў тэлефонную трубку.

— Ну і ўспомніў,— рашуча перапыняе яго жонка,— пра сябе дык маўчыць. Калі нарадзіўся ў нас Алёша, акушэрка дамоў пазваніла. Прыходзіць у палату, такая радасная, і кажа: «Першы раз мне так горача ад усяго сэрца дзякавалі, а дзіцятка ж у вас — чацвёртае...»

Наперабой з усмешкай згадваюць яны далёкае і блізкае, гора і радасці, маленькія і вялікія падзеі, неаддзельныя ад гісторыі іх сям'і, яе шчасця. І ўсё ж, як рашыліся яны на такую вялікую гарадскую сям'ю?

Аксана і Волечка былі школьніцамі, калі захварэла маці. Ад іх не ўтойвалі, што Любе неабходна аперацыя. Нават у вячэрніх шумных гульнях дзяцей адчувалася нейкая нацягнутасць. Назіраючы за дзяўчынкамі, Люба згадвала міжволі свае трывогі, бяссонныя ночы, хваляванні, калі вяла іх першы раз у школу. Колькі пражыта!.. І ўсё ж зноў і зноў усплывалі ў памяці словы старога вопытнага прафесара: «Лічу, даражэнькая, што не скальпель вашаму арганізму патрэбен,

а ўзрушэнне, калі хочаце, амаладжэнне. А сястрычкам — брацік».

Ніколі не думала Люба, што такая маленькая істота наладзіць у доме сапраўдны пярэпалах. Патрымаць Дзяніску на руках выстройвалася цэлая чарга. Аксана па першаму слову маці ішла на кухню варыць кашу для брацiка. Бабуля з дзядулем сюсюкалі наперабой і проста на вачах маладзелі: гэта ж трэба, адзіны ўнук, прадаўжальнік фаміліі! А Люба ўсё часцей лавіла сябе на думцы, што не такім, як хацелася б, вырастае сын. Ці будзе ён гатовы, як бацька, у цяжкую хвіліну падставіць плячо, не спадзеючыся, што ўсё складанае і непрыемнае ў жыцці за яго зробяць іншыя?..

Карапуз Алёшка паставіў усё на свае месцы, адразу пераключыўшы на сябе частку ўвагі сваякоў. Дзяніс таксама быў узрадаваны з'яўленню брата. Ахвотна падаваў маці соскі, пялёнкі. Калі браты вярталіся з прагулкі, старэйшы, распрануўшыся першым, спяшаўся разгарнуць коўдрачку, з дзелавым выглядам мацаў ручкі і ножкі брата і радасна рапартаваў: «Усё цёпленькае!»

Не заўважылі, як у старэйшых дачок з'явіліся дарослыя заняткі і клопаты. Жвавая, непаседлівая Вольга захапілася кулінарыяй: калі яна на кухні, іншым там рабіць няма чаго. І прыгатуе, і стол накрые. А возьмецца бліны пячы — абавязкова на дзвюх скавародках, інакш нецікава. Разоў дзесяць за дзень можа схадзіць у магазін, толькі папрасі, ды яшчэ дазволь хлопчыкаў з сабой захапіць для самавітасці. Спакойная і разважлівая Аксана — рукадзельніца. Уласна кажучы, гэта для яе набылі швейную машынку. Гадзінамі можа чараваць яна з нажніцамі над выкрайкамі, а потым глядзіш — і гатова сукеначка або кофтачка.

Зараз Аксана чалавек дарослы і амаль самастойны, студэнтка універсітэта. Збылася мара — нарэшце, ушчыльную займаецца любімай матэматыкай. Вольга, як і мама некалі, марыць пра педагагічны інстытут.

...Навука сямейная — самая, відаць, старажытная. Праходзяць стагоддзі, мала чаго ў ёй змяняючы. Хочаш, каб выраслі выхаванымі дзеці,— аддавай ім больш увагі, далучай да працы. Хочаш, каб былі ў сям'і мір і згода,— першай імкніся да гэтага. Аднак усё гэта разумееш не адразу. Гады праходзяць, перш чым адкрыем для сябе гэтыя старыя ісціны. Люба, да прыкладу, мяркуе, што калі кіравацца імі ўмела, сямейны карабель абміне ўсе рыфы.

— Няўжо так ніколі і не сварыцеся? — пытаюся.

— Пры дзецях ніколі,— ківае яна галавой.— Трэба ведаць Анатоля, з ім жа нельга пасварыцца. Здаецца, і прычына ёсць, каб выказаць сваю незадаволенасць, глядзіш, а яго і след прастыў — адзін або з хлопчыкамі пайшоў на трэніроўку. Дадому вяртаецца стомлены, але задаволены. Пагляджу на яго, насупіўшы бровы, а ён усміхнецца ласкава, пажартуе: «Ну што, старэнькая, зачакалася?», я і забудуся, што сказаць хацела. А калі, бывае, «бура» ўсё ж узнімаецца, ён выслухае мяне, як самы прыкладны вучань, потым пачне прыгаворваць, рассякаючы рукой паветра: «Так, Люба, так, дай яму добранька. Я ж яго ведаю!..» Вось і сварыся на яго пасля гэтага...

За гады сямейнага жыцця зрабіла для сябе Люба маленькае адкрыццё: лепш мужа дзесяць разоў пахваліць, чым адзін раз палаяць. Гордасць, самаўпэўненасць, пэўная доля славалюбства — неад'емныя якасці мужчынскага характару. Трэба быць умелай натхніцелькай, каб накіроўваць іх у патрэбнае рэчышча, ашчаджаючы пачуццё чалавечай годнасці свайго спадарожніка. Адсюль і парады жанчынам: быць больш мудрымі, дальнабачнымі, цярплівымі.

Сваё сённяшняе становішча ў сям'і Люба вызначае вельмі трапна: як салдат на вайне. Бо пры ўсёй дапамозе мужа, дачок ёй усё ж цяжка — вялікая сям'я, вялікія клопаты. Але памятае Люба свой галоўны сакрэт: усё ў доме ад яе залежыць, на ёй трымаецца. І як бы ні было цяжка, расслабляцца сабе не дазваляе. Не бачылі дома ніколі яе апушчаных рук, заплаканых вачэй, пахмурнага твару. Настрой усіх членаў сям'і залежыць ад маці. Будзе яна ўпэўненая, спакойная, вясёлая — будзе і ў доме парадак.

Псіхалагічны камфорт, душэўны настрой сям'і ствараюцца дзякуючы яе ўмелай рэжысуры. Зрабіць жыццё ў сям'і прыгожым, не саромецца гаварыць адзін аднаму ласкавыя словы, выказваць пяшчоту, заклапочанасць і ўвагу — гэтаму яна вучыць і сваіх дзяцей. Эмацыянальная памяць больш беражлівая, чым памяць розуму. Пройдуць гады, але назаўсёды застануцца ў сэрцы мілыя ўсмешкі, цёплыя інтанацыі, маленькія сюрпрызы. Дрэнна, калі каханне схавана так далёка — не дастукацца, не дазвацца, нічым не выяўляецца знешне. Відаць, тады і пасяляецца ў сям'і шэрасць і нудота, пазбавіцца ад якіх не так лёгка.

...А яшчэ памятаю, як яны пераязджалі ў новую чатырохпакаёвую кватэру, якую выдзелілі Анатолю на вытворчым аб'яднанні Мінмедпрэпаратаў. Дарэчы, на вытворчасці з найлепшага боку ахарактарызавалі камуніста Пракаповіча, перадавіка вытворчасці, пераможцу сацыялістычнага спаборніцтва. Што здзівіла, дык гэта шматлікія грамадскія даручэнні мнагадзетнаму бацьку. Ён і старшыня цэхавай групы народнага кантролю, і член савета прафілактыкі, таварыскага суда, і актыўны дружыннік. Яго фатаграфія — на Дошцы гонару, за вялікія поспехі ў працы Анатоль Пракаповіч быў узнагароджаны Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

А перасяленне, і сапраўды, было грандыёзнае. Суседзі са старога пад'езда ўключыліся ў пагрузку-разгрузку нехітрага сямейнага скарбу. Потым мы ўсе разам сядзелі за доўгім сталом, пазіралі на стомленых, але прыкметна памаладзелых гаспадароў, пілі чай і гаварылі аб тым, што ў новай хаце і жыць весялей, як і належыць на наваселлі. А гаспадары, не хаваючы радасці, па-дзіцячы шчыра захапляліся новым жыллём: гэта ж трэба, дзве лоджыі — сапраўднае раздолле! Анатоль абмяркоўваў з сынамі, як лепш пераабсталяваць прыхожую... Ён ужо ўяўляў яе пераабсталяванай у спартыўную міні-залу: шведская сценка, розныя прыстасаванні («Хлапчукі падрастаюць, трэба рабіць з іх мужчын!»).

Хто з жанатых людзей лічыць сябе дылетантам у сямейным жыцці? На такое пытанне нават пакрыўдзіцца могуць: у гэтай справе ўсе знатакі. А вось я захоўваю адрасы шчаслівых сем'яў, як скарбонку бясцэннага вопыту: зазірнеш — і ёсць чаму павучыцца. Гэтаму не сорамна вучыцца ўсё жыццё.

**Святлана БАРАННІКАВА.**

**Фота Уладзіміра ЗІНІНА. (Магілёў.)**



## Галіна БУЛЫКА



Што камень халодны
і мёртвы, не верце.
Гавораць аб чэрствых:
«Каменныя сэрцы»,—
Ды ці камяні нам
у тым вінаваціць.

Хоць сонца іх паліць,
Хоць вецер іх сушыць,
Хоць люты мароз
напалам пераломіць,
Яны маладыя, як нашыя душы
У часу на зломе,
У лёсу на зломе.

### *Магазін кветак у Таліне*

Як чамадан
з падвойным дном —
Кантрабандысцкую прыладу —
Унеслі ў даўнасць новы дом,
Твар з двух фасадаў.

Ён гарманічна перамог
Кварталаў еднасць,
стыляў сцятасць,
Узняў эклектыку эпох
Да двух фасадаў.

Схаваўся навамодны фас
Пад сціплай маскай успаміну,
І, між фасадаў,
Зрухам фаз
Час цень пакінуў.

Дзве паралельныя сцяны
Сціскаюць згубленую вечнасць.
Як ужываюцца яны,
Кантрастаў плечы?

«Мы аб'яднаемся удвух,—
Лягчэй цяжар прасторы стане.
Адна нясе канструкцый пук,
Другая — памяць...»

Будынак кветак малады,
Хай дораць кветкі
людзям радасць!
Цюльпан. Пялёсткаў два рады,
Як два фасады.

□ □ □

Глядзі:
Камяні маладыя на зломе.
На мармуру зломе,
На зломе граніту,
На гладкіх пад ногі
пасцеленых
плітах
Гарэзліва зрэнкі чарнеюць слюдою.

Яны маладыя — шчака ружавее
Вільготна на зломе
ружовага шпату.
Пад мохам напятым,
Пад часам напятым
Язычніцкі вечны
граніт не старэе.

Пад скураю шэрай
адценняў
багацце.

### *Філіграннасць*

Лілася медзь танютка і дрыготка,
Іскрылася ў рассеяным святле,
Астыла і застыла мяккім дротам,
Пакуль прамень на чорным
кноце тлеў.

Ён з прыцемку выхопліваў цяжкога
Рух чулых пальцаў нерухомых рук.
І асвятляў бязгучны, паступовы
У цеснаце асновы дроту рух.

Ён плыў праз скані палатно густое
У гулкі ўздым, дзе купал
ледзь бялеў.
Былі карункі на высокай столі
Менш за далоні майстра
На стале...

### *Кілім*

Без мудрагелістасці лішняй,
Да ніці ніць — бы соты ў вуллі,
У час далёкі, час калішні
Пляла кілім мая бабуля.

Прамень, што ранкам
бег па хаце,
Дачка сустрэла першым словам —
Данінай шчэбету дзіцяці
Світанак выткаўся ружовы.

Спяваў натхнёна дрозд у лесе,
Звінелі жаўрукі над полем —
Ад тых птушыных
светлых песень
Пачаў вытокі белы колер.

Абрус нябёс здзіўляў блакітам —
Блакітам расцвіла тканіна,
І красавала буйна жыта
На лёну сплеценых сцяблінках.

Пунсовы штрых —
агонь спавіты,
Клубок, заблытаны, як рэбус,
А над усім асновай vita
Чарнела вытканая глеба.

Вясёлкай граў арнамент сціплы —
Яго не сцёрла часу постаць,
І фарбаў музыка не сціхла
Ва ўзоры беларускім простым.

І будуць яркімі такімі
Заўжды вясёлак перапевы,
Бо на бабуліным кіліме
Цвіце жыцця святое дрэва.






# ЗІМА З ВЯСНОЮ СУСТРАКАЮЦЦА...

Першыя подыхі вясны... Паблісквае і цямнее пад сонцам снег, цішыня парушаецца ручаёвым гаманам і гукамі капяжу, а на лясных прагалінах блакітным дыванам расцвітаюць сціплыя пралескі... Менавіта ў гэты час, на стыку дзвюх пораў года нарадзілася народнае свята, імя якому — провады зімы.

...Святочная плошча адразу закручвае вас у людскі калаўрот: адны лепяць снегавых баб, другія катаюцца на санках, трэція вандруюць па гандлёвых радах... Шуміць, віруе зімовы кірмаш. Пакупнікоў вабяць салодкія пернікі, горы залацістых бліноў, побач з якімі пыхкае парай самавар. У цэнтры плошчы гучаць фанфары, пад велічныя песні ў суправаджэнні асілкаў-месяцаў з'яўляецца красуня Зіма. Свята пачынаецца!..

Старадаўняя беларуская «сырная нядзеля» (менавіта так называлася раней масленіца на Беларусі) пад уплывам сучасных святаў ператварылася з сямейна-бытавога ў грамадскае свята. Галоўным зместам свята стала ўшанаванне працаўнікоў (на вёсцы — тых, хто добра падрыхтаваўся да веснавых работ), канцэрты па заяўках перадавікоў. Зіма нібы перадае вясне працоўную эстафету...

На жаль, у адноўленага свята ёсць не толькі набыткі, шмат што яно і згубіла. У сучасных провадах зімы мала выкарыстоўваюцца народныя гульні і забавы. Засталіся толькі катанне на тройках, перацягванне каната, прызавы слуп і яшчэ некаторыя спартыўныя спаборніцтвы, у якіх прымае ўдзел пераважна моладзь. Большасць жа ўдзельнікаў свята застаюцца пасіўнымі назіральнікамі, пра іх арганізатары не паклапаціліся. Таму не дзіва, што ў многіх раёнах свята працягваецца ўсяго паўтары-дзве гадзіны: скончацца канцэрты, гульні, і людзі разыходзяцца па хатах...

Відаць, трэба звярнуцца да народных традыцый, аднавіць фальклорна-этнаграфічны каларыт свята.

□ **Н а з д ы м к а х: забавы, рытуалы і гульні, якія можна выкарыстаць у правядзенні свята развітання з зімою.**

**Фота Юрыя ІВАНОВА, Ігара ЗОЦІНА і Аркадзя МІКАЛАЕВА.**





У некаторых раёнах Міншчыны яркай старонкай свята становіцца катанне з гары. І малыя, і маладыя, і сталыя людзі імчацца па ледзяной дарожцы: хто ў кадушцы, у рэшаце, ці на лаве, а хто гуртам у вялікіх санях, найбольш вынаходлівыя і ўдалыя атрымліваюць прызы... Старадаўняя зімовая беларуская гульня — перацягванне каната праз снегавую сцяну адрадзілася ў Міёрах і Лагойску. Уявіце сабе дзве спаборнічаючыя групы людзей, якія трапілі ў становішча, дзе трэба не ляпнуцца тварам у снегавую сцяну... Подобныя гульні даюць магчымасць удзельнічаць у свяце ўсім, хто жадае.

Старажытны беларускі звычай хадзіць да маладажонаў з віншаваннем і за пачастункам у змененым выглядзе атрымаў сваё другое нараджэнне ў Жыткавічах і Мінску: калі маладыя пары робяць ганаровы праезд, іх спыняюць прадстаўнікі прадпрыемстваў, дзе працуюць маладыя, вітаюць з першай вясной сумеснага жыцця. Маладых чакае і спуск на санях з ледзяной гары, на гэтым шляху ім трэба ухапіць падкову «шчасця»... Завяршаецца рытуал тым, што маладажоны запальваюць агонь вясны — сімвал цеплыні і кахання.

На свяце провадаў зімы ў Мінску выпускнік нашага інстытута культуры С. Дамашэвіч з поспехам праводзіць карагоды. Вакол веснавога вогнішча наладжваюцца тэатралізаваныя прадстаўленні, тут спаборнічаюць у выкананні песень і танцаў.

У некаторых раёнах рэспублікі эпізодам свята стала шэсце герояў беларускіх казак. Найбольш удаецца яно там, дзе казачныя персанажы не проста праязджаюць па плошчы, а ўступаюць у размовы з гледачамі, спяваюць жартоўныя песні і такім чынам запрашаюць да ўдзелу ў забавах. Трэба бачыць, з якім задавальненнем людзі гуляюць разам з Несцеркам, Паўлінкаю, Дзедам Марозам...

У Глыбокім і Пінску, Крычаве і Слуцку адным з элементаў свята стаў штурм снежнай крэпасці, дзе знаходзіцца дзежка з зернем, якую зіма схавала ад вясны. Гэтая дзяжа з адборным зернем ва ўрачыстай абстаноўцы ўручаецца старшыні перадавога калгаса. Гульня дазваляе яшчэ раз засяродзіць увагу ўдзельнікаў на галоўнай веснавой падзеі — падрыхтоўцы да сяўбы. Такія моманты свята робяць яго па-сапраўднаму масавым, народным.

Тут трэба зазначыць, што не заўсёды варта запазычваць абрады і рытуалы. Лепей беражліва выкарыстаць мясцовыя звычаі і традыцыі. Тады свята набывае непаўторнасць, адметны каларыт.

...На святочнай плошчы працягваюцца веснавыя забавы: імклівы конскі тупат запрашае на спаборніцтвы наезнікаў, ляцяць уверх-уніз арэлі, вакол вогнішча віруе-пераліваецца танцавальны баль, які вядуць Сакавік, Красавік і Май.

Покліч вясны абуджае зямлю. Вясна з зімою сустрэліся, мы з зімою — развіталіся. І дзень гэты доўга будзе помніцца, дзякуючы народнаму святу.

**Пётр ГУД,**
**старшы выкладчык**
**Мінскага інстытута культуры.**









## ● КАВАРСТВА ЛЯСНОГА «ЛЕКАРА»

Гэта была цяжкая пагоня. А потым — паядынак.

Чалавек з дубальтоўкай і біноклем своечасова заўважыў шэры цень.

— Вецер у твар. Шанцуе,— адзначыў ён. Падрыхтаваўшыся да фінішу свайго лыжнага марафона, паляўнічы... закрычаў. Так, як крычыць ад болю, бяссілля і жаху падранены заяц.

Воўк паверыў. Па глыбокім снезе заспяшаўся да лёгкай здабычы. Але яго сустрэў трапны залп.

А хутка ў вагоне поезда, які набліжаўся да Брэста, паляўнічы пахваліўся трафеем. Спадарожнікі прыйшлі ў захапленне. Цікавіліся:

— Прадасі футра? На шапку.

— Якая належыць прэмія?

Але ніхто не спытаў:

— А рызыка была? Адзін жа паляваў!

Быццам перамога чалавека над такім зверам справа будзённая. Звер, між тым, не абы-які небяспечны драпежнік.

А сапраўды:

— Як цяпер ставімся да ваўка? Праяўляем у лесе разумную асцярожнасць ці пераканаsuccessfulны: ён сам нас баіцца і ніколі не нападзе першым?

Запытайцеся ў сваіх знаёмых, і хутчэй за ўсё вам з паблажлівай усмешкай адкажуць:

— Бедныя шэрыя! Ды іх амаль зусім і не засталося. Перапалоханых, адцяснёных у запаведнікі, іх варта пашкадаваць.

А вось што гавораць факты.

Жыхары некалькіх вёсак Столінскага раёна мінулай восенню адчувалі сябе як у жудаснай асадзе. Недзе зусім непадалёку бадзяўся раз'юшаны звер. Няўлоўны, жорсткі, і нахабны.

За адны суткі восем чалавек, зведаўшы моц яго іклаў, былі дастаўлены ў бальніцу.

Воўк учыніў крывавую оргію не ад голаду: раўнадушна прабягаў ён міма перапалоханай хатняй жывёлы, птушкі. Падпільноўваў свае ахвяры і ў лесе, і ля вясковых аколіц. Прычым кідаўся выключна на тых, хто слабейшы: на жанчын і дзяцей.

Амаль адначасова, але ўжо ў Петрыкаўскім раёне лютаваў другі яго сабрат.

Вось як усё адбылося.

У выхадны дзень жыхар вёскі Міхедавічы П. Ф. Мішчук накіраваўся ў бор.

— Адпачыць, прайсціся, грыбоў пашукаць.

І калі кошык быў амаль поўны, з густога хмызняку выскачыў маццёры драпежнік. Паваліў грыбніка з ног, цягнуўся ікламі да горла. Добра, што ў кошыку ляжаў нож. Нож выратаваў Мішчуку жыццё...

## ● КРЫВАЖЭРНЫ «РЭГУЛЯТАР»

Можна назваць шмат імён людзей, якім давялося пераканацца: лес — не парк культуры і адпачынку, а воўк не толькі ў казках і прымаўках люты.

Нават праз гады ў тых, хто перажыў сустрэчу з ім, язык не паварочваецца пагадзіцца:

— Так, дарэмна продка сабакі зрабілі пужалам для дзяцей. Ён такі сімпатычны! Няхай сабе жыве на прыволлі.

Такую думку падзяляюць сёння многія, хто называе сябе сябрам прыроды.

Менавіта ім я адрасую словы старшага паляўнічага Міністэрства лясной гаспадаркі БССР, кандыдата біялагічных навук Валянціна Барысавіча Вадкоўскага:

— У Беларусі 4—4,5 тысячы ваўкоў. Гэта ўжо занадта. Неабходна знішчаць штогод да 3,5 тысячы звяроў.

Неабходна!

А колькі знішчаецца?

— За ўвесь восемдзесят пяты — каля 2 тысяч.

Зусім не вышэйшая матэматыка, а просты арыфметычны падлік і — вывад:

— Драпежнік наступае з хуткасцю паўтары тысячы асобін у год.

Такое рэальнае становішча спраў. Аб якім мы нават не здагадваемся.

Затое мы амаль што пераканаsuccessfulны:

— Воўк — натуральны і выдатны выбракоўшчык лясной жыўнасці. Санітар.

Ваўка палюбілі. І за гэта замілаванне «іклыстым братам меншым» даводзіцца плаціць дарагой цаной. І цана тая хутка расце.

— Пашкадуй звера! — яшчэ нядаўна гаварылі паляўнічаму тыя, хто цяпер схапіўся за галаву і заклікае чалавека з ружжом:

— Бі яго! На мушку крыважэрнага!

Заклік разглядаць ваўка як высакароднага «санітарнага работніка гушчароў» прызнаны памылковым. Пазнавата, але ўсё ж прызнаны.

Цэнтральны савет ваенна-паляўнічага таварыства, напрыклад, аб'явіў спецыяльны конкурс. Прызы, гонар таму, хто знішчыць большую колькасць ваўкоў.

Дарэчы, ва ўмовах конкурсу ёсць радок, над якім трэба сур'ёзна падумаць. Вось ён:

«Паўсюдна барацьба з ваўкамі звялася да мінімуму. Значна звузілася кола ваўкароў, страчваюцца навыкі складанага палявання».

Паўтара дзесяцігоддзя назад любы юннат цвёрда мог і лічыў сваім абавязкам пры выпадку адчаканіць:

— Нам не хапае ваўкоў. Будзе іх больш — не будуць хварэць спешчаныя, заплыўшыя тлушчам капытныя, а таксама зайцы.

І хітры шэры, сезонамі не сустракаючы на сваім шляху чырвоных сцяжкоў, кінуўся «дапамагаць» прыродзе. Ён без асаблівых перашкод «лячыў» ад хвароб.



□ **Воўк заўсёды стараецца не глядзець у вочы чалавеку...**




І толькі адным сродкам — ікламі.

А тым часам мы працягвалі спадзявацца:

— Ну што той воўк з'есць. Які-небудзь хворы зайчык для яго — цэлы баль.

Гаварылася такое? Гаварылася. Было. Але вось слова ўзяла статыстыка, якая не ведае эмоцый, і громам прагучала:

— Трыццаці мільёнаў рублёў у год дасягаюць страты ад разбою ваўкоў па краіне. Прычым знішчае драпежнік не хворых лясных жывёлін, а як правіла — здаровы моцны маладняк.

Вось вам і «лекар»!

## ● КАЛМАТЫ БРАКАНЬЕР

Цікава ведаць: ці існуе праблема ваўка ў запаведніку, дзе чалавек стараецца не ўмешвацца ў натуральны ход лясных падзей?

Я спытаўся аб гэтым у спецыялістаў Бярэзінскага запаведніка, і яны адказалі:

— Яшчэ як існуе!

У свой час прышлыя і мясцовыя «санітары» вельмі энергічна ўзяліся за «рэгуляцыю» тутэйшай жыўнасці. Усе карты вучоных зблыталі. Давялося людзям успомніць пра зброю.



□ **Драпежнікі падкрадаюцца да вёскі вельмі асцярожна. Ці паспеюць стаць на іх шляху мясцовыя паляўнічыя!**

Кожны год у вярхоўі Бярэзіны паляўнічыя адстрэльваюць 20—25 ваўкоў. Прырода ад гэтага толькі выйграе: не парушаецца яе гармонія.

Тут строга ахоўваецца і можа не баяцца кулі па сутнасці толькі адзін іклясты звер — той, што знаходзіцца ў вальеры. Для паказу турыстам.

Так, сёння паўсюдна няма сэнсу ахоўваць і шанаваць драпежнікаў, якія размнажаюцца ледзь не хутчэй за гарадскіх галубоў. Гэта вам не мядзведзі. Дарэчы, усяго 80 касалапых ласуноў засталося ў рэспубліцы.

Вось каму сапраўды патрэбны клопат і ўвага.

— Ніколі мішку на сваім участку не бачыў. А наконт шэрых... Адразу нават успомніць цяжка, колькі іх здабыў.



Гэта словы патомнага лесніка, старшыні Дзяржынскага паляўнічага калектыву Аляксандра Антонавіча Лаўрыновіча.

Ён жыве на кардоне, які абсталяваў яшчэ яго дзед.

Там мы і пазнаёміліся.

Сядзелі за самаварам пасля абходу «квадратаў» і ўспаміналі ўбачанае.

Аляксандр Антонавіч раптам прапанаваў:

— Ваўкі цікавяць. Днямі я аднаго ўпаляваў. Магу скуру паказаць.

І паказаў.

Па выгляду звер быў за паўцэнтнера вагой. Адкормлены, мацёры. Ен разбойнічаў у наваколлі Мінска.

— Не апошні? — пытаюся, мацаючы жамчужна-шэрае футра.

— Дзе там. Іх усё больш становіцца.

Чаму?

Таму што звер ніколі не «скардзіцца» на адсутнасць апетыту, які лёгка можа задаволіць: дзікіх і хатніх жывёл хапае. Гэта — па-першае. Па-другое, таму што расце ў наваколлі гарадоў колькасць ям з харчовымі рэштамі. І, па-трэцяе, калі ў паляванні са сцяжкамі наш малады паляўнічы яшчэ трохі разбіраецца, то пра «воўчую пастку» ці «саянскую высечку» ведае выключна па чутках. Добрых ваўкароў зараз па пальцах можна пералічыць.

Настаў час высветліць, хто ж ён такі — «добры ваўкар».

— Той, у каго на рахунку не менш дзесяці вельмі асцярожных і бязлітасных драпежнікаў.

Ёсць сярод гэтай катэгорыі паляўнічых свае рэкардсмены?

Брыгада ваўкароў С. Малышава, напрыклад, за 13 гадоў здабыла на Віцебшчыне 314 драпежнікаў.

### ● ЯК ПОМСЦІЦЬ МУХТАР

Сабака — з таго ж сямейства, што і воўк. Але ён сам не палюе. Яго корміць чалавек.

Ісціны, якія той-сёй з нас часам забывае. Скажам, пры перасяленні з вёскі ў горад. Або ў канцы дачнага сезона. Часта ў такіх выпадках прымаецца «лагічнае» рашэнне:

— Узяць з сабой сабаку ніяк немагчыма. Аддаць няма каму. Прыстрэліць? Варварства, жывадзёрства! Значыць, трэба завесці сабаку як мага далей у лес. І там пакінуць. Пракорміцца.

І так робяць. І суцяшаюць пры гэтым дзяцей: інстынкт заклікае звяроў паклапаціцца аб патомстве.

У выніку з'яўляецца новы небяспечны драпежнік.

Воўка-сабакі — самыя, бадай, небяспечныя драпежнікі нашых лясоў. І вось чаму. Нават шакал, не гаворачы ўжо пра чыстакроўнага ваўка, не здольны на тое, што можа ўчыніць воўка-сабака.

Здалёк яго лёгка можна зблытаць з якім-небудзь бадзяжным Барбосам ці Жучкай. Аднак менавіта ён часцей за ўсё і нападае на чалавека.

— Традыцыйных сцяжкоў воўка-сабакі не баяцца. Чалавека — таксама. А нораў маюць люты,— расказвае начальнік аддзела паляўнічай гаспадаркі Мінлясгаса БССР Анатоль Анатольевіч Прыхач.— У нашым міністэрстве прынята рашэнне стымуляваць працу ваўкароў. За кожнага знішчанага драпежніка цяпер выдаюцца прэміі, бясплатныя ліцэнзіі на дзіка або лася.

Меры, што й казаць,— надзвычайныя. Але няма чаго рабіць — трэба расплачвацца.

За няўдзячнасць, нават — скажам прама — здраду сам сабака рэдка помсціць чалавеку. Затое жорстка помсціць яго патомства, якое стала дзікім не па сваёй волі.

**Валерый ЛАПІН.**

□ **З борта верталёта паляўнічыя заўважылі, як ваўкі гоняць статак. Неўзабаве шэрыя разбойнікі самі пачнуць шукаць паратунку.**

**Фота А. САБАДАША і Ф. РЭЎЗІНА.**





## УВАГА! ВЫНІКІ ВІКТАРЫНЫ

## «НАШ РОДНЫ КРАЙ»

Журы ўважліва разгледзела дасланыя адказы на заданні ўсіх трох тураў віктарыны. Большасць удзельнікаў прыслала правільныя і змястоўныя адказы, нярэдка прыгожа аформленыя ў выглядзе альбомаў з ілюстрацыямі. Віктарына паказала, што нашы чытачы неабыякавыя да гісторыі роднага краю, вывучаюць і шануюць духоўную спадчыну народа, трымаюць руку на пульсе грамадскага, культурнага і спартыўнага жыцця рэспублікі.

Пераможцам віктарыны «Наш родны край» стаў чытач з вёскі Бажкі Ляхавіцкага раёна **Віталь Андрэевіч СВІСТУНОВІЧ**, які даў лаканічныя і кампетэнтныя адказы на ўсе пытанні і набраў найбольшую колькасць балаў — 21.

Другое месца занялі:

**БАРЫСЮК Уладзімір Уладзіміравіч** (г. Брэст)— 20,5 бала;

**КАШЭТА Ванда і Аляксандр** (Шчучынскі раён) — 20,5 бала;

**ЖАБРУН В. І.** (Бярозаўскі раён) — 20,0 балаў.

Трэцяе месца падзялілі:

**РЭУТ Мікалай Іванавіч** (г. Салігорск) — 19 балаў;

**ПРЫЗ Валерый Мікалаевіч** (г. Брэст) — 18,5 бала;

**ГАЛЯК Ірына Палікарпаўна** (Іванаўскі раён) — 18,5 бала.

Усе яны атрымаюць прызы рэдакцыі.

Журы палічыла мэтазгодным адзначыць спецыяльнымі прэміямі наступных удзельнікаў віктарыны:

**МАРЫГАНАВА Віктара Міхайлавіча** (г. Віцебск, 19 балаў) — за лепшае мастацкае афармленне адказаў;

**сям'ю САСНОЎСКІХ** (г. Магілёў, 14 балаў) — за лепшы адказ на адно пытанне;

**БАДЗЯЙЛУ Міхаіла Лук'янавіча** (Іркуцкая вобласць, 9 балаў) — удзельніка віктарыны, пісьмо якога пераадолела «марафонскую» адлегласць на шляху да рэдакцыі.

**Запрашаем да ўдзелу ў наступных конкурсах і віктарынах «Беларусі»! Чакаем вашых прапаноў і новых задумак наконт іх тэматыкі і арганізацыі.**

## АДКАЗЫ НА ЗАДАННІ ТРЭЦЯГА ТУРА ВІКТАРЫНЫ

1. Заснавальнік беларускага кнігадрукавання Францыск Скарына надрукаваў у Празе ў 1517—19 гадах 23 кнігі Біблії, пасля прадоўжыў выдавецкую справу ў Вільні.

2. На здымку — Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, пабудаваная паміж 1152—1161 гг. дойлідам Іаанам як цэнтральны храм Ефрасіннеўскага манастыра.

3. Прыведзеныя радкі належаць Максіму Багдановічу і гаворыцца ў іх аб адзіным прыжыццёвым зборніку вершаў паэта «Вянок», які быў выдадзены ў 1913 г. у Вільні ў друкарні Марціна Кухты.

4. На тэрыторыі Беларускай ССР размешчаны Белавежская дзяржаўная запаведна-паляўнічая гаспадарка, Бярэзінскі дзяржаўны біясферны запаведнік і Прыпяцкі дзяржаўны ландшафтна-гідралагічны запаведнік.

5. Паводле твораў народнага пісьменніка БССР, Героя Сацыялістычнай Працы Васіля Быкава пастаўлены кінафільмы: «Трэцяя ракета» (1966), «Пастка» (1966), «Альпійская балада» (1966), «Воўчая зграя» (1975), «Дажыць да світання» (1975), «Абеліск» (1977), «Узыходжанне» (1977), «Фруза» (1983), здымаецца фільм «Знак бяды».

6. 14 верасня 1920 года, у дзень адкрыцця Беларускага дзяржаўнага тэатра (з 1944 г. тэатр імя Янкі Купалы), адбылася прэм'ера спектакля «Рысь», пастаўленага паводле аповесці Э. Ажэшкі «У зімовы вечар» першым мастацкім кіраўніком тэатра Фларыянам Ждановічам.

7. Міжнародная сустрэча прыхільнікаў міру пад дэвізам «Няхай ніколі не паўторыцца трагедыя Хатыні, Лідзіц, Арадура, Хірасімы, Сангмі» адбылася ў Мінску 11—12 ліпеня 1972 года.

СПОРТ



Нават у Спорткамітэце БССР вам не назавуць з дакладнасцю агульную працягласць лыжных трас рэспублікі, якія пачалі ўжо плавіцца пад сакавіцкім сонцам. Назваць дакладныя лічбы сапраўды немагчыма, таму што каля пяці мільёнаў беларускіх фізкультурнікаў выходзілі зімой на старты розных кросаў, спартакіяд, святаў здароўя, трэніраваліся індывідуальна. І калі кожны здолеў пракласці хаця б адзін «свой» кіламетр лыжні (а што гэта так, у нас няма ніякіх сумненняў), то ў суме атрымаецца сапраўды касмічная адлегласць.

Мінулы зімовы спартыўны сезон — гэта, безумоўна, не толькі лыжы, а яшчэ і біятлон, скачкі з трампліна, канькі, саперніцтва каманд рыбаловаў-падлёднікаў, лёгкаатлетычныя кросы па іскрыстым снезе, заплывы «маржоў»...

У якую секцыю пайсці? Як актыўна адпачыць у нядзелю? Такія пытанні не ўзнікалі ў жыхароў Барысава і Магілёва, Бабруйска і Слуцка,

# НАВЫПЕРАДКІ З МЯЦЕЛІЦАЙ

Стоўбцаў і Брэста. Там спорткамітэты ўзялі за правіла яшчэ з восені правяраць стан хакейных пляцовак, асвятленне лыжных трас, наяўнасць спортінвентару ў пунктах пракату.

А ў Заводскім раёне Мінска напярэдадні навагодніх маразоў быў пракладзены «праспект здароўя». Паўтара кіламетра даўжынёй, з дзевяццю ўнікальнымі комплексамі-станцыямі. На кожнай станцыі — да дзесятка універсальных трэнажораў, разлічаных на тое, каб іх можна было выкарыстоўваць круглы год — і ўвосень, і ўлетку. Побач — лыжная траса з электрычнымі ліхтарамі наўсцяж яе, пляцоўка для гульні ў хакей. Адным словам, не спяшайцеся ўладкоўвацца перад тэлевізарам, а лепш паглядзіце ў акно: ёсць дзе сілу паказаць, спрытнасці павучыцца. Вось адкуль такая статыстыка: толькі ў мінскім мікрараёне Чыжоўка за апошнія месяцы значкістамі комплексу ГПА сталі каля 10 тысяч фізкультурнікаў.

Аднак, апрача «праспектаў здароўя», ёсць у нас, на жаль, яшчэ і занядбаныя куткі, дзе аматараў спорту, як кажуць, днём з агнём не знойдзеш. Ведаць адрасы такіх «ціхіх затокаў» вельмі важна: трэба, каб і там завірыла жыццё.

Таму, паважаныя чытачы, рэдакцыя часопіса «Беларусь» сумесна са Спорткамітэтам БССР прапануе вам запоўніць бланк-запытанне. Вось ён:

*1. Ваша прозвішча, месца вучобы ці работы* ______________________

______________________

*2. Адрас* ______________________

*3. Агульная ацэнка спартыўна-масавай работы па месцы вашага жыхарства* ______________________

*4. Якая дапамога патрабуецца фізкультурнікам?* ______________________

______________________

______________________

______________________

*Аўтараў пісьмаў у часопіс, якія падзеляцца цікавымі і перспектыўнымі прапановамі па паляпшэнні спартыўна-масавай работы ў канкрэтным раёне, мікрараёне, на прадпрыемстве ці ў гаспадарцы, чакаюць памятныя сувеніры. Свае аўтографы падораць ім папулярныя спартсмены рэспублікі.*



ФИНИШ

Шашачны аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР Аркадзь РАКІТНІЦКІ.




## ПАВУЧАЛЬНЫ ЭЦЮД

Прапануем эцюд вядомага гомельскага майстра па шашачнай кампазіцыі Леаніда Вітошкіна.




**Выйгрыш.**

Лёгка пабудаваная пазіцыя змяшчае два практычныя прыёмы выйгрышу.

Прозвішчы тых, хто прышле правільныя адказы, будуць апублікаваны.

## ПАМЫЛКА ШАШАЧНАГА КАРАЛЯ

Шашачным каралём Масквы называлі сучаснікі аднаго з пераможцаў першага Усерасійскага чэмпіяната, які праходзіў у 1894 годзе, Фёдара Альбертавіча Каулена.

І сапраўды, усё сваё жыццё (1854—1915) ён разам з выдатным майстрам і таксама масквічом Сяргеем Андрэевічам Варанцовым, быў на чале многіх спаборніцтваў Расіі. Таму, калі на трэцім Усерасійскім чэмпіянаце 1898 года шашачны кароль у партыі супраць А. Бялова раптоўна прапанаваў смелы ход 1. c1—b2, то выклікаў захапленне прысутных.

Вось гэта становішча.




**Чорныя пачынаюць і выйграюць.**

Аднак Бялоў не трапіў у пастку знакамітага праціўніка, бо на ход 1...b4—a3? белыя адказалі б 2. f2—e3! a3:c1 3. e3—f4 і 4. h6:b8 з поўным разгромам пазіцыі чорных. І ўсё ж Бялоў быў так збянтэжаны гэтым нечаканым выпадам Каулена, што хутка дапусціў памылку і прайграў.

Савецкія майстры, аналізуючы гэту партыю, ўбачылі, што яна для Фёдара Каулена супраць значна слабейшага А. Бялова магла скончыцца паражэннем. Бо пасля, як аказалася, памылковага ходу белых 1. c1—b2? чорныя маглі ажыццявіць эфектную камбінацыю: 1...e5—f4!! 2. g3:g7 e7—f6 3. g7:e5 f8—g7! 4. h6:f8 b4—a3 5. f8:b4 a3:a3 і белыя павінны былі б здацца.

І гэта паражэнне пазбаўляла б Ф. А. Каулена тытула чэмпіёна Расіі 1898 года.

## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ АДКАЗЫ

**(Гл. «Беларусь» № 3 за 1985 г.)**

1. a1—b2 c3:a1 2. e7—f8 a1:h8 3. a3—b4 a5:c3 4. d6—c7 і 5. f8:a1 і выйграюць пры дапамозе прыёму слупняку.

ФЕЛЬЕТОН

# ЯКУЮ КАШУЛЮ ПРЫМЕРАЕМ?

Вясной усе — у абнóўках. Ці так здаецца?

Калі ў гэтыя дні навесці аб'ектыў на бліжэйшы тратуар, то слайд, які атрымаецца, будзе прыгожым, нібы злучаныя разам дзесяць вясёлак: настолькі яркія раўчукі пешаходаў.

Сакавік! Самы час зайсці ў магазін, які гандлюе адзеннем.

— Дзе тут лепшыя мадэлі кашуль? Хацелася б...

І вось пакупнік перад шэрагам «плечак» з вырабамі швейнікаў. І што дзіўна: у першае імгненне — яны прывабная загадка. Тое, аб чым марылася.

Але прыглядзеўся, прайшоўся паміж стройнымі радамі соцень навенькіх кашуль, і вусны самі шэпчуць:

— Няма нічога...

Парадокс? Ніякага!

У чым выехаць на дачу і што апрануць пад спяцоўку — гэта ёсць. Не праблема. Праблема — парадавацца гэткай кашулі, у якой юнак больш бадзёрым крочыць на спатканне, а той, у каго гэта ўжо ў мінулым,— на любую ўрачыстасць.

Словам, хочацца нечага новага, элегантнага і таннага. А такога сапраўды:

— Няма нічога...

Прадавец, праўда, звычайна ўдакладняе:

— У даны момант няма. Але — бывае. Заходзьце.

Ах, якім аптымізмам прасякнуты гэты маналог работніка прылаўка. Маўляў, сёння вам проста не пашанцавала. Заўтра — пашанцуе. Або ў канцы квартала.

Але дазвольце. Чаму пакупнік павінен да гудзення ў нагах весці пошук, да таго ж часта беспаспяховы? У яго ж справ і без гэтага дастаткова. І чаму на прылаўках да гэтага часу тыя самыя кашулі, у якіх будавалі апоры ЛЭП героі вядомага фільма «Вышыня»?

Усё вельмі проста. І — складана. Пагутарыце са спецыялістамі, закліканымі клапаціцца аб прыгажосці і сучаснасці нашага адзення. Яны растлумачаць вам, якімі шырокімі крокамі ідуць наперад нашы швейнікі. Вось-вось парыжскіх зазДРУ пакінуць. Аб «яшчэ наяўных недахопах» будзе зазначана між іншым.

Вы нават, магчыма, збянтэжыцеся. І папросіце прабачэння за турботу. Я, напрыклад, ледзь стрымаўся ад гэтага. Стрымаўся і наведаў Дзяржынскую швейную фабрыку. Адну з лепшых у Беларусі. Не, тут зусім не лічаць, што пад сімпатычнымі рознакаляровымі курткамі абавязкова трэба насіць кашулі колеру заляжалага таннага цэменту. Да таго ж з адзінай канструктыўнай асаблівасцю: «класічная» накладная кішэня. Але шыюць такія. І — у вялізнай колькасці. Навошта?!

— Ёсць заказ.

Якімі надзіва рознымі бываюць заказы!

Вось упакоўваюцца дзве гатовыя кашулі. Зроблены адначасова.

Першай хочацца любавацца. Яе будуць не купляць, а браць штурмам, нервуючыся ў чэргах.

Другую добра б вярнуць у цэх на прадмет перашыўкі або адразу ж уцаніць.

Таму што:

— Непрыгожы, нямодны, устарэлы выраб.

Але якраз такіх — багата ў любым універмагу.

Калі адзін вельмі папулярны артыст выйшаў да тэлевізійных камер у кашулі з каўняром «стойка без адлёту», дзяржынскія швачкі ахнулі:

— Наша, наша мадэль — 6565.

А некаторым работнікам гандлю Гомельскай вобласці стала крыху не па сабе:

— Можа, і дарма адмовіліся...

І тут якраз напрошваецца адказ на многія «чаму?».

Уявіце: ад гэтай самай «стойкі без адлёту», як ад камара, адмахваліся звышасцярожныя заказчыкі. І прыводзілі «аргументы»:

— Яшчэ невядома, як успрыме навінку працаўнік сяла. Гэта ў сталіцах моднікі. Нам бы што папрасцей.

Нават на выстаўках-кірмашах адхіляюцца без усякай разумнай матывіроўкі падтрыманыя швейнікамі цікавыя прапановы Рэспубліканскага дома мадэлей. Ах, як шчыра прадстаўнікі іншых аптовых баз лічаць толькі сваю суб'ектыўную думку дакладным экранам попыту пакупнікоў!

Ці добры гэты «экран»? Дрэнны ён, дрэнны. Таму што ніхто ні з маладых, ні з пажылых, ні з гараджан, ні з вяскоўцаў не можа сказаць:

— Заўтра пайду ў магазін і куплю добрую кашулю.

А гавораць:

— Трэба паездзіць па магазінах.

Пакупніка не цікавіць, з-за чаго фабрыкі атрымліваюць мала гладкафарбаваных тканін, па якіх таких прычынах металічныя гузікі-запінкі заказваюцца ленінградскаму, а не мінскаму заводу металафурнітуры, ды і то ў мізэрных колькасцях, па чыёй віне ўпакоўваецца кашулі на кардоне маркі «Г», які ў адрозненне ад марак «А» і «Б» не здольны трымаць тканіну ў стане нацягнутай струны, але затое хутка давозіць яе да выгляду пакамечаных анучы.

Пакупніка хвалюе іншае — як улічваецца і забяспечваецца яго попыт.

Цяпер вялікія правы ў фарміраванні планаў вытворчасці тавараў народнага спажывання дадзены гандлю. Але, каб на прылаўках магазінаў часцей з'яўляліся ўдалыя, сучасныя вырабы, трэба павысіць дысцыпліну заказу.

Гэта — патрабаванне часу.

**Валерый ЛАРЫН.**

# ГУМАР








Малюнкі Людмілы ГРАМОВІЧ.

# КРАСВОРД

Склаў Вячаслаў ІГНАЦЮК.



1. Скульптар, народны мастак СССР, аўтар скульптурнай групы «Рабочы і калгасніца». 2. Першая ў Расіі жанчына-афіцэр, удзельніца Айчыннай вайны 1812 года. 3. Інструмент для правядзення ліній, паралельных краю якой-небудзь дэталі. 4. Камедыя М. В. Гогаля. 5. Грашовая адзінка Старажытнай Грэцыі. 6. Жанр жывапісу. 7. Амерыканскі пісьменнік. 8. Вуглявод, які ўтвараецца ў зялёных частках раслін. 9. Шлях руху нябеснага цела. 10. Карціна В. Р. Пярова. 11. Дзяячка рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, Герой Савецкага Саюза. 12. Італьянскі фізік, механік і астраном. 13. Опера Ж. Бізэ. 14. Выдатны італьянскі спявак. 15. Міжнародны дагавор, пагадненне. 16. Від гарадскога транспарту. 17. Дзяячка расійскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху. 18. Сузор'е Паўночнага паўшар'я неба. 19. Агародная харчовая і кармавая культура. 20. Сталіца Венесуэлы. 21. Хімічны элемент, метал. 22. Вельмі цвёрды мінерал, вокісел алюмінію. 23. Французскі матэматык, фізік, філосаф XVII стагоддзя. 24. Буйны музычны твор урачыстага характару. 25. Дзяржава ў Афрыцы. 26. Самае глыбокае возера ў свеце. 27. Від агнястрэльнай зброі. 28. Марская промысловая рыба. 29. Савецкая актрыса кіно і тэатра, народная артыстка СССР. 30. Узнагарода. 31. Раман Л. М. Лявонава. 32. Горад-порт у Канадзе. 33. Шэраг аднолькавых арак, якія апіраюцца на слупы або калоны. 34. Апрацаваная салома льну, каноплі. 35. Спіс, пералік прадметаў, складзены ў пэўным парадку. 36. Назва серыі савецкіх штучных спадарожнікаў Зямлі.

**АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 2**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Застава. 8. Абеліск. 11. Парад. 12. Месяц. 13. Штурмавік. 17. Мішэнь. 20. Маршал. 21. Каземат. 22. Казак. 23. Мачта. 24. Есаул. 25. Варта. 26. Казей. 29. Днепр. 31. Кукарда. 32. Партыя. 33. Боцман. 37. Патранташ. 41. Фамін. 42. Брэст. 43. Тарпеда. 44. Агрэсія.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Талаш. 2. Ракета. 3. Дазор. 4. Каска. 5. Берлін. 6. Ісаеў. 9. Гаўбіца. 10. Сяржант. 14. Мележ. 15. Анікейчык. 16. Касмадром. 18. Мазурук. 19. Каманда. 27. Абардаж. 28. Каюта. 30. Пратэст. 34. Карцеч. 35. Рапарт. 36. Віраж. 38. Радар. 39. Наган. 40. Армія.

